КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 4 (275) ‹ 27 студзеня ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ГРОШЫ ПАД НАГАМІ**

Стар. 6

**БАЛАДА ПРА ЯЎКУ**

Усе папярэднія выбарчыя кампаніі апазіцыя выконвала ролю спарынг-партнёра ўлады, але сёння ў яе з'явіўся шанец на ўласную ролю

Стар. 4

**ПАРТЫІ ВЫЙДУЦЬ З ПАДПОЛЛЯ**

Пра магчымыя пагрозы і перспектывы палітычнай рэформы для крамлёўскай эліты журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з расійскім журналістам Аляксеем Тарасавым

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НЯСКОРАНЫ МІХАІЛ МАРЫНІЧ**

Нарыс Аляксандра Тамковіча з цыклу «Лёсы»

З НАГОДЫ

# ДАЦІСНУЦЬ СВАІХ АПАНЕНТАЎ

Вольга ХВОІН

**Савет ЕС па замежных справах пашырае крытэры абмежавальных мер у дачыненні да беларускіх асоб і арганізацый. Афіцыйны Мінск стаў у выразную пазіцыю супрацьпастаўлення — ціск на палітвязняў павялічваецца, рэжым ідзе на канфрантацыю нават у выпадках, калі без страты гонару можна было зрабіць міратворчы крок.**




«Савет абмяняўся меркаваннямі накont сітуацыі ў Беларусі. Ён прыняў рашэнне пашырыць крытэры прымянення абмежавальных мер у дачыненні да фізічных і юрыдычных асобаў. Гэта дае магчымасць вызначаць у далейшым тых, хто адказны за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека ці падаўленне грамадзянскай супольнасці і дэмакратычнай апазіцыі, ці тых, хто падтрымлівае рэжым Лукашэнкі ці атрымлівае ад яго выгоды», — гаворыцца ў афіцыйным паведамленні Савета ЕС.

«Што тычыцца Беларусі, мы гаварылі пра наша нязменнае імкненне ўзаемадзейнічаць з беларускім народам і нашу сталую занепакоенасць тым, што беларускія ўлады не даюць адказаў на патрэбы народа краіны і тыя важныя пытанні, якія мы ўзнімаем няспынна», — заявіла высокі прадстаўнік ЕС Кэтрын Эштан.

Разам з тым Мінскі гарадскі суд пакінуў у сіле вырак суда першай інстанцыі адносна старшыні «Вясны» Алеся Бяляцкага, якога прыгаварылі да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за «утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры». Праваабаронцы рыхтуюцца пакінуць памяшканне, дзе месціўся ПЦ «Вясна» больш за дзесяць гадоў. Пакаранні ў выглядзе канфіскацыі маёмасці і абмежавання волі Бяляцкаму суд пакінуў у сіле, нягледзячы на тое, што з грамадскіх ахвяраванняў была кампенсаваная шкода, якую Бяляцкі быццам бы нанёс дзяржаве.

Праваабаронца Тацццяна Равяка распавяла, што была інфармацыя, датычная да пасяджэння Савета Еўрасаюза. «Беларуская амбасада ў адной з еўрапейскіх краін ставіла перад міністрамі замежных спраў краін-удзельніц ЕС умову, што прысуд па Бяляцкаму будзе наўпрост залежаць ад рашэння пра санкцыі ў дачыненні да афіцыйнага Мінска. І паколькі ў панядзелак было прынята рашэнне, што санкцыі будуць працягнутыя і ўведзены новыя, то вось такі вынік мы і атрымалі ў аўторак. Так што пытанне Бяляцкага было пастаўлена ў прамую залежнасць ад санкцый», — падкрэсліла спадарыня Равяка.

Цягам апошніх месяцаў на палітвязняў, што засталіся за кратамі, узмацняецца ціск і ізаляцыя, у больш жорсткія ўмовы ўтрымання, у турмы, былі пераведзеныя экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч і ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч. Разам з тым на апошняй прэс-канферэнцыі Лукашэнка заяўляў, што чакае ад палітвязняў прашэнняў аб памілаванні. «Абсалютна канкрэтна вам адказваю — памілую чалавека і магу памілаваць таго, які да мяне звярнуўся за памілаваннем. Не звернуцца, будуць сядзець у турме... Я магу памілаваць, магу і не памілаваць. Хоць і тут ёсць пэўныя фактары, што як стрымліваюць, так і падштурхоўваюць мяне да гэтага. Маё права канстытуцыйнае», — падкрэсліў Лукашэнка. Жонка Андрэя Саннікава Ірына Халіп распавяла пасля спаткання з мужам, што катаванні і пагрозы «па выбіванні з яго прашэння аб памілаванні» пачаліся ў верасні. У выніку яшчэ 20 лістапада, знаходзячыся на чарговым этапе ў магілёўскай турме, экс-кандыдат напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Але ніякай рэакцыі з боку ўладаў на прашэнне Саннікава пакуль не паступіла.

Ва ўмовах маўклівай згоды на падобныя ўнутраныя справы расійскага хаўрусніка і адсутнасці пільнай патрэбы кантакту з Захадам улада мае магчымасць даціскаць сваіх апанентаў, вымагаючы маральную сатысфакцыю і на ўнутраным, і на знешнім полі, ды аспрэчваць ультыматумы Еўропы. Зрэшты, і ЕС у сваіх патрабаваннях не катэгарычны. Раз-пораз з'яўляецца інфармацыя, што нават «неўязным» робяцца паблажкі ў выглядзе візаў. Апошні інцыдэнт — неўязны міністр унутраных спраў Куляшоў наведаў штаб-кватэру Інтэрпола ў Францыі.

Аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) Дзяніс Мельянцоў апублікаваў артыкул, у якім піша, што эфектыўнасць «чорных спісаў» Еўрасаюза вельмі нізкая. «За 15 гадоў санкцыяў сітуацыя не толькі не палепшала, але працягвае пагаршацца. На пашырэнне абмежавальных мер з боку Захаду Мінск адказвае ўзмацненнем рэпрэсіяў і антызаходняй рыторыкай. Ізаляцыя з боку ЕС вядзе да ўсё большага збліжэння Беларусі з Расіяй. Разам з тым, усё больш беларускіх і заходніх экспертаў падкрэсліваюць, што для лібералізацыі краіны патрэбны дыялог і супрацоўніцтва з Еўрасаюзам, а не санкцыі і ізаляцыя, — прыводзіць аргументы палітолаг, бо, паводле яго ацэнак, на паўнавартасныя санкцыі ЕС не здольны, адпаведна, і займацца безвыніковай справай не мае сэнсу. — Меры, што ўжываюцца Еўрапейскім саюзам да Беларусі, могуць называцца санкцыямі толькі ўмоўна». Паводле палітолага, самая моцная санкцыя сёння — супрацоўніцтва.

На погляд іншых аналітыкаў і палітыкаў, гэта вельмі сумнеўная аргументацыя, якая знаходзіцца на мяжы адкрытага калабарацыянізму, свядома ці не свядома працуе на карысць рэжыму, яго самазахавання. Не гаворачы ўжо пра маральны бок праблемы ў адносінах да палітвязняў.

Беларусь застаецца для Еўропы праблемнай кропкай, і ні адзінай стратэгіі паводзінаў, ні разумення, як трэба сябе паводзіць з вышэйшым кіраўніцтвам дзяржавы, няма. Няўцямныя паводзіны Захаду, фінансавая падтрымка і патуранне Расіі ствараюць добрую глебу для дрэйфу Беларусі ў абдымкі Крамля і вынішчэння апанентаў дзейснага рэжыму цяпер і ў перспектыве.

Еўрапейскім палітыкам і дыпламатам застаецца толькі прызнавацца, што «Еўропа ўжо стамілася ад дрэнных навінаў з Беларусі», але як пераламаць гэтую завядзёнку — не вядома.

ПАДТРЫМКА




Жан Мары Ражэ, Саша Кулаева, Валянцін Стэфановіч, Штэфан Фюле

# ФЮЛЕ СУСТРЭЎСЯ З АКТЫВІСТАМІ «ВЯСНЫ»

**Камісар ЕС па пытаннях пашырэння і палітыцы суседства Штэфан Фюле сустрэўся з намеснікам старшыні беларускага праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцінам Стэфановічам, каб абмеркаваць становішча праваабаронцаў у Беларусі.**

Спадар Фюле яшчэ раз выказаў падтрымку мужнай працы праваабаронцаў у Беларусі, якія, нягледзячы на ўсё больш складаныя ўмовы працы, працягваюць змагацца, абараняючы дэмакратычныя прынцыпы і правы чалавека. У гэтым кантэксце камісар Фюле выказаў занепакоенасць з нагоды палітычна матываванага пераследу праваабарончага цэнтра «Вясна».

Сустрэча адбылася адразу пасля таго, як Мінскі гарадскі суд адмовіў у задавальненні касацыйнай скаргі Алеся Бяляцкага.

Камісар Фюле выказаў глыбокую занепакоенасць з нагоды гэтага рашэння і яшчэ раз падкрэсліў заклік ЕС да беларускіх уладаў неадкладна і без усялякіх умоў вызваліць спадара Бяляцкага і зняць абвінавачанні з яго і яго намесніка Валянціна Стэфановіча.

Камісар Фюле таксама падкрэсліў сваю асабістую рашучасць узмацніць супрацоўніцтва з беларускай грамадзянскай супольнасцю і з тымі грамадзянамі Беларусі, якія падтрымліваюць рэформы і мадэрнізацыю, з тым, каб разам працаваць над вяртаннем краіны ў еўрапейскую сям'ю дэмакратычных нацый.

**Паводле DELEGATION BELARUS PRESS**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# САННІКАВА КАТАВАЛІ І ПАГРАЖАЛІ СЯМ'І

**Генадзь КЕСНЕР**

**Шляхам катаванняў і пагроз жыццю яго сям'і з Андрэя Саннікава выбілі прашэнне аб памілаванні. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 25 студзеня распавяла Ірына Халіп. Паводле яе слоў, пагроза жыццю яе мужа пасля гэтага толькі ўзмацнілася.**



Ірына Халіп разам з маці Андрэя Саннікава Алай Уладзіміраўнай 24 студзеня наведалі калонію «Віцьба–3», дзе зараз адбывае пяцігадовае пакаранне палітык. Родныя ўбачылі Саннікава ўпершыню за тры месяцы. Таксама ўпершыню за працяглы час да палітвязня дапусцілі ягонага адваката. Як распавяла Ірына Халіп, і яе муж, і ягоны абаронца былі папярэджаныя адміністрацыяй папраўчай установы, што калі гутарка пойдзе па-за межамі крымінальнай справы і наглядных скаргаў, то сустрэча адразу ж будзе спыненая, а адвакаты больш не атрымаюць доступу да падабароннага. Да таго ж, сустрэча адваката з Саннікавым праходзіла пад аўдыё- і відэазапіс, пад наглядам прадстаўніка адміністрацыі калоніі. «Менавіта таму абаронца потым сказала, што Андрэй нібыта выглядае някепска і не мае скаргаў на здароўе. Гэта таксама было ўмовай», — адзначыла жонка палітыка.

Ірына была ўражаная, калі праз доўгі час убачыла свайго мужа. «Гэта быў чалавек, які за тры месяцы прайшоў сама мала дзесяць гадоў лагераў. Канкрэтна Андрэй нічога не мог сказаць, было відаць, што яму гэта забаронена», — лічыць Ірына Халіп.

Паводле яе слоў, 16 лістапада 2011 года Саннікава прывезлі ў турму горада Магілёва, і вось з 16 да 20 лістапада з ім там адбывалася нешта жахлівае. «Я напісала цыдулку: ці пагражалі нашай сям'і? Андрэй кіўнуў. Справа ў тым, што я зараз у вельмі складаным становішчы, бо асуджана з адтэрміноўкай выканання прысуду. У мяне каменданцкая гадзіна, вечарамі да мяне прыходзяць міліцыянты. Калі мне ў 11 гадзін вечара пазвоняць у дзверы і скажуць: «Адчыніце, міліцыя!», то я абавязаная ім адчыняць. Вы можаце зразумець, што з гэтымі словамі да мяне можа прыйсці хто заўгодна. Такім чынам, шляхам пагроз і катаванняў яны выбілі з Андрэя прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі», — распавяла Ірына Халіп.

Жонка Саннікава звярнула ўвагу, што адбылося гэта яшчэ 20 лістапада мінулага года.

«Цяпер пытанне: калі Лукашэнка яшчэ летась 20 лістапада атрымаў так жаданую ім паперку за подпісам свайго самага моцнага суперніка, то чаму ён не размахваў ёю на сваёй прэс-канферэнцыі напрыканцы снежня? Чаму ён казаў, што палітзняволеныя не хочуць пісаць прашэнні і таму сядзяць? Андрэй здолеў мне сказаць адну фразу: «Мая адсідка скончылася ў верасні, затым пачаліся катаванні». То бок, катаваннямі і пагрозамі з яго выбілі гэтую паперку. Дык чаму ж Лукашэнка зрабіў выгляд, што нічога гэтага не існуе? Тут могуць быць толькі два варыянты. Альбо на самай справе Лукашэнка ўжо даўно не кантралюе сітуацыю, і яму ўжо не дакладаюць, што на самай справе адбываецца, а краінаю насамрэч кіруюць «шэрыя кардыналы». Альбо тое, пра што сказаў Андрэй, — у рэальнасці Лукашэнку не патрэбны ніякія паперкі. Гэта ўсё «адмазка» для журналістаў, якія задаюць пытанні. Перад Лукашэнкам стаіць задача не выпусціць іх жывымі. Калі спатканне ўжо скончылася, і мы пакідалі пакой, Андрэй прыклаў да шкла цыдулку, дзе было напісана: «Гаворка ідзе пра выратаванне жыцця. Мяне могуць забіць у любы момант». Цяпер я разумею, навошта Міколу Статкевіча накіравалі ў тую ж Магілёўскую турму, як мага далей ад любых сведак. Чаму не адпускаюць хворага Змітра Бандарэнку. Іх проста збіраюцца забіць, яны не патрэбны ўладам жывыя», — мяркуе Ірына Халіп.

Па словах журналісткі, маці Андрэя Саннікава вельмі цяжка перанесла сустрэчу: «Яна праплакала ўсе чатыры гадзіны, пакуль мы вярталіся дадому, і я нічым не магла яе суцешыць».

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ НА ЭТАПЕ

**На імя галоўнага рэдактара «Новага часу» прыйшоў ліст ад палітзняволенага Мікалая Аўтуховіча. Ён датаваны 19 студзеня, а поштай дастаўлены 23 студзеня.**



Ужо гэта ўспрымаюцца як факт у чымсьці нават суцяшальны. Значыць, Мікалай жывы і адносна здаровы пасля тых цяжкіх выпрабаванняў, што абрынула на яго адміністрацыя калоніі апошнім часам. Адмянілі спатканне з жонкай, на месяц перавялі ў памяшканне камернага тыпу (ПКТ), урэшце асудзілі яшчэ раз і змянілі ўмовы ўтрымання на больш жорсткія — з калоніі ў турму. Вязень сумлення не зламаўся, трымаецца з гонарам.

У сваім лісце Мікалай Аўтуховіч дзякуе ўсім за падтрымку, а рэдакцыю — за газету, якую просіць пераадрасаваць з наступнага нумару ў гродзенскую турму. «21 студзеня, — паведамляе ён, — этап, і дзесьці праз тыдзень павінен быць на месцы».

Тое, што газета даходзіла да Мікалая ў калонію, таксама добрая навіна, асабліва з улікам таго, што з дастаўкай газет (асабліва незалежных), гэтак жа, як і лістоў, палітвязням у месцы іх зняволення наглядаецца шмат незразумелага. Далёка не ўсе палітвязні і далёка не заўсёды іх атрымліваюць, нярэдка ўзнікаюць перапынкі па часе, многія нумары газеты адміністрацыя вяртае ў рэдакцыю.

На «Новы час», у прыватнасці, падпісаны ўсе палітвязні, аднак рэдакцыя атрымала зварот усіх нумароў са шклоўскай калоніі №7, адрасаваных Мікалаю Статкевічу, вярталіся нумары, што дасылаліся Яўгену Васьковічу ў магілёўскую турму №4, Арцёму Пракапенку зноў жа ў шклоўскую калонію №7, Зміцеру Дашкевічу ў калонія №9 у Горках.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «ВЯСНУ» ВЫСЯЛЯЮЦЬ

**Генадзь КЕСНЕР**

**Забаронены ўладамі Праваабарончы цэнтр «Вясна» рыхтуецца пакінуць памяшканне, якое ён займае больш за дзесяць гадоў.**

«Мы ўжо пачалі пакаваць рэчы, плануем выязджаць з офіса, бо ў любы момант яго могуць апячатаць, — распавяла прадстаўніца «Вясны» Таццяна Равяка. — У нас, праўда, яшчэ застаецца магчымасць абскарджання выраку ў парадку нагляду на імя старшыні Мінскага гарадскога суда і Вярхоўнага суда. Ясна, што мы будзем падаваць скаргу і ў Камітэт ААН па правах чалавека».

Што да разгляду касацыйнай скаргі Мінгарсудом 24 студзеня, то, па словах праваабаронцы, пасля агучвання вердыкту ўсе прысутныя былі літаральна ў шоку.

Праваабаронца распавяла пра шматзначную інфармацыю, якую «Вясна» атрымала з Еўропы. «У панядзелак, 23 студзеня, адбылося пасяджэнне Савета Еўрасаюза. Беларуская амбасада ў адной з еўрапейскіх краін ставіла перад міністрамі замежных спраў краін-удзельніц ЕС умову, што прысуд па Бяляцкаму будзе наўпрост залежаць ад рашэння пра санкцыі ў дачыненні да афіцыйнага Мінска. І паколькі ў панядзелак было прынята рашэнне, што санкцыі будуць працягнуты і ўведзены новыя, то вось такі вынік мы і атрымалі ў аўторак. Так што пытанне Бяляцкага было пастаўлена ў прамую залежнасць ад санкцый», — падкрэсліла Таццяна Равяка.

Праваабаронца распавяла, што вясноўцы спадзяваліся захаваць хаця б офіс арганізацыі, які запісаны на Алеся Бяляцкага. «А зараз увогуле незразумела, якую маёмасць збіраюцца канфіскаваць. Варта адзначыць, што гэта маёмасць набытая ў шлюбе: у 1999-м годзе была набытая кватэра, у якой жывуць Бяляцкія, у 2000-м годзе быў набыты цяперашні наш офіс. Але ніякай ацэнкі з пункту гледжання таго, што гэта фармальна маёмасць сям'і, нават не прагучала. Усё выстаўляецца так, што нібыта ўся маёмасць належала аднаму Алесю, так што пакуль нават не зразумела, ці канфіскуюць тую кватэру, у якой жыве зараз сям'я Бяляцкага. Гэта нейкі нонсэнс», — рэзюмавала Таццяна Равяка.

Выглядае на тое, што беларуская дэмакратычная супольнасць пазбавілася яшчэ аднаго офіса. Але самым страшным можа стацца тое, калі літаральна на вуліцы апынуцца жонка і сын апальнага праваабаронцы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПЫТАННЕ НА БУДУЧЫНЮ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Галоўнае пытанне на будучыню — ці атрымаецца замірэнне з Еўрапейскім саюзам з боку Беларусі? Здаецца, што не.**




Пачынаецца са справы Бяляцкага. 24 студзеня Мінскі гарадскі суд не задаволіў касацыйную скаргу Алеся Бяляцкага, пакінуўшы ў сіле прыгавор суда Першамайскага раёна. Рашэнне судовай калегіі абвясціў 24 студзеня суддзя Уладзімір Сцяпурка.

Такім чынам, Бяляцкі застаецца за кратамі, а канфіскацыя яго маёмасці застаецца ў сіле. На рашэнне суда не паўплывалі той факт, што сума ўрону, які нібыта нанёс дзяржаве Бяляцкі (757 млн. 526 тыс. 717 рублёў, ці каля 90 тыс. долараў) была пераведзена 18 студзеня на рахунак суда Першамайскага раёна.

У выніку катаванняў Андрэй Саннікаў, асуджаны кандыдат у прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года, напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску 25 студзеня яго жонка Ірына Халіп, якая сустракалася з Саннікавым у калоніі «Віцьба–3» 24 студзеня.

Паводле слоў Халіп, падчас спаткання муж даў ёй зразумець, што з ім адбывалася «штосьці жудаснае».

Тым часам, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы заклікае Камітэт міністраў СЕ рэкамендаваць дзяржавам-сябрам далучыцца да адрасных санкцый Еўрасаюза адносна Беларусі. Адпаведнае рашэнне было прынята 25 студзеня на пасяджэнні ПАСЕ ў Страсбургу пасля абмеркавання даклада аб сітуацыі ў Беларусі.

На думку дэпутатаў, краіны-сябры СЕ павінны прытрымлівацца санкцый адносна Беларусі да тых часоў, пакуль не будуць вызваленыя і цалкам рэабілітаваныя ўсе палітзняволеныя.

Акрамя таго, ПАСЕ заклікае дзяржавы — сябры Савета Еўропы выкарыстаць «наяўныя ў іх палітычныя і дыпламатычныя рычагі для таго, каб пераканаць улады Беларусі ажыццявіць заканадаўчыя ініцыятывы, каб прывесці нацыянальнае заканадаўства ў адпаведнасць з прызнанымі міжнароднымі праваабарончымі стандартамі, і на праве супрацоўнічаць з Саветам Еўропы, АБСЕ, ЕС, а таксама органамі ААН».

ПАСЕ заклікае пашыраць каналы зносін з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці, незалежнымі СМІ і апазіцыяй, а таксама разглядзець магчымасць зніжэння або адмены візавых збораў для грамадзян Беларусі.

Але, нягледзячы на рэакцыю ПАСЕ (якая, насамрэч, нічога не вырашае), беларускія ўлады спалохаліся. Як паведаміў 25 студзеня на прэс-канферэнцыі старшыня Канстытуцыйнага суда Пётр Міклашэвіч, пазіцыя ягонага ведамства адносна прымянення смяротнай кары можа быць удакладненая.

Паводле яго слоў, гэта адбудзецца, калі ўпаўнаважаныя суб'екты звернуцца ў КС па тлумачэнні з нагоды раней прынятага КС рашэння ці для вынясення новага рашэння «па гэтай праблеме ў сучасных умовах».

Ранейшая пазіцыя суда палягала ў тым, што Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што прэзідэнт ці парламент могуць ва ўстаноўленым парадку прыняць рашэнне аб увядзенні мараторыя ці адмене смяротнай кары. Пры гэтым Міклашэвіч звярнуў увагу на тое, што, паводле артыкула 140 Канстытуцыі, унясенне змяненняў у шэраг артыкулаў асноўнага закона, у тым ліку артыкул 24, што датычыцца смяротнай кары, магчыма толькі праз рэферэндум.

## Мінскі гарвыканкам адмовіў кандыдату ў прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Дзмітрыю Усу ў правядзенні сходу ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за змяненне Выбарчага кодэкса

Міклашэвіч паведаміў, што ў 2011 годзе звароты грамадзян у КС пра адмену смяротнай кары, пра дапаможнік не ацэнкі гэтай з'яве не паступала.

Калі старшыня Канстытуцыйнага суда не ведае, што грамадства наўпрост не можа звярнуцца да Канстытуцыйнага суда, то які ж ён канстытуцыйны суддзя? Згодна з заканадаўствам, звяртацца ў Канстытуцыйны суд могуць толькі прэзідэнт, Савет Рэспублікі, Палата прадстаўнікоў, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, і Савет міністраў. Ні аб якіх зваротах грамадзян размовы нават не ідзе! І канешне, натуральна, зваротаў грамадзян не паступала. Проста таму, што КС іх не прымае.

У той жа момант Міклашэвіч заявіў, што найбліжэйшым часам беларускія ўлады могуць вярнуцца да пытання аб увядзенні ў краіне інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека.

«У цэлым Канстытуцыйны суд падтрымлівае ідэю ўвядзення інстытута ўпаўнаважанага па правах чалавека, бо гэта сапраўды будзе з'яўляцца дадатковай гарантыяй абароны правоў і свабодаў нашых грамадзян. Адзін час распрацоўваўся праект закона. Я думаю, неўзабаве мы вернемся да гэтага пытання на дзяржаўным узроўні», — сказаў Міклашэвіч.

Паводле яго слоў, у адных выпадках амбудсмен «выконвае ролю парламенцкага абаронцы, у іншых — народнага абаронцы». «Да амбудсмена могуць звяртацца грамадзяне па абарону тых ці іншых правоў, а ён ужо ставіць ва ўстаноўленым парадку перад адпаведнымі органамі пытанні аб аднаўленні парушаных правоў і законных інтарэсаў чалавека», — растлумачыў Міклашэвіч.

Мінскі гарвыканкам адмовіў кандыдату ў прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Дзмітрыю Усу ў правядзенні сходу ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за змяненне Выбарчага кодэкса.

«У лісце з Мінгарвыканкама напісана, што заяўка пададзена з парушэннем. З якім менавіта, высветліць не атрымалася», — паведаміў Ус.

Паводле яго меркавання, улады свядома перашкаджаюць рэалізацыі грамадзянамі права заканадаўчай ініцыятывы, бо не зацікаўлены ў дэмакратычных змяненнях выбарчага заканадаўства.

Хто б сумняваўся. Яшчэ на naрадзе ў мінулым годзе паміж Ярмошынай і Лукашэнкам было агучана — зменаў у заканадаўстве напярэдадні парламенцкіх выбараў не будзе.

Беларускія ўлады вагаюцца, што ж рабіць. Верагодна, ім і «хочацца, і колецца». З аднаго боку, трэба забяспечыць сабе «заходні тыл» на будучыню, калі раптам сітуацыя з Расіяй зменіцца. З іншага боку, Захад можа прыняць прынцыповую пазіцыю адносна Беларусі. І тады — абсалютны крызіс. А націск — і не толькі з боку Захаду, а і з боку беларускага грамадства, узрастае. Вызваленне палітвязняў можа паслабіць гэты ціск. Але не факт, што ён будзе паслаблены.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ДАР'Я ДОМРАЧАВА

Біятланістка Дар'я Домрачава завяршыла этап Кубка свету па біятлоне ў італьянскім Антхольцы перамогай у гонцы з масавым стартам. Домрачава дапусціла два промахі на першай стральбе і займала 26-ю пазіцыю, але на наступных агнявых рубяжах была дакладная і атрымала ўпэўненую перамогу.

Другое месца заняла славачка Анастасія Кузьміна, трэцяй фінішавала лідар агульнага заліку Магдалена Нойнер з Германіі.

Яшчэ адна беларуска Надзея Скардзіна дапусціла 1 промах і паказала на фінішы 21-ы вынік.

Беларуская жаночая каманда трапляла на подыум у кожнай гонцы этапу ў Антхольцы: Домрачава стала трэцяй у спрынце і першай у мас-старце, а ў суботу другое месца заняла беларуская эстафетная чацвёрка.

У агульным заліку Кубка свету Домрачава займае другое месца, саступаючы толькі немцы Магдалене Нойнер.

Наступны этап Кубка свету стартуе 2 лютага ў нарвежскім Халменколене.



### АНАТОЛЬ КУЛЯШОЎ

Міністр унутраных спраў Беларусі Анатоль Куляшоў на мінулым тыдні рызыкаваў стаць суб'ектам міжнароднага скандалу. Але са слізкай сітуацыі выйшаў сухім і свабодным. Французскі адвакат Уільям Бурдонаў падаў іск супраць беларускага міністра, які знаходзіўся з візітам у Францыі па запрашэнні Інтэрпола. Нягледзячы на высокі статус чыноўніка і афіцыйнае запрашэнне, абвінавачванні француза былі досыць сур'ёзныя. На думку Бурдонава, паліцыя мусіла неадкладна арыштаваць Куляшова, які знаходзіўся ў Ліёне на канферэнцыі Інтэрпола. Абаронца растлумачыў, што следчыя абавязаны высветліць ступень удзелу кіраўніка беларускага МУС у разгоне апазіцыі 19 снежні 2010 і далейшых катаваннях арыштаваных.

Аднак пасля канферэнцыі Інтэрпола Куляшоў пакінуў Францыю без перашкодаў. Юрысты, якія ініцыявалі пазоў аб затрыманні аднаго з галоўных сілавікоў Беларусі, заявілі, што ўвогуле не разумеюць, чаму «неўязнога ў ЕС» Куляшова наогул запрасілі ў Францыю. Яны мяркуюць, што пасля вяртання Анатоля Куляшова ў Беларусь застаюцца адкрытымі пытанні: чаму яму дазволілі наведаць Францыю і чаму французскае правасуддзе бяздзейнічае?

### ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА



Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына цягам тыдня двойчы была аб'ектам увагі. Першы раз, калі ў эфіры праграмы «Актуальнае інтэрв'ю» на тэлеканале «Беларусь–1» заявіла, што тэрытарыяльна Беларусь не больш чым Маскоўская вобласць (да ведама, тэрыторыя Беларусі ў 4,5 разы большая за тэрыторыю Маскоўскай вобласці). Такую заяву дзяржаўны чыноўнік, што адказвае за дакладнасць падлікаў, зрабіла, аргументуючы магчымае скарачэнне колькасці незалежных назіральнікаў на выбарах у Беларусі.

Да таго старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына паведаміла БелаПАН, што Цэнтрвыбаркам не будзе рэкамендаваць уключаць у выбарчыя камісіі большую колькасць прадстаўнікоў апазіцыі. «Мы не можам рэкамендаваць. Больш таго, не буду я гэтага рабіць. Таму што тыя асобы, якія працавалі ў выбарчых камісіях ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах, не дапамагалі, а пагаршалі стан спраў. Яны рабілі абстаноўку ў камісіях абсалютна канфліктнай, немагчымай для працы астатніх членаў камісіі», — сказала яна.

Ярмошына лічыць, што пры фармаванні выбарчых камісій трэба зыходзіць з персаналій. «Калі персаналіі сябе дрэнна зарэкамендавалі, то незалежна ад палітычных пераваг цалкам абгрунтавана будуць прымацца рашэнні, якія не будуць уключаць у камісіі дадзеных асоб», — заявіла кіраўнік ЦВК.

Яна падкрэсліла, што «гэта права мясцовых выканаўчых органаў — уключаць ці не ўключаць прадстаўнікоў апазіцыі». «Тут ніякіх указанняў быць не можа. Рашэнні будуць прымацца зыходзячы з мясцовых умоў, кожнай мясцовай уладай горада, раёна, рэгіёна самастойна», — адзначыла Ярмошына.

Лідзія Ярмошына таксама адзначыла, што пагрозы байкоту выбараў гучаць напярэдадні кожнай выбарчай кампаніі. Аднак, мяркуе старшыня Цэнтрвыбаркама, за мінулыя 11 гадоў ніхто дзеянняў па байкоту не рабіў. На думку кіраўніцы ЦВК, насельніцтва перш за ўсё зацікаўлена не ў палітычнай разнастайнасці, а ва ўстойлівым існаванні дзяржавы.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БАЛАДА ПРА ЯЎКУ

Сяргей НІКАЛЮК

**Усе папярэднія выбарчыя кампаніі апазіцыя выконвала ролю спарынг-партнёра ўлады, але сёння ў яе з'явіўся шанец на ўласную ролю.**



На выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў у красавіку 2010 года быў адменены парог яўкі, што істотна спрасціла працу спадарыні Ярмошынай і Kº. Падлічыць рэальную яўку назіральнікам не надта складана, гэта не падлік галасоў кантраляваць. Але, насуперак чаканням, на яўцы гэта ніяк не адбілася. Паводле афіцыйных дадзеных ЦВК, яна склала 79,5%, тым самым хай і фармальна, але перавысіла паказчык студзеня 2007 года, калі свой грамадзянскі абавязак на мясцовых выбарах выканалі 79,2% выбарцаў.

Варта прызнаць, што беларусы галасаваць прызвычаіліся. Гэту звычку яны вынеслі з савецкага мінулага. Апусканне бюлетэняў у скрыні для галасавання (запаўняць іх не было патрэбы) і праходжанне калонамі ўздоўж трыбун, весела памахваючы стандартнай атрыбутыкай, — вось той мінімум палітычнай актыўнасці, дазволены савецкаму чалавеку. Усё, што выходзіла за межы мінімуму, мела адпаведны артыкул у Крымінальным кодэксе.

Электаральную актыўнасць беларусаў пацвярджаюць і сацыёлагі НІСЭПД. Па іх дадзеных, у красавіку 2010 года яўка склала 65%, а ў студзені 2007-га — 62%. У сацыёлагаў Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра, які функцыянуе самі разумееце пры кім, дадзеныя па яўцы з афіцыйнымі ніколі не разыходзяцца. Каментаваць такога кшталту супадзенні, думаю, не патрэбна.

## Міф пра Усенароднаабранага

Прызнаюся, я не чакаў, што ЦВК пазначыць такую высокую яўку ў 2010 годзе, але логіка сістэмы была вышэй за маю фармальную логіку. Тое, што ў нас прынята называць «выбарамі», нягледзячы на прысутнасць апазіцыйных кандыдатаў, недалёка адышло ад свайго савецкага папярэдніка, які ўяўляў сабой рытуал сімвалічнай падтрымкі і лаяльнасці партыі. Гэта значыць своеасаблівы рытуал акламацыі (ад лацінскага acclamatio «крык, усклік») — спрошчанага парадку прыняцця ці адхілення якога-небудзь рашэння на аснове рэакцыі ўдзельнікаў, якая выяўляецца ў апладысментах, выкрыках, рэпліках і інш.

Адным з вынікаў першых прэзідэнцкіх выбараў у 1994 годзе стала нараджэнне міфа пра Усенароднаабранага. У аснове яго ляжыць вынік другога тура, калі будучы «адзіны палітык» (АП) атрымаў 80% галасоў выбарцаў. Сам ён любіць нагадваць пра свой першы электаральны трыумф, забываючы пры гэтым растлумачыць, што з улікам яўкі за яго прагаласавала 56% ад агульнай колькасці выбарцаў (у снежні 2010 года — 59% па дадзеных НІСЭПД). Але пачатак быў пакладзены. Электаральная планка, аднойчы паднятая на такую вышыню, ужо не магла быць апушчана ніжэй без сур'ёзных наступстваў для палітычнага рэжыму, які склаўся ў рэспубліцы.

Тут варта адзначыць, што статус Усенароднаабранага не сумяшчальны з паняццем «расколатае грамадства», як, зрэшты, несумяшчальны і з паняццем «нацыя». Звернемся да тэксту апошняга навагодняга віншавання: «Наперекор всему доказали, что являемся крепкой и сплоченной семьёй. Единой и поистине великой нацией!» Уяўленне пра сучаснае грамадства і дзяржаву як пра згуртаваную сям'ю — класічны архаізм. Пра гэта я ўжо неаднаразова пісаў, таму пяройдзем да другога сказу.

Нацыю не варта блытаць з этнасам. Нацыя паўстае там і тады, дзе фармуецца крытычная маса аўтаномных асоб, г. зн. грамадзян, якія ўсведамляюць свае ўласныя інтарэсы. А паколькі інтарэсы асобных грамадзян не супадаюць, то ўзнікае патрэба ў іх узгадненні. Дзейнасць такога кшталту і называецца «палітыкай». Таму сучасныя нацыі — гэта палітычныя нацыі. Паводле ж прыведзенай цытаты, беларусы, што з'яўляюцца «вялікай нацыяй», здолелі са сваіх шэрагаў (9,4 мільёна чалавек) высунуць толькі аднаго палітыка!

Строга кажучы, і ён палітыкам не з'яўляецца, бо ўзгадненнем інтарэсаў розных частак беларускага грамадства не займаецца. Адсюль прарастае тая маніякальная зацятасць, з якой «меншасці» ў Беларусі адмаўляюць у праве на існаванне. «Вас няма!» — такі афіцыйны лозунг, і пакуль ён не зняты з парадку дня, міф пра Усенароднаабранага будзе блакаваць фармаванне беларускай нацыі.

## Стратэгія «Мы ёсць!»

На гэтым пад тэарэтычнай часткай можна падвесці рысу і перайсці да стратэгіі апазіцыі. Ва ўмовах, калі грамадства працягвае спаць, што выключае саму магчымасць рэальнага супрацьстаяння ўладзе, усе высілкі апазіцыі варта, на мой погляд, накіраваць на рэалізацыю стратэгіі «Мы ёсць!». Пры гэтым пад займеннікам «мы» варта разумець не партыйны актыў (таго, што ў рэспубліцы існуе «пятая калона», АП ад сваіх прыхільнікаў ніколі і не хаваў), а апазіцыйна настроеных да ўлады беларусаў, устойлівае ядро якіх у грамадстве складае не менш за 25%.

Ва ўмовах, калі ўлада заяўляе, што «крызісу ў краіне няма», а больш чым 80% беларусаў наконт гэтага пытання прытрымліваюцца процілеглага меркавання, «большасць» і «меншасць» памяняліся месцамі. Аднак такой ракіроўкай не варта цешыцца. Тыповы прадстаўнік «большасці» — гэта чалавек, не здольны пражыць без падтрымкі з боку дзяржавы. Сёння дзяржава яго падставіла, урэзаўшы пайку ўзору снежня 2010 года. Ён на дзяржаву і яе нязменнага кіраўніка пакрыўдзіўся, але самастойным у эканамічным плане ад гэтага не стаў, таму пры першым жа павелічэнні пайкі такі апазіцыянер-неафіт зноў развернецца на 180º.

Парламенцкія выбары даюць апазіцыі дадатковы шанец у рамках стратэгіі «Мы ёсць!». Яго значэнне не варта перабольшваць. Ніякія аб'яднаныя высілкі апазіцыйных актывістаў не здольныя кардынальна паўплываць на сітуацыю ва ўмовах грамадства, якое спіць. Апошнія падзеі ў Расіі гэту паліталагічную аксіёму відавочна пацвярджаюць. Масавыя акцыі ў Расіі скончыліся ў 1993 годзе, і ўсе наступныя спробы вывесці людзей апынуліся дарэмнымі. І раптам у снежні мітынг на Балотнай плошчы сабраў не менш за 50 тысяч чалавек, а колькасць удзельнікаў мітынгу на праспекце Сахарава, нават па самых асцярожных падліках, перавысіла 100 тысяч.

Да змены ўлады гэта, зразумела, не прывяло, але звыклая павестка дня, якая ўсе «нулявыя» гады фармавалася выключна ў Крамлі, была зламаная. На нашых вачах расійскае грамадства пачынае ператварацца ў суб'ект палітыкі. Ігнараваць гэты факт улада ўжо не ў стане. Складаецца ўражанне, што «працэс пайшоў». Ці так гэта — канчаткова стане зразумела ў лютым-сакавіку.

Ва ўсіх папярэдніх выбарчых кампаніях апазіцыя «скакала» пад дудку ўлады і тым самым спрыяла яе легітымізацыі. Надышоў час самім замовіць музыку. Але маюцца межавыя ўмовы. Па-першае, вызваленне ўсіх палітвязняў. Па-другое, уключэнне апазіцыі ва ўчастковыя выбарчыя камісіі. Спынюся падрабязней на другой умове.

У склад участковых камісій на мясцовых выбарах 2010 года было вылучана 77 241 чалавек, а ўключана 68 881, ці 89,2% ад агульнай колькасці прэтэндэнтаў. Ад грамадзян шляхам падачы заяў праз адміністрацыйнае сіта прасачылася 86,2% вартых, ад працоўных калектываў — 88,4%, ад грамадскіх аб'яднанняў — 94,8%, ад лаяльных палітычных партый — 93%, ад апазіцыйных — 12,8%. Паводле Выбарчага кодэкса, склад участковых камісій можа фармавацца з 5–19 чалавек. У красавіку 2010 года ўчастковыя камісіі апынуліся ўкамплектаваны на 56,8% ад максімальна магчымай колькасці, г. зн. рэальнай канкурэнцыі за патрапляне ва ўчастковыя камісіі не было, што не перашкодзіла адсеяць 87,2% кандыдатаў ад апазіцыйных партый.

Прыведзеная статыстыка падштурхоўвае да простага, але разумнага патрабавання: колькасць прадстаўнікоў апазіцыйных партый, уключаных ва ўчастковыя камісіі, не можа быць ніжэй 85% ад ліку высунутых. Такое патрабаванне не супярэчыць дзейснаму заканадаўству.

Статус Усенароднаабранага не сумяшчальны з паняццем «расколатае грамадства», як, зрэшты, несумяшчальны і з паняццем «нацыя




## Праз эканамічныя прычыны

Безумоўна, выбары не зводзяцца да падліку галасоў. На мясцовых выбарах у 2010 годзе пры такім жорсткім допуску ва ўчастковыя камісіі прадстаўнікоў апазіцыі, большасць іх кандыдатаў (82%) была зарэгістравана. Што да выбараў прэзідэнцкіх, то магчымасць зарэгістравацца меў практычна любы ахвочы, таму выбары ў Беларусі можна ахарактарызаваць як свабодныя, але несправядлівыя. Яны ў прынцыпе выключаюць магчымасць паразы клана, які кіруе ў рэспубліцы.

Да таго ж не варта забываць, што сучасныя выбары — гэта абмеркаванне грамадствам праблем, якія хвалююць людзей, і адначасова пошук шляхоў іх вырашэння. Але ў краіне, у якой на 9,4 мільёна насельніцтва маецца ўсяго адзін палітык, такія задачы падчас выбараў не могуць ставіцца па вызначэнні. Вось і праходзяць выбары «ў сумным рэжыме», каб, крый Божа, электарат не адарваўся ад сваіх пабытавых праблем і не пачаў задаваць не зручныя ўладзе пытанні.

Пагэтайжа прычыне кандыдаты ўлады не ўдзельнічаюць у дэбатах з кандыдатамі апазіцыі. Але калі выбарчая кампанія — не нагода для абмеркавання наспелых у краіне праблем, то і парламент — не месца для дыскусій. Строга кажучы, такі парламент не з'яўляецца органам заканадаўчай улады. У агульных рамках імітацыйнай дэмакратыі ён адыгрывае сваю прыватную імітацыйную ролю.

Адсутнасць у краіне палітыкі азначае і адсутнасць грамадскага запыту на апазіцыю. Тут важна не пераблытаць прычыну са следствам. Палітыка пачынаецца з прызнання дыферэнцыяцыі грамадства на групы, якія маюць уласныя інтарэсы. У нашым выпадку гэта азначае прызнанне «меншасці».

Таму, не маючы магчымасці кантраляваць падлік галасоў, усе свае высілкі апазіцыі варта засяродзіць на кантролі яўкі. Прычым кантроль павінен разглядацца не ў якасці тэхнічнага мерапрыемства, а як асноўная ідэя агульнанацыянальнай кампаніі. Нагадаю, на папярэдніх парламенцкіх выбарах яўка па дадзеных НІСЭПД склала 66% (76,7% па дадзеных ЦВК). Сёння ўзровень падтрымкі ўлады, з нагоды зразумелых эканамічных прычын, істотна ніжэй, таму паўтарыць вынік 2008 года арганізатарам выбараў будзе няпроста.

Для пералому сітуацыі ўладзе патрэбна будзе адмовіцца ад «сумных выбараў» і разгарнуць мабілізацыйную кампанію, што ва ўмовах крызісу можа абудзіць грамадства.

КАПІТАЛЫ



# З ЦЕНЮ Ў ДЗЕНЬ?

Аксана КОЛБ

**На гэтым тыдні бізнэс-супольнасць атрымала цікавую навіну. Нацбанк рыхтуе абгрунтаванне правядзення ў краіне эканамічнай амністыі, ужо папярэдне вызначыўшы схему рэалізацыі гэтай ініцыятывы.**

Дарэчы, пра тое, што яшчэ ў верасні кіраўнік Нацбанку Надзея Ермакова звярнулася з лістом да прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча аб неабходнасці правядзення амністыі капіталу ў сувязі з фінансава-эканамічнай сітуацыяй у краіне, паведамлялася раней. А менавіта, 14 снежня на пасяджэнні круглага стала вуснамі намесніка дырэктара Цэнтра абароны правоў уласнасці Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Ігара Ледніка.

І вось зараз ідэя набывае больш канкрэтныя рысы. Мяркуецца, што на першым этапе будуць выпрацаваны і рэалізаваны неабходныя падрыхтоўчыя мерапрыемствы, у тым ліку па занясенні змен у заканадаўства. Другі этап — непасрэдна сама эканамічная амністыя. Ці дойдзе справа да пэўных крокаў, будзе залежаць ад рашэння кіраўніка дзяржавы.

Яшчэ 30 жніўня 2011 года на нарадзе па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны Лукашэнка прапанаваў разгледзець магчымасць правядзення ў Беларусі амністыі капіталу. Нацбанк падтрымаў прапанову. Пакуль што адкрытым застаецца пытанне: гэта эканамічная амністыя ці толькі амністыя капіталу?

«У нашым разуменні, і гэта адлюстравана ў Нацыянальнай платформе бізнэса Беларусі, амністыя мае шырэйшы сэнс. Гэта не толькі амністыя капіталаў, але і ў цэлым эканамічная амністыя, амністыя зняволеных, якія адбываюць тэрміны за эканамічныя злачынствы, падатковая амністыя і шэраг іншых аспектаў. А чыста амністыя капіталаў наўрад ці штосьці дасць», — лічыць старшыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальнасці (РКП) Віктар Маргелаў.

Але ці гатовая беларуская ўлада пайсці на амністыю «вашывых блох», якія за свае «злачынствы» адбываюць тэрміны? А адмовіцца спагнаць мільёны недаплачаных, па яе меркаванню, падаткаў, гатовая? Наўрад ці. І наўрад ці бізнэсмены павераць уладзе і паляцяць легалізоўваць свае потам і крывёй здабытыя грошы.

«Хутчэй за ўсё, людзі не павераць у празрыстасць намеру ўлады, — разважае старшыня Каардынацыйнай рады індывідуальных прадпрымальнікаў Анатоль Змітровіч. — У нашай краіне вельмі любяць прымаць законы што называецца «заднім числом». Сёння амністуюць, а заўтра скажуць: заплаціце за ўсе гады, ды яшчэ з працэнтамі».

Менавіта так, даоэчы, адбылося з экалагічным падаткам. Некалькі дзясяткаў беларускіх прадпрыемстваў-вытворцаў і імпарцёраў пластыкавай упакоўкі падатковая інспекцыя просіць даплаціць экалагічны падатак, пачынаючы з... 2008 года! Шакаваныя такой просьбай, кіраўнікі і заснавальнікі гэтых прыватных фірмаў аж сабраліся на экстранную нараду ў Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва, каб разам вырашыць, што рабіць у гэтай сітуацыі, бо гаворка, па іх словах, ідзе пра далёка не маленькія сумы. Але пакуль нічога і не прыдумалі. Як вы думаеце, ім давядзецца заплаціць?

У той жа час Анатоль Змітровіч лічыць вельмі важным прыняцце закону пра эканамічную амністыю.

"Такі крок патрэбен. Бо капіталы вывезены за мяжу. Часткова яны вярнуліся ў выглядзе сумесных прадпрыемстваў. Але прыбыткі ад гэтага атрымліваюць замежныя партнёры, а не наша краіна. Такі крок пакажа, што дзяржава паварочваецца тварам да бізнэсу, гэта дасць прыток унутраным інвестыцыям», — лічыць прадпрымальнік Змітровіч.

З Анатолем Змітровічам не згодны другі бізнэсмен — Сяргей Балыкін.

«Не думаю, што амністыя дасць нейкі істотны прырост інвестыцый, ва ўсякім разе не такі, на які разлічвае ўлада, — разважае старшыня Асацыяцыі малога і сярэдняга бізнэсу Сяргей Балыкін. — Усё залежыць ад таго, ці засталіся яшчэ тыя бізнэсмэны, якія жадаюць і гатовыя інвеставаць у беларускую эканоміку. Мне здаецца, тыя, хто хацеў, ужо даўно ўклалі свае грошы праз замежныя і сумесныя кампаніі. Такім чынам, замест унутраных інвестыцый мы атрымалі замежныя. А бізнэсмэны атрымалі ўсе перавагі замежных фундатараў. У прынцыпе, бізнэс ужо не чакае нічога добрага. Хоць хтосьці павераць. Хтосьці легалізуе капіталы часткова. Таму — падкрэсліваю — кардынальна праблему інвестыцый гэта не вырашыць».

Тым не менш Сяргей Балыкін вітае ініцыятыву ўладаў, лічыць яе добрым знакам, сігналам фундатарам, і будзе дзвюма рукамі за яе. Праўда, толькі ў тым выпадку, «калі амністыя будзе падмацавана іншымі крокамі ў гэтым накірунку, такімі, якія б стымулявалі развіццё бізнэсу, спрыялі лібералізацыі».

«Пакуль што можна сказаць, — падкрэслівае Балыкін,— што лібералізацыя ў нашай краіне правалілася. І можа стацца так, што амністыя капіталаў стане неблагой магчымасцю для адмывання сапраўды крымінальнага і карупцыйнага капіталу. Павінны быць прыняты простыя, зразумелыя для легальнага бізнэсу правіла і ўмовы гаспадарання. З іншага боку, павінны быць пастаўлены сур'ёзныя бар'еры для крымінальных і карупцыйных грошай. У нас пакуль так атрымліваецца: заганялі бізнэс у цень, прымусілі працаваць па шэрых схемах, потым амністыя. А потым зноў у цень?»

Менавіта давер бізнэсу да ўлады можа стаць галоўнай перашкодай для паспяховага правядзення амністыі. Па словах экспертаў бізнэс-супольнасці, вялікую небяспеку сёння ўяўляе выкарыстанне ад імя дзяржавы прававых прылад у мэтах незаконнага пераразмеркавання ўласнасці.

«Мяне, напрыклад, гнятуць сённяшнія дзеянні дзяржорганаў па працэдзенні мінімізацыі падатковых паступленняў, а менавіта, стварэнне рэестру нядобрасумленных суб'ектаў прадпрымальніцтва ў рамках барацьбы з «ілжэпрадпрымальнікамі». Аднак шэраг фактаў указвае на тое, што такая дзейнасць магчымая дзякуючы «ілжеправапарадку» і «лжэправасуддзю». І вынікам гэтага з'яўляецца пераразмеркаванне ўласнасці не толькі акцыянераў, але і дзяржавы ў інтарэсах асобных прыватных асоб», — адзначае намеснік дырэктара Цэнтра абароны правоў уласнасці Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Ігар Леднік.

У любым выпадку, канчатковае рашэнне пра правядзенне ў краіне любой амністыі прымае толькі адна асоба.

---

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# А ПОТЫМ БУДЗЕ ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

**Большасць з нас звыкла лічыць, што беларускія ўлады маюць пэўную палітычную лінію, згодна з якой кіруюць сацыяльна-эканамічнымі працэсамі. А на самай справе, хто кім кіруе — сабака хвастом, ці наадварот — на гэта пытанне няма выразнага адказу.**



Прыкладам, відавочна свядома Лукашэнка даў распараджэнне Нацыянальнаму банку з сакавіка 2011 года спыніць продаж валюты імпарцёрам, што прывяло да дэвальвацыі і гіперінфляцыі, наступствы чаго адчуваюцца і зараз. І таму няма ніякай яснасці, што будзе з беларускім рублём, колькі за яго дадуць напрыканцы года. А можа, ён абваліцца і раней, бо кіраўніцтва Еўразійскага банка развіцця, спасылаючыся на невыкананне Беларуссю дамовы аб прыпыненні эмісійнага фінансавання дзяржпраграм, абвясціла пра несвоечасовасць выдзялення трэцяга транша крэдыту ЕўрАзЭС. У Мінску ж чакаюць, што грошы паступяць з дня на дзень.

Заяўлена, што ўрад і Нацбанк не плануюць выкарыстоўваць на падтрымку рубля золатавалютныя рэзервы. Але калі затрымка з крэдытам працягнецца, можа і давядзецца тое зрабіць.

Разам з тым, на сустрэчы з Надзеяй Ермаковай 16 студзеня Лукашэнка зрабіў вельмі аптымістычную заяву. Маўляў, золатавалютныя рэзервы сёння, упершыню за ўсю гісторыю краіны, настолькі значныя, што можна падтрымліваць які заўгодна курс рубля. І патлумачыў, што курс павінен быць абгрунтаваным, разумным, але абавязкова свабодным. Але ж тут не можа быць адназначнай трактоўкі. Прадаўцы долараў маюць інтарэс у падвышэнні курса, пакупнікі — у зніжэнні. А ўрад і Нацбанк і прадае іх, і купляе. І пры гэтым, як паказала мінулагодняя фінансавая палітыка, часцяком паводзіць сябе, як слон у пасуднай краме. Вызначае выгадны для сябе курс абавязкова продажу валюты ў экспарцёраў, забірае валюту сабе, а ўсіх астатніх садзіць на галодны паёк.

Апошняя частка заявы абвяргае папярэднюю. Бо свабодны курс складаецца суадносінамі попыту і прапановы, а «разумны» усталёўваецца пад ціскам валютных інтэрвенцый.

Атрымоўваецца адно з двух. Але магчыма яшчэ і нешта трэцяе. Восенню адбудуцца парламенцкія выбары, для падрыхтоўкі якіх дадатная доларавая дынаміка заробкаў, пенсій ды іншых выплат мае стратэгічнае значэнне. Прынамсі, старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Касінец ужо патрабаваў ад падначаленых падняць доларавую вартасць сярэдніх заробкаў на «падмандатнай тэрыторыі» да 500 у. а. Зараз, па інфармацыі Касінца, яна складае 280 долараў. Гэту немагчымую з пункту гаспадарчага разліку справу зрабіць яшчэ цяжэй, чым два гады таму, калі сярэдні заробак на Віцебшчыне складаў 300 долараў. Трэба дадаваць на дваццатку болей, чым тады. А крыніц амаль ніякіх. Нават наваполацкі НПЗ, некалі адно з самых паспяховых прадпрыемстваў краіны, зараз здабыткаў не прыносіць.

Нашы «губернатары» агучваюць толькі тыя задачы, якія ставяцца на самым версе. Таму, верагодней за ўсё, менавіта трэці варыянт. Для пад'ёма сярэдняга заробка да містычнай вышыні ў 500 долараў зноў пачнуць раздаваць грошы. А для таго, каб пазбегнуць гіперінфляцыі, крый Божа, дэвальвацыі, давядзецца выдаткоўваць валютныя рэзервы на падтрымку рубля.

А пасля выбараў можна ўспомніць і пра дэвальвацыю?

Як адзначыла Надзея Ермакова, насельніцтва зараз прадае штодзень на 5–7 мільёнаў долараў болей, чым купляе, што дазваляе нават фінансаваць дэфіцыт знешняга гандлю. Усяго за 2011 год насельніцтва прадало банкам валюты на 470,1 мільёна долараў болей, чым набыло. Такім чынам, самі людзі, з якіх адны займаюцца прадпрымальніцтвам, іншыя працуюць за мяжой і прывозяць большую частку заробленага ў Беларусь, робяць сваю справу нашмат эфектыўней, чым буйныя «экспартаарыентаваныя» прадпрыемствы. І зароблены імі грошы ідуць на фінансаванне гэтага бязглуздага экспарту.

З другога боку, падвышаецца сума валютных укладаў насельніцтва. Толькі ў снежні памер валютных дэпазітаў насельніцтва ў беларускіх банках павялічыўся на 204,2 мільёны долараў, а з кастрычніка да канца 2011 года валютныя дэпазіты выраслі на 652,7 мільёна долараў.

Такім чынам, у фармаванні валютнага курса суб'екты знешняга гандлю ў якасці прадаўцоў і пакупнікоў амаль не ўдзельнічаюць. Унутраны валютны рынак амаль цалкам «захоплены» насельніцтвам, якое дапамагае ўладам больш-менш паспяхова вырашаць тыя праблемы, якія яны спарадзілі і ледзь не зруйнавалі фінансавую сістэму краіны.

То бок, беларусы і зарабляць умеюць, і жыць па сродках.

Як адзначаюць эксперты, гэта сітуацыя хутка зменіцца. Таму вясной ці напачатку лета інфляцыя пачне змяншацца, панізіцца стаўка рэфінансавання, пачнуць набываць папулярнасць у насельніцтва рублёвыя крэдыты. Адначасова падвысіцца попыт на наяўную валюту, паколькі (як паказаў досвед 2011 года) працяглы перыяд умацавання рубля правакуе дэфляцыйныя чаканні.

ЭКАЛОГІЯ

# ГРОШЫ ПАД НАГАМІ

## СМЕЦЦЕПЕРАПРАЦОЎЧАЯ ГАЛІНА Ў ЧАКАННІ СФАРМУЛЯВАНЫХ ПРАВІЛАЎ ГУЛЬНІ

Вольга ХВОІН

**Горы смецця на зямлі, плывучыя айсбергі з пластыку — тэхнічны прагрэс пакідае пасля сябе тысячы тон адходаў. Але чалавек знайшоў спосабы здабычы грошай з тых самых гор смецця. Дырэктар прыватнага прадпрыемства «Смеццесарціровачная станцыя Заходняя» Дзмітрый Кучук ведае: грошы валяюцца пад нагамі і зусім не пахнуць. Для гэтага трэба паглядзець на смецце як на рэсурс і задзейнічаць закон ды... эстэтыку.**



Навукоўцы падлічылі: у 1 тоне смецця ўтрымліваецца больш за 4 кг паперы, 17 кг алюмінію, 260 кг харчовых адходаў. Паперу можна другі раз перапрацаваць і тым самым выратаваць 5 дрэў, а таксама зэканоміць 527 кВт·гадзін электраэнергіі. Пры перапрацоўцы алюмінію эканоміцца столькі паліва, колькі неабходна аўтамабілю, каб праехаць 2 500 км. Харчовыя адходы, перапрацаваныя ў біягаз, дазваляць атрымліваць каля 60 кВт·гадзін электраэнергіі.

10% насельніцтва будуць сартаваць смецце заўсёды, 10% не будуць сартаваць ніколі і з 80% насельніцтва трэба працаваць. «Greenpeace»

— Да 2010 года ў Беларусі ў галіне перапрацоўкі другасных рэсурсаў назіраўся некаторы пад'ём — былі інвестыцыі, ставілі кантэйнеры для дыферэнцыраванага збору смецця. У 2010 годзе заканадаўства змянілася — адмянілі экалагічны падатак, і перастаў фарміравацца бюджэт для фінансавання гэтай сферы, чым раней займалася міністэрства гандлю, у прыватнасці канцэрн «Белрэсурсы». Цяпер галіна ў даволі сумным стане, бо інвестыцый няма. Наколькі я ведаю, адпаведны ўказ, які будзе рэгуляваць сферу перапрацоўкі адходаў, чатырнаццаць разоў уносілі на разгляд ураду, але яго так і не падпісалі. Указ можа і не надта добры, але ў ім ёсць некаторыя схемы для працы. І калі нарматыўны дакумент будзе прыняты, гэта дасць штуршок для развіцця галіны.

***— Шмат прадпрыемстваў у Беларусі працуюць у гэтай сферы?***

— Раней было даволі шмат з сегменту дробнага і сярэдняга бізнэсу, было нямала індывідуальных прадпрымальнікаў, якія займаліся зборам макулатуры, ПЭТ-бутэлек, шкла. Цяпер гэта не вельмі выгадна, бо няма так званых датацый. Каб збіраць вялікія аб'ёмы другаснай сыравіны, патрэбныя смеццявозы, кантэйнеры, спецтэхніка. У Мінску ў гэтай сферы працуюць каля пяці буйных прадпрыемстваў, якія імкнуцца нешта рабіць і зарабляць.

***— Вы гаворыце пра нізкую рэнтабельнасць, але ёсць меркаванне, што смеццеперапрацоўка — гэта хіба што не грошы з паветра. У чым падвох?***

— Прыбытак быў, калі ў Беларусі дзейнічаў экалагічны падатак. У той час мы сапраўды развіваліся. Напрыклад, прадпрыемствы, якія забруджваюць асяродак — завод «Coca-Cola», Мінскі завод безалкагольных напояў, — былі вымушаныя сплачваць грошы ў бюджэт. Калі фірма, якая займаецца перапрацоўкай другасных рэсурсаў, атрымлівае гэтыя грошы, яна можа развівацца, займець прыбытак. Калі гэтых грошай няма, то галіна становіцца амаль нерэнтабельнай. Гэтыя грошы з падатку — наогул не датацыя, а абавязальніцтва для прадпрыемстваў ва ўсім цывілізаваным свеце: хто забруджвае, той і плаціць. У Еўропе, калі прадпрыемства вырабляе прадукцыю ва ўпакоўцы, то яно мусіць ці заключыць дамову на яе перапрацоўку з адпаведнымі фірмамі ці сплаціць грошы ў бюджэт. Гэтая схема працавала ў Беларусі да 2010 года, і тады мы набывалі кантэйнеры, смеццявозы — развіваліся. Мы заключалі дамовы з прадпрыемствамі, якія пералічвалі нам грошы, і выконвалі свае абавязальніцтвы. У нас быў участак, каб перапрацоўваць ПЭТ-бутэлькі. Мы драбілі іх і прадавалі ў Расію на хімкамбінаты. Увогуле, у Беларусі ёсць два заводы ў Магілёве, дзе магчымая падрыхтоўка якаснай сыравіны з ПЭТ-адыходаў, то бок іх мыццё і драбленне.

Хачу адзначыць, што ў Беларусі практычна захавалася савецкая нарыхтоўчая сістэма. У Белкаапсаюза, камунальных прадпрыемстваў ёсць прыёмныя пункты. Лёгкія адыходы, як то макулатура з крамаў, у аб'ёме збору складаюць каля 70% — гэта многа. Цяпер прыкрылі збор металаў, бо ў цяжкія 1990-я гады вельмі многа кралі. А ўвогуле, добра, што ў нас ёсць пункты нарыхтоўкі і гэтая другасная сыравіна не ідзе на сметнік.

***— Якім чынам вы збіраеце тыя ж ПЭТ-адыходы?***

— Асноўны збор ідзе на палігонах адходаў. У Барысаве цягам месяца збіраюць каля сямідзесяці тон ПЭТ-бутэлек. За гэта плацяць людзям у адмысловых нарыхтоўчых пунктах. Зручна, бо ўсё ў адным месцы, не трэба нікуды ездзіць. На кожным палігоне ёсць людзі, якія гатовыя збіраць макулатуру, пластыкавыя бутэлькі. У Мінску іх прыкладна чатырыста чалавек. Як правіла, гэта асобы без пэўнага месца жыхарства, мы іх называем санітарамі. Чым для іх прывабная гэтая праца — грошы выплачваюцца сёння на сёння. Сабраў за дзень тону бутэлек — і атрымаў заробак.

***— За дзень уручную сабраць тону ПЭТ-бутэлек?!***

— Гэта падаецца, што многа (усміхаецца). Вялікі мех вагой прыкладна трыццаць кілаграмаў чалавек збірае за пятнаццаць хвілін. За дзень можна зарабіць 200–300 тысяч рублёў. У прыёмных пунктах працуюць нарыхтоўшчыкі, якія і кантралююць звалкі, ладзяць збор рэсурсаў, яны таксама атрымліваюць частку ад гэтай сумы. Калі ж чалавек займаецца яшчэ і зборам металалому, макулатуры, то ўвогуле «падымае» някепскія грошы. Так што бамжы не зусім і бедныя людзі, калі не лянуюцца. Праўда, на жаль, гэтыя грошы хутка абменьваюцца ў бліжэйшай краме на танны алкаголь.

***— Атрымліваецца, што ў вас нестандартныя партнёры ў працы. Ёсць нейкія асаблівасці супрацоўніцтва з імі?***

— З імі трэба размаўляць не звысоку, а на роўных. Абавязкова трэба трымаць слова — калі паабяцаў заплаціць, то грошы мусіш прывезці ў той жа дзень. Інакш ніхто не будзе з табой працаваць. Яшчэ адзін штрых: палігон бытавых адыходаў — гэта сур'ёзны аб'ект. Там выпрацоўваецца метан, таму палігоны часта гараць, а затушыць гэтыя пажары складана. Людзі, якія там працуюць ці жывуць, добра пра гэта ведаюць. І ў выпадку нейкага «прэсавання» іх, наездаў, пачынаюць палохаць падпаламі. І падпалы насамрэч здараюцца.

***— Ці лёгка знайсці чалавека, які гатовы працаваць на смеццявозе, на лініі сарціроўкі, усё ж умовы не надта прыемныя?***

— Я быў на смеццеперапрацоўчым комплексе ў Францыі, дзе зарабляюць 1 400 еўра ў месяц. Работнікі там не надта высокай кваліфікацыі, і на іншых працах яны могуць прэтэндаваць на заробак каля 600–800 еўра. І таму людзі трымаюцца за сваю працу, імкнуцца зарабляць. У Штатах, мне распавядалі, у гэтую сістэму ўвогуле складна ўладкавацца, патрэбныя рэкамендацыі! У Беларусі ў КУП «Экарэс», да прыкладу, заробкі заўжды былі неблагія.

Наколькі я ведаю, часам у смеццевых адыходах знаходзяць блокі цыгарэт. Але не памятаю, каб на звалках знаходзілі нейкія каштоўнасці. Хаця, магчыма, людзі не прызнаюцца.

***— Вы прапануеце айчынным вытворцам паставіць на ўпакоўку распрацаваны вамі знак «Эка кропка», распавядзіце, што гэта за ідэя?***

— Эканамічны рост і ахова навакольнага асяроддзя звязаныя. Экалагічныя стандарты могуць служыць эфектыўным інструментам прасоўвання тавараў і паслуг.

Наша кампанія прапануе заключыць дамовы на збор макулатуры, шкла і пластыка, і мы даём магчымасць размясціць на ўпакоўцы знак «Эка-кропка». Гэта дазволіць данесці да спажыўцоў пасланне аб тым, што кампанія з'яўляецца сацыяльна адказнай арганізацыяй, сур'ёзна падыходзіць да аховы навакольнага асяроддзя і клапоціцца пра здароўе насельніцтва нашай краіны. Спачатку цікавасць да такой ідэі праявіў «Савушкін прадукт», але да справы не дайшло. Мяркую, што з адпаведнай культурай для пакупніка гэта было б знакам прэстыжу, сігналам, што вытворца сапраўды адказна ставіцца да навакольнага асяроддзя. Але праект не выклікаў інтарэсу, нашы вытворцы папросту не бачаць у гэтым сэнсу.

***— Як бы вы ацанілі экалагічную культуру беларусаў і айчынных прадпрыемстваў?***

— Беларусы даволі дысцыплінаваная нацыя. У нас людзі здольныя хутка падтрымліваць новыя ініцыятывы. Але для гэтага патрэбныя ўмовы. На маю думку, каб змяніць стаўленне да збору і перапрацоўкі смецця, трэба падумаць пра эстэтычны бок. Кантэйнеры трэба зрабіць яркія, чыстыя, бо калі стаіць іржавая смярдзючая скрынка, то падыходзіць да яе не надта хочацца. Таксама варта падумаць пра экалагічнае выхаванне дзяцей — патлумачыць ім з маленькага ўзросту, як і куды трэба выкідаць смецце. Мусіць быць сацыяльная рэклама, грамадскія арганізацыі, што прапануюць і рэалізуюць такія праграмы.

Смецце каштуе вялікіх грошай. І мы маглі б зарабляць на тым, што закопваем. Найперш трэба інвеставаць у тэхналогіі, прыцягваць заходні досвед, браць іх абсталяванне, комплексы для перапрацоўкі.

***— А заходнія інвестары гатовыя сюды ісці?***

— У нас ужо працуюць кампаніі з заходнім капіталам. Напрыклад, сур'ёзная міжнародная карпарацыя «Remondis». Яна мае вялікую сетку з больш чым 500 прадстаўніцтвамі ва ўсім свеце і працуе ў 21 еўрапейскай дзяржаве, а таксама ў Кітаі, Японіі, Расіі, на Тайвань і ў Аўстраліі. Яны працуюць і ў Мінску — набылі каля дзесятка смеццявозаў, кантэйнеры. Ім далі для абслугоўвання тры сталічных раёны. Але, наколькі я ведаю, пакуль што «Remondis» далей не развіваецца, бо хоча, каб былі сфармуляваныя «правілы гульні». Гэта паказальны факт. Да слова, у іх варта было б павучыцца арганізацыі працы. Раней тры сталічныя раёны абслугоўвалі каля сарака смеццявозаў, а яны закрылі гэты аб'ём пяццю машынамі. Палічыце, якая эканомія на заробках, паліве. Увогуле, Еўропа ў сферы збору і перапрацоўкі смецця наперадзе планеты. Там прыгожыя смеццявозы, кантэйнеры. Еўропа справілася з гэтым пытаннем за кошт высокага ўзроўню жыцця, тэхналогій, заканадаўчай базы. Калі б мы сябравалі з Еўрасаюзам, то маглі б мець нешта падобнае.

***— Які мусіць быць стартавы капітал, каб пачаць працу ў галіне перапрацоўкі другасных рэсурсаў?***

— Цяжка сказаць — усё залежыць ад запытаў. Некаму дастаткова і на палігон пайсці. Але гэта бізнэс, які можна пачаць амаль з нуля, бо гэтыя грошы ў нас пакуль ляжаць пад нагамі. Канешне, аб'ём фінансавых укладанняў будзе ўплываць на маштаб прадпрыемства.

7

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 30 СТУДЗЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**12.10** Авантурная камедыя «Як зарабіць 20 мільёнаў баксаў» (ЗША).
**14.00** Дак. фільм «Зорнае жыццё».
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна Гародні.
**15.25** Культурныя людзі.
**15.55** Да цешчы на бліны.
**16.25** Відэафільм АТН «Глуск» цыклу «Зямля беларуская».
**16.40** Хранікальна-дакументальны цыкл «Нябачны фронт» (Беларусь).
**16.50** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**18.45, 01.15** Зона Х.
**19.30** Арэна.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.25** Дзень спорту.
**21.50** Камандзіроўка.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.05** Клуб рэдактараў.
**00.05** «Эпоха».
**00.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Ты ёсць…».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Вялікая розніца».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Адчынены фармат».
**22.05** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Доктар вірус».
**00.05** «След».
**00.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.10** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.20** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Брат». Расія, 1997г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Прафесійны бокс».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца .Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Навіны надвор'я.
**10.35** Кінаспробы.
**11.05** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.15** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан».
**15.05** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Дынама (Масква) - Дынама (Рыга).
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.00** Авертайм.
**23.30** Серыял «Маргоша» (Расія).

### (МІР)

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 17.00, 20.00, 21.00, 22.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**06.20** Праграма «Даведнік».
**07.05** Мультсерыял «Апошні з магікан».
**07.40** Праграма «Цік - так».
**08.05** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**09.05** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**10.05** Выніковая праграма «Разам».
**11.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт».
**12.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт» (Працяг).
**13.20** Дакументальны серыял «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**14.20** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.40** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.30** Тэлесерыял «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**18.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**19.25** Праграма «Акцэнты».
**19.40** Праграма «Саюзнікі».
**20.20** Праграма «Усюды жыццё».
**20.50** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**21.30** Праграма «Беларусь сёння».
**22.30** Праграма «Свет спорту».
**23.05** Дакументальны серыял «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**00.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Саюзнікі».
**03.40** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**04.25** Праграма «Свет спорту».

### EUROSPORT

**23.00** Канькабежны спорт: Чэмпіянат свету. Калгары - Спрынт.
**01.30, 12.00, 17.15** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Фінал. Мужчыны.
**03.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**10.30** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Шэфілд - Паказальныя выступ.
**11.30** Конны спорт: Агляд тыдня.
**13.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Сапара - HS 134.
**14.30** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. - Жанчыны Гонка пераследу.
**15.15** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. - Мужчыны Гонка пераследу.
**16.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Сапара - HS 134.
**20.00** Футбол: Еўрагалы.
**20.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 11 серыя.
**09.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**09.15** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**10.45** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гурта «Індыга»: ч. 2.
**11.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.35** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**12.00** Эксперт.
**12.35** Зона «Свабоды».
**13.05** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кенэдзі: канец амерыканскае мары».
**14.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.15** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**14.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.50** Эксперт.
**15.25** Фільматэка майстроў: «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 20 серыя.
**17.25** Зона «Свабоды».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кенэдзі: канец амерыканскае мары».
**19.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.10** «Нефарматны Курэйчык», рэпартаж.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Вагон.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар.

## 31 СТУДЗЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Гістарычная драма «Справа гастранома №1» (Расія). Заключная серыя.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**12.10** Арэна.
**12.35** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**12.45** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**13.45** Мультфільм.
**13.55** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камандзіроўка.
**15.40** Скрынка перадач.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.50** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую» (Расія -Украіна). Заключная серыя.
**18.45, 01.35** Зона Х.
**19.35** Сфера інтарэсаў.
**20.00** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна). 1-я серыя
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.45** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.25** «Эпоха».
**23.50** Камедыя «Я застаюся!» (Францыя).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Галіна Уланава. Адзінота багіні».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Шлюб па завяшчанні. Вяртанне Сандры».
**22.05** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.05** «Несакрэтныя матэрыялы».
**23.35** «Зваротны адлік».
**00.05** «След».
**00.40** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Брат». Расія, 1997г.
**10.10** «Пяць гісторый».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.55** Фільм «Прышэльцы на гарышчы». ЗША-Канада, 2009г.
**16.50** Прэм'ера: «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял.
**21.25** «Паляванне на Ізюбра». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT-2». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**09.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**10.45** Авертайм.
**11.15** Школа рамонту.
**12.20** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан».
**16.10** Пазакласная гадзіна.
**16.30** Нянудны глобус.
**16.55** Цела чалавека.
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Беларуская часіна.
**22.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.00** Спорт-кадр.
**23.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Эвертан-Манчэстэр Сіці.

### (МІР)

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 17.00, 20.00, 21.00, 22.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Праграма «Простая мова».
**06.20** Дак. серыял «Дом з гісторыяй».
**07.05** Мультсерыял «Апошні з магікан».
**07.40** Праграма «Цік-так».
**08.05** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**09.05** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**10.05** Праграма «Агульны рынак».
**10.25** Праграма «Агульны інтарэс».
**11.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт».
**12.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт» (Працяг).
**13.20** Дакументальны серыял «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**14.20** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.40** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.30** Тэлесерыял «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**18.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**19.25** Праграма «Акцэнты».
**19.40** Тэлесерыял «Аляксандраўскі сад».
**21.45** Праграма «Простая мова».
**22.25** Праграма «Дыяспары».
**23.05** Дакументальны серыял «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**00.05** Ток - шоў «Слова за слова».
**01.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.05** Тэлесерыял «Нашы суседзі».
**02.00** Праграма «Усюды жыццё».
**03.30** Тэлесерыял «Анёл з Арлі».
**04.25** Праграма «Дыяспары».

### EUROSPORT

**10.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**11.45** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Гонка пераследу.
**12.30** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Гонка пераследу.
**13.15** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**14.30, 18.15** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі - Фінал. Мужчыны.
**15.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**16.45** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. - Жанчыны Гонка пераследу.
**17.30** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. - Мужчыны. Гонка пераследу.
**19.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**20.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**23.00** Усе віды спорту.
**23.05** Пра рэстлінг.
**23.35** Усе віды спорту.
**23.45** Пра рэстлінг.
**00.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**01.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Сапара - HS 134.
**02.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**09.20** «Мой родны горад», серыял: 20 серыя.
**09.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.35** «Нефарматны Курэйчык», рэпартаж.
**10.50** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.15** «Ранча», серыял: 26 серыя.
**12.05** «Мой родны горад», серыял: 20 серыя.
**12.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**12.55** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**13.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**13.50** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.20** «Плошча Збаўцы», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**16.05** «Нефарматны Курэйчык», рэпартаж.
**16.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**16.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 21 серыя.
**17.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Пуаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**19.00** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 5 серыя.
**22.25** Рэпартэр.
**22.50** Euromaxx.
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Гарачы каментар.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №1 (65) (студзень)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**СЛОВА**

# УТРЫМАЦЬ ДУШУ!

Віктар КАЗЬКО

**Хоць кітайцы і гавораць: не дай вам Бог жыць у часы перамен, здаецца, зусім нядаўна нам актыўна даводзілі: таленты абуджаюцца і найбольш ярка і плодна расцвітаюць на пераломе, на стыках эпох — у час крутой змены пакаленняў. Усё старое скідваецца з воза гісторыі, бяруць сілу і лейцы ў рукі маладыя пачаткі.**

Мо і таму ў свой час на зломе эпохі малады Аляксандр Фадзееў у адным са сваіх твораў напісаў: «У пакой зайшоў стары гадоў сарака». Крыху пазней, праўда, паправіўся: «гадоў пяцідзесяці». Калі ж увабралася ў сілу і заняло ўладныя высоты ўсё маладое, яркае і таленавітае на зломе і ў росквіце застойнай, як пазней пачалі гаварыць, стабільнасці, адпаведна было яно амністыравана і пасунута: сярэднім узростам сталі 70 гадоў.

Сёння на чарговым, а мо і постчарговым пераломе эпохі ці не большасць нашых літаратараў можна назваць людзьмі сярэдняга ўзросту, а то постсярэдняга. Вось такія вынікі нашай зацягнутай гульні з гісторыяй, часам і ўзростам. Мастацкай гульні ў пацеркі — дэманстрацыя выназходлівасці нашага розуму, яго здольнасці да самападману. Таму што жывем мы ў час непадробнага самаспакушэння, калі не толькі апазіцыі, але і ўсім нам, усяму народу згодна з найноўшымі ўладнымі пастановамі, дырэктывамі, законамі амаль загадана добраахвотна садзіцца ў турму. І зусім не за нейкія парушэнні, дзейнасць, а нават сумненні! Бо мы вінаваты ўжо ў тым, што жывем, дыхаем…

Думаю, некаторыя з вас чыталі ў «Новым часе», як прадпрымальнік Мікалай Чарнавус падаваў заяўку ў Баранавіцкі гарвыканкам на дазвол пабыхаць дзве гадзіны ў цэнтры горада каля помніка Леніну. Адмовілі, бо гэта парушае артыкулы 2,5,8 Закона аб масавых мерапрыемствах.

Абсалютная абсурднасць, падманная прывіднасць нашага жыцця і ладу вымусілі мяне выказацца. У сучасных гульнях, гульнях беларускіх дурняў і ў беларускага дурня, як пісала ў «жаноцкім рамане з гноем» Ак-



Фота А.Спрынчан

Беларускі літаратар, творчае сталенне якога прыпадае на цяперашні этап так званай новай літаратурнай сітуацыі, выгнаннікам не становіцца, а «нараджаецца»

сана Спрынчан, удзельнічаем, вымушаны ўдзельнічаць і мы. У тым і сутнасць «падкіднога»: падкідваць нешта і некаму.

І падкідваючы, наступаючы ці абараняючыся, мы павінны думаць пра тое, што застанецца ўсё ж пасля гэтай высокаінтэлектуальнай гульні. Пра наш стан, хаця б метафізічны пасля заканчэння яе, стан сярэдняга ўзросту і тых, хто падменіць іх у новых гульнях у новага «падкіднога». Як не страціць метафізічнае і сапраўднае, прыроднае і прыроджанае, карэннае і карнявое, дзякуючы чаму беларус спакон веку гуляе амаль з усім светам? Як захавацца і працягнуць сілу і моц нашай наканаванасці, нарачонасці і прызначэння на зямлі?

Амаль пятнаццаць гадоў таму ў часопісе «Дружба народаў» была надрукавана мая аповесць «Прахожы». Надрукавана і надрукавана. Мне заўсёды сорамна перачытваць напісанае мной. У свой час я так і не разгарнуў часопіс. Зірнуў на аповесць, перабіраўшы архіў, якраз напярэдадні нашага пісьменніцкага З'езда. Здзівіўся пасляслоўю Льва Аннінскага. Вось яно, прабачце, скарочанае і без перакладу:

«…После пятилетнего госразвода беру в руки новую повесть Козько с щемящим чувством: родные, ну как вы там, за кордоном? Суверенность гуляет по страницам повести, как кот (кот — это главный герой), сама по себе… На земле перегородок понаделали, а в головах перегородки попадали: все смешалось… С сочувствием слежу, как отделившийся брат пускает в свой новый дом кота... Возврат к природе, к началам, к истокам. По Руссо... В смутное, неопределенное время надо строиться. Есть пристанище, нет пристанища — совершенно не в этом дело. А дело в том, что смута — страшное время. А в страшное время надлежит строиться. Чтобы не свихнуться...

Может, так: звезда Полынь положила конец нашему расширяющемуся свинарнику. А может, наоборот, в самом свинарнике вонь дошла до небес. И Чернобыль — следствие конца, и начало, что по Руссо, что по Дарвину — одно. Однако между началом и концом душу удержать надо...».

«Удержать» душу!

Утрымаць душу! На вялікі жаль, у нашай літаратуры не атрымалася. «Выгнанне» (прынамсі, метафізічнае, па сведчанні крытыка Ірыны Шаўляковай), для беларускага літаратара найноўшае пары — стан натуральны.

Беларускі літаратар, творчае сталенне якога прыпадае на цяперашні этап так званай новай літаратурнай сітуацыі, выгнаннікам не становіцца, а «нараджаецца».

Інакш аб'ектыўна і суб'ектыўна не магло і не можа быць. Выгнанне, выгручванне беларускай душы, беларушчыны пазбаўляе не толькі ў творчасці, але і ва ўсіх іпастасях нашага развіцця і існавання плёну — творчасці.

Апатычны народ цяжарны апатычнымі нашчадкамі. Маладыя творцы больш і часцей збягаюць, знаходзяць прытулак у віртуальнай рэальнасці. А як інакш, калі выгнанніцтва — справа рэальная? І яна сёння ўзаемная: уласцівая літаратуры маладой і літаратуры сталага і постсталага ўзросту. Таму з яе амаль цалкам знікла надзённае, рэальнасць. Альбо тое, што ў наш час называлі грамадскім гучаннем. Найбольш гэта тычыцца, адчуваецца ў маладой паэзіі. Дарэчы, мо таму ў яе сёння пераважна жаночы, а праўдзівей дзявочы твар і столькі гламуру…

Што тычыцца літаратуры старэйшага пакалення — я зноў вяртаюся да Ірыны Шаўляковай: вострае адчуванне яго прадстаўнікамі сваёй «адчужанасці» ў хаосе літаратуры і культуры так званага пераходнага перыяду, на першы погляд, лагічна вытлумачваецца «ўзроставым абвастрэннем, калі мінулае — асабістае і мастацкае (творчае) — успрымаецца больш сапраўдным, больш жывым за сучаснасць. З гэтага пункту гледжання добраахвотнае «выгнанніцтва» многіх старэйшых беларускіх пісьменнікаў паўстае не выракам, а выраем, ратавальным ўцёкамі ў віртуальную маладосць ад рэальнага, фізічна адчувальнага нябыту».

Жорстка сказана, вылеплена. Але гэта так, так. І што здзіўляе: такія процілеглыя тлумачэнні двух пакаленняў, як гэтыя процілегласці, супадаюць, сыходзяцца. Сапраўды, чары выгнанніцтва (сапраўднага і метафізічнага) не такія ўжо і «бяскрыўдныя».

І сёння, як ніколі, нам трэба думаць пра шляхі вяртання. Трэба думаць, як вярнуць і «удержаць душу». Як утрымаць душу. Гэта наша, па запавету Васіля Быкава, доўгая дарога дамоў. Да сябе.



РАДА

# ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

**23 снежня мінулага года адбылося пасяджэнне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», на якім быў абраны Сакратарыят старэйшай творчай арганізацыі Беларусі.**

Першым намеснікам старшыні Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў быў адзінагалосна абраны Алесь Пашкевіч (які ўзначальваў аб'яднанне на працягу 9 апошніх гадоў), другім намеснікам стаў Эдуард Акулін.

Рада ГА «СБП» зацвердзіла старшыняў абласных аддзяленняў пісьменніцкай арганізацыі, а таксама новы склад Прыёмнай камісіі і яе старшыню — Віктара Слінку.

Хвілінай маўчання сябры Рады ўшанавалі памяць пісьменніка, першага прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі Вацлава Гавала, які пайшоў з жыцця 18 снежня 2011 года.



ПРЭМІЯ

# У ГОНАР ГЕДРОЙЦА



**Амбасада Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Польскі Інстытут у Мінску, Беларускі ПЭН-Цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў абвяшчаюць пра заснаванне ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ГЕДРОЙЦА за найлепшую кнігу прозы, якая выйшла ў 2011 годзе на беларускай мове.**

Мэты прэміі: ушанаваць памяць Ежы Гедройца (1906 — 2000) — публіцыста, палітыка, заснавальніка і рэдактара парыжскага грамадска-палітычнага часопіса «Kultura». Ежы Гедройц нарадзіўся ў 1906 годзе ў Мінску і ў сваёй культурнай дзейнасці быў паслядоўным прыхільнікам добрасуседскіх зносінаў паміж Польшчай і Беларуссю, Літвой, Украінай; паспрыяць паглыбленню польска-беларускіх стасункаў у галіне культуры; папулярызаваць сучасную беларускую літаратуру ў Беларусі і Польшчы; падтрымаць актуальных беларускіх пісьменнікаў, паспрыяць выхаду іх творчасці на міжнародны ўзровень.

Літаратурная прэмія Гедройца прысуджаецца за найлепшую кнігу, якая была выдадзеная (у папяровым або электронным варыянтах) у 2011 годзе на беларускай мове ў жанрах мастацкай прозы і эсэістыкі (журы прэміі пакідае за сабой права вызначаць жанр твораў у спрэчных выпадках).

Намінаванне пройдзе ў тры этапы. На пачатку 2012 года будзе абвешчаны лонг-ліст прэміі (12 пазіцыяў). На пачатку лютага будзе абвешчаны шорт-ліст прэміі (6 пазіцыяў). Абвяшчэнне і ўшанаванне пераможцы(-аў) адбудзецца 3 сакавіка 2012 года — у Міжнародны дзень пісьменніка. Сярод узнагародаў — магчымасць выдаць кнігу ў Польшчы, літаратурныя стыпендыі і запрашэнні ў еўрапейскія дамы творчасці.

Правы прапаноўваць кнігі для ўключэння ў лонг-ліст прэміі маюць: сябры журы, дырэктары выдавецтваў, кіраўнікі творчых суполак і пісьменніцкіх арганізацыяў і (у перспектыве) лаўрэаты прэміі папярэдніх гадоў. Для намінацыі кнігі на прэмію неабходна даслаць або перадаць у сядзібу Беларускага ПЭН-Цэнтра падпісаную заяўку ў адвольнай форме, далучыўшы да яе 5 асобнікаў намінаванай кнігі.

Кантакты для падачы заявак: 220050, Мінск, а/с 218 або: Мінск, вул. Залатая горка, д. 2, кв. 101.

Даведкі па пытаннях вылучэння: (017) 288 14 61 (з 9:00 да 16:00 па буднях); e-mail: pen@vessobel.by.

## ПАЛІЦА

# ПАМЯЦЬ ПРА ПРОДКАЎ

**Не першы год журналіст, пісьменнік, гісторык і энцыклапедыст Леанід Маракоў займаецца вывучэннем гісторыі рэпрэсіяў у савецкай Беларусі.**




Вось з якімі словамі звяртаецца ён да наведнікаў створанага ім сайта marakou.by:

«Вы зайшлі на адзіны ў свеце сайт, дзе размешчаны біяграфіі нашых продкаў — пакутнікаў, расстраляных або закатаваных у турмах НКВД, і тых нямногіх, што пакалечанымі вырваліся з ленінска-сталінскіх канцлагераў. Гэта больш за 4000 настаўнікаў, 3000 каталіцкіх і праваслаўных святароў, 1500 медыцынскіх і ветэрынарных работнікаў, больш за 1000 літаратараў і навукоўцаў, многія тысячы іншых дзеячаў культуры, грамадства, прамысловасці Беларусі.

У бліжэйшыя часы планую пазнаёміць вас з біяграфіямі 20000 рэпрэсаваных беларускіх інтэлігентаў, а гэта фактычна ўся інтэлектуальная эліта крывавых 1920–1950-х гадоў. Усяго ж на сёння сабраны звесткі пра больш як 130 тысяч рэпрэсаваных жыхароў Беларусі.

Памяць пра нашых продкаў — падмурак, на якім мы зможам бараніць будучыню Беларусі, яе Свабоду і Незалежнасць!».

За апошнія гады Леанід Маракоў выдаў некалькі новых кніг на гэтую тэму: «Рэпрэсаваныя медыцынскія і ветэрынарныя работнікі Беларусі. 1920–1960», «Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі. 1917–1964», «Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917–1967. Том I», «Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі. 1917–1967. Т. II».

На згаданым сайце можна атрымаць поўную інфармацыю пра выданні і азнаёміцца са спісам усіх кніг, выдадзеных Леанідам Маракоўым.

Набыць гэтыя ды іншыя кнігі можна, звязаўшыся з аўтарам.

# БЕРЛІНСКАЯ МАЗАІКА

**Даўно ў кнігарні «ЛогвінаЎ» не было такіх гарачых дыскусіяў, дзе і глядацкая зала, і выступоўца, і арганізатары сустрэчы былі б роўнымі ўдзельнікамі гутаркі. Менавіта ў такім фармаце 28 снежня прайшла прэзентацыя кнігі Алеся Тарановіча «Берлінская мазаіка», якую зладзіў Саюз беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!».**




Пагаварылі пра ўсё: пра Беларусь сённяшнюю і ўчорашнюю, пра яе адрозненне ад Нямеччыны, пра «тупік» мадэрнізму ў выяўленчым мастацтве і магчымае выйсце з яго, пра «Тахелес», берлінскія блышыныя рынкі, пра эміграцыю і пра тое, чым ёсць Нямеччына для Алеся Тарановіча, паспрачаліся наконт сучаснай нямецкай прозы і абмяняліся думкамі наконт цяперашняга стану літаратуры і мастацтва ў Беларусі.

Адкрыў сустрэчу старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч. Алесь Разанаў расказаў пра сваё знаёмства з аўтарам «Берлінскай мазаікі» і згадаў, як параіў яму пісаць па-беларуску для беларусаў. Леанід Дранько-Майсюк прызнаўся, што чытае кнігу Алеся Тарановіча паўсюль, у метро і кавярнях, і ў пацверджанне прадэманстраваў чэк з кавярні, якім скарыстаўся замест кніжнай закладкі. Віктар Шніп прысвяціў Алесю Тарановічу свой верш «Тутэйшы вожык», мадэратар сустрэчы паэт Анатоль Івашчанка таксама прачытаў некалькі сваіх вершаў з апошняй публікацыі ў «навачаснай» «Літаратурнай Беларусі».

Сам Алесь Тарановіч пачытаў урыўкі са сваёй кнігі і падзяліўся сваімі назіраннямі, што да беларускай ментальнасці ў параўнанні з нямецкай. «Беларусы лёгка жывуць з немцамі, але паміж сабой ім паразумецца цяжка». «Беларусы робяць усё з аглядкай на іншых, а немцы ў цяжкія моманты гуртуюцца».



Прамаўляе Алесь Разанаў

У конкурсе на самае цікавае пытанне аўтару кнігі перамог колішні амбасадар Беларусі ў Нямеччыне Пятро Садоўскі, які за сваю актыўнасць на сустрэчы (спадар Пятро проста засыпаў аўтара іранічнымі пытаннямі) атрымаў у падарунак новы нумар часопіса «Дзеяслоў».

**Прэсавая служба СБП**

# ВЕРШЫ НЕ ПА ЗАГАДЗЕ

**Сваю новую кнігу «Шоргат жукоў» паэт Зміцер Вішнёў прэзентаваў у «еўрапейскім фармаце». Аўтар вырашыў абысціся без перформансаў і проста пачытаў свае вершы ды адказаў на пытанні аматараў паэзіі. Зрэшты, як выявілася, свае творы Вішнёў не хоча называць «вершамі» і аддае перавагу слову «тэксты».**

Прэзентацыя новай кнігі Змітра Вішнёва адбылася ў перадкаляднюю пятніцу ў актавай зале Мінскай абласной бібліятэкі імя А.Пушкіна. Вядоўца вечарыны, арт-мэнэджар і перакладчыца Ірына Герасімовіч, пачала імпрэзу з цытаты Віславы Шымборскай, якая казала пра тое, што паэзія акрамя саміх паэтаў і даследчыкаў цікавіць хіба двух-трох чалавек з тысячы. «А нас тут паглядзіце колькі!» — з аптымізмам сказала Ірына, звяртаючыся да амаль поўнай залы.




Каб усіх настроіць на адну хвалю, героя вечара адразу папрасілі прачытаць што-небудзь паказальнае з новага. Зміцер паабяцаў, што гучна прамаўляць не будзе — ды абраў верш, з якога пачынаецца «Шоргат жукоў»: «Вершы не пішуцца па загадзе, яны не падпарадкоўваюцца сігнальным ракетам…».

У працэсе дыскусіі паэта назвалі адным з самых паслядоўных удзельнікаў суполкі «Бумбам-літ», якая колісь змяніць аблічча беларускай літаратуры. Але той не пагаджаўся: «Хоць у творах і вокладцы аўтарства Ігара Клімава прагладаецца сувязь з мінулым, я ўсё ж адышоў ад бумбамлітаўскай творчасці», — заявіў ён і прыняў толькі вызначэнне, якое дала Ірына Герасімовіч: «Ён піша не так, як у «Бумбам-ліце», а так, як трэба пісаць пасля «Бумбам-літа».

З.Вішнёў працягваў нягучна чытаць вершы з новага зборніка ды адказваць на пытанні цікаўных. «Я спрабую ўдасканальваць унутраны досвед. У «Трапе для сусліка» я ўзяўся рыфмаваць сказы. Цяпер мне гэта нецікава. У новай кнізе я ўзяўся за санеты, але больш не буду, бо гэта пройдзены этап», — сказаў ён і прызнаўся, што яму шмат чаго не падабаецца з напісанага ім, але галоўнае тое, што за гэта не сорамна — ані перад сабой, ані перад чытачом. Яго паэзія не выпрабленая, так лічыць сам паэт: «Нікол не бывае такога, што я выпісваю. Словы на мяне сыходзяць, і здараецца, што магу за пару хвілінаў напісаць тэкст». Ён вельмі проста падзяляе паэзію — на «выпісаную» (калі людзі навучыліся ўдала рыфмаваць) і «ўнутраную» (гэта калі ад душы). Прычым Зміцер падкрэслена жадае, каб яго называлі мастаком і літаратарам, а не паэтам і выдаўцом.

**Паводле Мікалая Дубавіцкага, budzma.org**

ПЫТАННІ

# БЕЛАРУСКАЯ КНІГА: АЎТАРЫ І ЧЫТАЧЫ

**Як часта чытаюць беларусы? Колькі сучасных пісьменнікаў ведаюць і ці купляюць кнігі ў кнігарнях? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні высвятляла лабараторыя «Новак» па просьбе Саюза беларускіх пісьменнікаў у снежні 2011 года. Вынікі апытання, праведзеныя напярэдадні Года кнігі, не абнадзейваюць. Як паведаміла прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў, каля паловы беларусаў не чытаюць літаратуру або чытаюць вельмі рэдка, беларускімі кнігамі не цікавяцца 62 % апытаных, каля двух трацінаў не ведаюць ніводнага сучаснага беларускага пісьменніка.**



Згодна з вынікамі апытання, мастацкую літаратуру хаця б раз на тыдзень чытае 16,9% беларусаў, раз на месяц чытанню прысвячае свой вольны час — 24,4% рэспандэнтаў. Ніколі не бярэ ў рукі кнігу — амаль траціна насельніцтва.

Па-беларуску кнігі не чытаюць 80% апытаных…

97,1% беларусаў не чытаюць мастацкія творы ў перакладзе на беларускую мову. 68,4% з іх ні пры якіх умовах не абралі б беларускамоўны пераклад.

Варта адзначыць, што сярод літаратурных жанраў, якім у большай ступені аддаюць перавагу нашыя суайчыннікі, асноўны — дэтэктыўны (38,3%), за ім па «чытанасці» ідуць жаночыя раманы (28,1%) і класічная (26,5%) літаратура.

Асноўны шлях кнігі да беларускага чытача — ад сяброў і знаёмых. 44% аматараў чытва пазычаюць кнігі, 28,7% — купляюць у кнігарнях, у тым ліку праз інтэрнэт, 26,8% — па-ранейшаму наведваюць бібліятэкі, 12,6 % — спампоўваюць з Інтэрнэту. 49,9 % не купляюць кнігі наогул.

На пытанне пра пастаці сучаснай айчыннай літаратуры абсалютная большасць беларусаў (74,6%) не можа назваць ніводнага пісьменніка. Сярод самых вядомых — Васіль Быкаў (6,5%), Уладзімір Караткевіч (3,8%), Іван Шамякін (3,2%), Уладзімір Някляеў (2,8%). Сучаснымі Якуба Коласа і Янку Купалу лічаць 2,4% і 2,2% адпаведна. Ніводнай сучаснай беларускай пісьменніцы не змаглі назваць 84,9 % апытаных. Шасцёрка ж названых выглядае так: Святлана Алексіевіч (2,8%), Цётка (2,5%), Валярына Кустава (2,1%), Раіса Баравікова (1,5%), Наталля Батракова (1,1%) і Яўгенія Янішчыц (1,1%).

А сярод айчынных пісьменнікаў, якіх беларусы не проста ведаюць, але і любяць, –Васіль Быкаў (7,4%), Уладзімір Караткевіч (7,4%), Якуб Колас (5,5%), Янка Купала (3,9%) і Іван Мележ (2,9%).

Замежных пісьменнікаў не ведаюць і не любяць чытаць — 48,7% і 39,0% адпаведна. Любімыя небеларускія пісьменнікі нашых чытачоў: Дар'я Данцова (11,3%), Аляксандра Марыніна (5,6%), Таццяна Усцінава (3,4%), Леў Талстой (2,5%) і Юлія Шылава (2,0%).

Што тычыцца перыядычных выданняў, то 91,9% беларусаў не чытаюць айчынныя літаратурныя часопісы, а 98,9% не чытаюць часопісы замежныя, у тым ліку і расійскія, з якіх найбольш папулярныя «Литературная газета» (0,3%) і часопіс «Наш современник» (0,3%). Найбольш чытаныя айчынныя выданні — дзяржаўныя (якія адпаведна папулярызуюць і выпісваюць бібліятэкі): часопіс «Нёман» (2,9%), газета «Літаратура і мастацтва» (2,6%), часопісы «Полымя» (2,2%), «Маладосць» (2,2%). З незалежных найбольш чытаныя часопіс «Дзеяслоў» (0,6%) і дадатак да «Новага Часу» «Літаратурная Беларусь» (0,4%).

Але даволі сумная сітуацыя з беларускай літаратурай у нашай краіне, на думку рэспандэнтаў, можа змяніцца. Больш за палову апытаных (52,4%) лічаць, што гэтаму будзе спрыяць з'яўленне цікавых аўтараў і твораў, 27,2% — большавая жанравая разнастайнасць, 22,9% — лепшая рэклама, 17,5% — зніжэнне кошту кніг. Дзяржаўная падтрымка можа палепшыць сітуацыю па думку толькі 14,6% рэспандэнтаў.

Варта таксама адзначыць, што дзейнасць найстарэйшай творчай арганізацыі Беларусі — Саюза беларускіх пісьменнікаў — станоўча ацэньваюць 61,4% апытаных, і толькі 8,8% даюць дзейнасці СБП негатыўную адзнаку.

**Вынікі прыведзенага сацыялагічнага апытання выклікалі розгалас. Адно з меркаванняў публікуем сёння. Вось якімі думкамі падзяліўся ў сваім блогу крытык Павал Абрамовіч:**

«Саюз беларускіх пісьменнікаў замовіў сацыялагічнае апытанне, па выніках якога высветлілася: 82% чытаюць кнігі на рускай мове і толькі 13,8% — па-беларуску. Пры гэтым 70% не ведаюць ніводнага сучаснага пісьменніка.

Чаму такія вынікі?

З аднаго боку, дзяржава імкнецца кантраляваць сферу беларускага кнігагандлю праз механізмы ліцэнзіяў, выдавецкіх планаў і цэнзуры; яна не аслабляе падаткі, не дае інвестыцыяў, дзічыцца найновых сродкаў камунікацыі, выдання і распаўсюду кніжнай прадукцыі; паўсюль тут пануюць бюракратыя, адсутнасць ведаў, густу і матывацыі. Больш за тое, улады задзейнічалі адміністрацыйны рэсурс, каб аддаліць ад людзей сапраўдную нацыянальную літаратуру — як класічную, так і сучасную, — падмяніць яе ідэалагічнай графаманіяй, паралізаваць працу нелаяльных пісьменнікаў і прыватных выдаўцоў.

Акром таго, у краіне не распрацаваныя нацыянальныя праграмы папулярызацыі чытання, зруйнаваныя перакладчыцкая школа і інстытут літаратурных крытыкаў. Распаўсюдам літаратуры па-за межамі краіны займаюцца, як могуць, Мінкульт і МЗС. Паўсюль галеча, неўладкаванасць: работнікі культуры ў сталіцы і рэгіёнах выбіваюцца з апошніх сіл, атрымліваючы мізэрныя заробкі за сваю працу; у дзіцячыя садкі бацькам даводзіцца несці свае кніжкі, бо іх настойліва просіць аб гэтым адміністрацыя, — гэта мела месца нават у часы беларускага «эканамічнага цуду».

Пры гэтым на дзяржаўным узроўні мовай зносінаў у сферы культуры, як і ва ўсіх іншых, застаецца пераважным чынам руская.

З другога боку, беларускія чытачы апынуліся ў палоне расійскіх выдаўцоў, якія свабодна пачуваюцца на нашай тэрыторыі. Адбылося гэта дзякуючы моўнаму фактару, моцным сувязям на ўзроўні «метраполія-правінцыя», наяўнасці вялікіх грошай у расійскіх літаратурных холдынгаў, неаслабнай падтрымцы рускай (і рускамоўнай) літаратуры з боку розных інстытутаў, у тым ліку мас-медыя, якія транслююцца на тэрыторыі Беларусі. Да таго ж расійскія выдавецкія групы могуць задаволіць чытацкі попыт на ўсе жанры масавай літаратуры, якая цяпер дамініруе ва ўсім свеце, маюць рэзервы для якасных перакладаў замежных твораў розных узроўняў на сваю мову, спрытна друкуюць розныя даведнікі і энцыклапедыі. У гэтых варунках нядзіўна, што многія беларускія прыватныя кнігавыдавецтвы дзейнічаюць як расійскія філіі, а маладыя пісьменнікі Беларусі вырашаюць пытанне з мовай сваіх кніг на карысць рускай і адпраўляюць свае рукапісы ў Маскву і Санкт-Пецярбург.

Гэтую прыкрую сітуацыю можа змяніць толькі стварэнне эканамічна незалежнай дзяржавы ў нацыянальных формах — усё астатняе беларуская літаратура зробіць сама. Як магутная рака, на берагох якой нарэшце зруйнавалі хімічныя прадпрыемствы».

РЭХА

# МАЛЕНЬКІЯ РАЗВАГІ НАД ВЯЛІКАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

## ДА 20-ГОДДЗЯ РАСПАДУ СССР

Анатоль ТРАФІМЧЫК

*За детство счастливое наше*
*спасибо, Родная Страна.*
*З песні сталінскіх часоў*

Сёння многія яшчэ праяўляюць даволі высокую ступень настальгіі па такім дзяржаўным утварэнні, як Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, з якога родам, бадай, усё наша сацыяльна свядомае насельніцтва.

Гэтая настальгія мае пад сабой не столькі рацыянальную глебу, колькі ірацыянальныя вытокі. Найперш хочацца адзначыць, што настальгія — гэта пачуццё, а не думка. Калі ж асэнсоўваць такі феномен — меркаванне, што ў час Саюза было лепей, трэба звярнуць увагу перадусім на псіхалогію чалавека. А 20 гадоў назад, калі скончыліся «старыя добрыя часы» застою і стабільнасці, акрамя той самай стабільнасці і непатрэбнасці думаць пра свой лёс (тут асноўную функцыю бралі на сябе інстытуцыі дзяржавы), чалавек быў нашмат маладзейшы і больш здаровы — гэта тое, чаго не купіш, нават зарабіўшы сёння вялікія грошы. Таму настальгія тая — гэта не што іншае, як сум па маладзейшым узросце (калі хацелася і магло́ся). Да таго ж сёння цяжкім друзам лягло на чалавека крытычнае мысленне, рэфлексійнасць, чаго за савецкім часам дзяржава імкнулася не развіваць у чалавеку на сацыяльным узроўні, каб сабе не нашкодзіць, бо трымалася яна на ўніфікацыі жыцця свайго насельніцтва — «усе роўныя».



Але ж давайце разбяромся, што такое Савецкі Саюз, дый увогуле, што такое любое дзяржаўнае ўтварэнне. Гэта — ідэя. І не больш. Абстракцыя — у адрозненне ад кожнага канкрэтнага чалавека. Таму за час існавання цывілізацыі і ўсталяваліся гуманістычныя каштоўнасці, вянцом якіх з'яўляецца чалавек. Заўважце: не нейкая абстрактная ідэя. А ідэі — яны былі і будуць. Іх адрозненне паміж сабой заключаецца ў тым, што некаторыя з іх увасабляюцца ў рэчаіснасць, а некаторыя — не.

Колькі было дзяржаўных праектаў, нават на беларускіх землях? А рэалізоўваліся адзінкі. А вось адрозненне дзяржаўніцкай ідэі ад канкрэтнга чалавека палягае ў тым, што апошні, стаўшы аднойчы рэальнасцю, можа застацца толькі ў памяці іншых, знікнуўшы раз і назаўсёды. У той час, калі ідэі могуць адраджацца. Да таго ж ідэі як суб'екту не баліць — у адрозненне ад чалавека, які перажывае рэчаіснасць. Ідэя ўвогуле не можа быць суб'ектам. Яна — толькі аб'ект нашага ўспрымання і маніпуляцый. А ўспрыманне тое вельмі індывідуальнае. Таму адна і тая ж ідэя можа ўяўляцца розным людзям па-рознаму. Той самы СССР — для адных гэта дабрабыт і спакой, а для іншых — таталітарызм і прыгнёт.

З гэтай прычыны чалавек з'яўляецца самакаштоўным феноменам, які не павінен служыць абстракцыям. Гэта ідэі павінны служыць чалавеку. Такім чынам, не чалавек для дзяржавы, а дзяржава для чалавека. Гэта не значыць, што дзяржава, нацыя не з'яўляюцца каштоўнасцямі. З'яўляюцца. І вельмі значнымі. Толькі канкрэтны чалавек стаіць паперадзе як каштоўнасць, ачольвае аксіялагічную сістэму, з'яўляецца яе мэтай.

Аднак па-ранейшаму, як сказаў філосаф С. Лец, у барацьбе ідэй гінуць людзі. Праз гэты афарызм высвечваецца ненармальнасць сітуацыі, калі чалавек становіцца вінцікам ідэі ці хоча ім стаць, як у выпадку настальгіі па Савецкім Саюзе.

Любіце канкрэтнага чалавека, а не штучныя абстрактныя выдумкі (асабліва ў выглядзе дзяржаўных ідэалогій). Толькі такім чынам жыццё будзе паляпшацца.

АЛФАВІТ ІНШАДУМСТВА

# «ТАЛСТОЙ ПАДПІСАЎСЯ Б ПАД ЛЮБОЙ

**Ужо дзявяты год Беларусь жыве без Васіля Быкава. Жыве — па спрагназаваных і напрарочаных пісьменнікам днях, клопатах, падзеях. І ўсё часцей мусіць успамінаць яго — каб знасці ўрэшце выйсце.**

**Помняць Васіля Быкава і звяраюць свой шлях па ім не толькі ў Беларусі… Чытачам «ЛБ» прапануюцца фрагменты гутаркі пра творцу і грамадзяніна, якая нядаўна прагучала на хвалях расійскай рэдакцыі «Радыё Свабода» ў перадачы «Па-над бар'ерамі».**



***Іван Талстой:** — Васіль Уладзіміравіч Быкаў… Як Вы ставіцеся да гэтага пісьменніка?*

**Андрэй Гаўрылаў:** — З захапленнем. Такі быў час, што ўсе хлапчукі чыталі ваенную прозу, прычым, самую розную — і добрую, і дрэнную, як я цяпер разумею, і хлуслівую, і праўдзівую, і сярэднюю, — усё, што трапляла пад руку, бо ваенная тэма была вельмі блізкая пакаленню, якое было ледзь-ледзь старэй нас, і пад іх уплывам мы таксама ўсё гэта праглыналі. Дык вось, усе гэтыя ваенныя аповесці ў большасці сваёй былі прадказальныя. І раптам мне трапляецца «Мёртвым не баліць». І я памятаю, як я пачынаю чытаць прыкладна з такім жа адчуваннем, і гэта адчуванне пачынае тармазіцца: не тое, не тое, — я ўчытваюся ў гэта, і ўжо зусім па-іншаму вайна раскрываецца.

Я здагадваўся, што вайна была не такая прыгожа-святочная, як многія кнігі пра вайну спрабавалі яе паказаць, але тое, што вайна ўпершыню мне раптам была паказана знутры чалавека, з усімі перажываннямі чалавека, не калі батальёны вырашаюць, каму пайсці направа, каму налева, якую вышыню ўзяць першай, якую другой і хто хутчэй фарсіруе Днепр ці Одар, а калі паказаны чалавек, які, вядома, вельмі хоча выжыць, але пры гэтым яшчэ адчувае, што ён не можа страціць сябе. Вось тады я ўпершыню заўважыў прозвішча аўтара — Васіль Быкаў. Тады я ўпершыню зразумеў, што гэта зусім іншая літаратура, і гэтым творам ён мяне скарыў назаўжды. І хоць пазнейшыя рэчы былі нашмат глыбей, у чымсьці трагічней, у чымсьці лепш напісаныя, тым не менш, для мяне Быкаў застаецца шмат у чым менавіта аўтарам рамана «Мёртвым не баліць».

**Іван Талстой:** — Першай аповесцю Васіля Быкава для мяне стаў «Сотнікаў». У самым пачатку 70-х мне далі мае старэйшыя часопіс «Новый мир» з гэтай аповесцю. Мне было гадоў чатырнаццаць. Быкаў, я тут з вамі зусім пагаджуся, спыніў маё чытанне. Звычайна чытаеш хутка — зразумелыя хады, лініі нейкія, модулі апісання вайны даволі стандартныя і шаблонныя. Быкаў спыняе нетрывіяльным, нетыповым ходам аповеду, бо ў Быкава не пра бой, а пра сумленне, пра чалавека, пра выбар — гэта экзістэнцыяльныя аповесці.

І тады мяне ўразіла вось што. Я ўжо прачытаў сёе-тое Набокава да таго часу, ён мяне зусім захапіў, гэта моўная раскоша, «парчёвая проза», як ён сам пра кагосьці сказаў, неверагодная выкшталцонасць, і зразумела, што такі пісьменнік павінен быць забаронены, задушаны, у нас не друкаваны, і гэтак далей. Я прачытаў і «Майстра і Маргарыту» да таго часу. Я хачу сказаць, што ў мяне быў нейкі досвед чытання недазволенай літаратуры. І ў Васілю Быкаву мяне ўразіла нейкая недазволенасць, але гэта была недазволенасць іншага гатунку, гэта была ідэйная, ці што, экзістэнцыяльная недазволенасць. <…> Заставалася нейкае ўзрушаючае талстоўства. Я ўпэўнены, што Леў Мікалаевіч Талстой, калі б ён пражыў XX стагоддзе, падпісаўся б пад любой з аповесцяў Васіля Быкава, настолькі гэта было сур'ёзна, па-сучаснаму, адмяняючы фальшывыя хады аповеду, адмяняючы нязначныя эпізоды. Усё працуе на раскрыццё героя, на ўсю складанасць яго. Паглядзіце: Быкаў у сваіх кнігах ніколі нікога асабліва не лае, тым больш, калі гэта цэнтральныя героі. Ён не паказвае падлюгаў ці добрых, любімых герояў чорнай ці белай фарбай. У яго абавязкова падлюга моцны фізічна, ён амаль прыгожы, ён ладны, разумны, ён востры, хуткі, здагадлівы, адважны… Але ён становіцца нягоднікам і здраднікам, ён становіцца маладушным. І ў гэтым выдатны кантраст, у гэтым выдатнае разуменне мастацкасці. Але не эфектнай, а талстоўскай мастацкасці. І, наадварот, герой чэзлы, як той жа Сотнікаў (я люблю гэтую аповесць, гэта лепшае, што я чытаў пра вайну), ад якога суцэльныя праблемы, ён «troublemaker», як сказалі б ангельцы, ён кашляе, ён хворы, ён невыносны… А вось у ім чалавечая прыгажосць раптам раскрываецца. І гэта таксама наймоцны, найправільны ход… І ў гэтым, я думаю, Васіль Быкаў вялікі і несмяротны.

**Андрэй Гаўрылаў:** — Калі Вы казалі, што ў яго аповесцях няма залішняга, я б яшчэ дадаў, што няма залішняй рыторыкі, якая, да таго часу, як ён пачаў пісаць і друкавацца, цалкам практычна запоўніла ўсё, што распавядала пра вайну ў літаратуры, у кіно і ў жывапісе. Мне здаецца, што своеасаблівая адсутнасць стылістычных узлётаў, некаторая шэрасць стылю (шэрасць не ў адмоўным сэнсе, а ў сэнсе адсутнасці яркіх фарбаў) была абрана калі не свядома Васілём Быкавым, то як рэакцыя. Успомніце карціны: бравы генерал з залатымі зіхоткімі медалямі, чырвоны, сіні, чорны колер — ён практычна заўтра паставіць нагу на цела зрынутага фашыста. Вось супраць такіх фальшывых фарбаў і спрацоўвае адмысловая шэрасць стылю Васіля Быкава. Мне здаецца, што гэты стыль блізкі шмат у чым стылістыцы яго герояў. Яго героі жывуць у такіх фарбах, яны жывуць у такой стылістыцы свету. Менавіта таму некаторыя іх душэўныя хістанні, маральныя пакуты раптам нечакана вылучаюцца на, здавалася б, такім шэрым і пазбаўленым колераў фоне. Але гэта, напэўна, справа густу, кожны гэта разумее па-свойму.

Акром таго, у Васіля Быкава ёсць бязлітасныя выявы, бязлітасныя хады, і далёка не заўсёды падлюгі і нягоднікі ў яго валодаюць нейкімі станоўчымі ці наогул нават чалавечымі рысамі. У Васіля Быкава было адно бліскучае апавяданне, якое я вельмі доўга захоўваў у часопісе «Юность», бо яно не ўваходзіла ні ў якія зборнікі твораў пісьменніка, ён у кніжным фармаце быў перавыдадзены ўжо падчас новай эпохі ці падчас перабудовы. Гэта было апавяданне «Сваякі». Жорсткае апавяданне, страшнае, пра тое, як у беларускай вёсцы жанчына прыходзіць да сваяка з просьбай пагаварыць з сынам, бо сын-падлетак збіраецца ў партызаны. Яна не можа ўявіць сабе, што яго страціць (зразумела, што большасць партызан асуджаны), і просіць: вось пагавары ты з ім па-мужчынску, па-свойму, тым больш, ты ведаеш, пра што казаць. А гэты яе сваяк — паліцай (вёска занята немцамі). Так, — згаджаецца сваяк, — я з ім пагавару. Ён прыходзіць у хату з немцамі, хлопца забіраюць і расстрэльваюць. Жанчына кідаецца ў калодзеж.

Усё. Кароткае, зусім немудрагелістае апавяданне, з аднаго боку, і апавяданнне, якое табе не пакідае і наймалой надзеі ні на што. Вось там гэты родзіч-паліцай, нават калі ён выведзены, як вы кажаце, Іван, вялікім, добрым, моцным, гэта забываецца праз імгненне: занадта моцнае адчуванне нам перадае аўтар ад усёй гэтай жудаснай сітуацыі.

**Іван Талстой:** — Я ўсяго толькі меў на ўвазе, што гэты шэры моўны, стылістычны фон, які ўжывае Быкаў (абсалютны майстар, якому падуладная сіла слова!), ён наўмысна падбірае гэтыя кіпцюры, бо разумее, што, як на вернісажы яркія карціны, а, у дадзеным выпадку — яркія чалавечыя выявы і неверагодна запамінальныя экзістэнцыяльныя ўчынкі і сітуацыі, павінны вісець на шэрым палатне. Не трэба націскаць мовай там, дзе націскае само жыццё, дзе націскае ўчынак, прыгажосць ці пачварнасць чалавечых паводзінаў.

Мы запрасілі ў нашую студыю супрацоўніка Беларускай рэдакцыі «Свабоды», у мінулым — дэпутата беларускага парламента Сяргея Навумчыка, які блізка ведаў і шмат гадоў супрацоўнічаў з пісьменнікам. Ці справядліва, з Вашага пункта гледжання, уключэнне Васіля Быкава ў шэрагі іншадумцаў?

**Сяргей Навумчык:** — Абсалютна справядліва, таму што ў яго біяграфіі зафіксаваны і 60-я гады, і супрацоўніцтва з «Новым миром», і дзікія канфлікты з цэнзурай, і «тамиздаты» яшчэ адносна маладога Быкава, літаральна першых жа яго твораў, і, нарэшце, канец 80-х гадоў, калі ён узначаліў, па сутнасці, антыкамуністычны нацыянальны рух у Беларусі, быў духоўным лідарам, і для многіх з тых, хто тады быў у дэмакратычным руху, Быкаў стаў постаццю з першага шэрагу, ён увасабляў сабой і дэмакратычны рух, і, як мы яго тады разумелі, іншадумства.

**Іван Талстой:** — Распавядзіце, калі ласка, пра ўзаемаадносіны Васіля Быкава з савецкай цэнзурай. Наколькі я ведаю, зусім не ўсё, што ён хацеў надрукаваць, атрымлівалася надрукаваць… З чаго ўсё пачалося? Ён што, апазіцыянерам ці іншадумцам нарадзіўся?

**Сяргей Навумчык:** — Не, безумоўна. Да пачатку 60-х гадоў у Быкава была цалкам трывіяльная біяграфія. Падумайце самі: афіцэр у гады вайны, прычым, дэмабілізаваны значна пазней, чым вайна скончылася, потым праца ў гарадзенскай абласной газеце, потым ізноў яго прызвалі ў войска, служба на Далёкім Усходзе, служба на працягу некалькіх гадоў, вельмі цяжкая, і служба не ў ваеннай газеце ці паліторганах, а звычайным ротным. Потым вяртанне ў Гародню, праца ў абласной газеце літкансультантам (зразумела, што гэта была партыйная газета). Нядаўна апублікаваны яго першыя літаратурныя досведы, якія ён сам ніколі не друкаваў. Там, безумоўна, бачныя праблíскі таленту, але па ідэйным утрыманні гэта абсалютна савецкія апавяданні.

І ён пачынаў, калі браць тэматыку, як пісьменнік, які ў рэчышчы Віктара Някрасава падаваў тую праўду, якую ён бачыў, яе звалі «акопнай праўдай''. І вось тут у сярэдзіне 60-х гадоў і адбыліся яго першыя сутыкненні з цэнзурай. Найбольш яркі прыклад — гэта яго аповесць «Мёртвым не баліць», дзе, сярод іншага, былі выведзены і смершаўцы, супрацоўнікі НКВД. Гэта стала прычынай таго, што аповесць была вельмі моцна падрэзана. Яму толькі часткова, у вельмі скарочаным варыянце ўдалося яе надрукаваць у Беларусі, і потым у рускім, у яго ж аўтарскім перакладзе яна была апублікавана ў Маскве. «Круглянскі мост» (праз два гады) апублікаваў Твардоўскі ў «Новом мире», і тады ж завязаліся адносіны Быкава з Салжаніцыным, які добра ацаніў раннюю быкаўскую прозу. Хоць казаць пра тое, што гэта быў малады пісьменнік, не даводзіцца: Быкаву ўжо было 42–44 гады, ён быў ва ўзросце, чалавекам з жыццёвым досведам, бацькам дваіх дзяцей.

Калісьці я яго спытаў: «Васіль Уладзіміравіч, а колькі тамоў было б у вашым поўным зборы твораў? Атрымалася б наогул апублікаваць гэта ўсё ў першародным выглядзе?». Ён сказаў: «Не, Сяргей, калі гаварыць пра раннія аповесці, я б і сам іх не мог аднавіць, бо рэдактарская рука і цэнзура так па іх пахадзіла, што цяпер ужо проста не разбярэш, і я сам не разбяру, што там ад мяне, а што — ад рэдактара ці цэнзара».

Дарэчы, мы маем больш ці менш аўтэнтычнае выданне «Мёртвым не баліць». У 1965 годзе нашыя калегі, супрацоўнікі Беларускай службы Радыё Свабода ў Мюнхене, выдалі гэту аповесць.

**Іван Талстой:** — Гэта значыць, гэта быў быкаўскі «тамиздат»?

**Сяргей Навумчык:** — Больш за тое, цікава, што сам Быкаў у той час толькі чуў, што, нібыта, там гэтую кнігу апублікавалі, а ўбачыў ён яе і трымаў у руках ужо ў 2000 годзе, калі прыехаў у Прагу…

**Іван Талстой:** — Кніга была апублікавана па-беларуску?

**Сяргей Навумчык:** — Так… З «Мёртвым не баліць» менавіта дыяспара дапамагла, што ж тычыцца выдання многіх іншых яго твораў: па дадзеных маскоўскай Кніжнай палаты на канец 90-х гадоў Быкаў быў перакладзены на 52 мовы свету. Да сённяшняга часу мы не маем у Беларусі аўтара, якога б столькі перакладалі. Вядома, яго выдавалі ў сацыялістычных краінах, але не толькі.

# З АПОВЕСЦЯЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА»

<…>

**Іван Талстой:** — У студзені 2000-га года ў нашай маскоўскай студыі Уладзімір Бабурын гутарыў з Васілём Быкавым, які толькі што атрымаў прэмію «Трыумф». Але гаворка ішла, зразумела, не толькі пра яе. Уладзімір Бабурын паставіў пытанне так: ці лічыце Вы сябе незапатрабаваным? Ці пакутуеце праз тое, што пісьменнікаў цяпер не слухаюць. Быкаў адказаў:

**Васіль Быкаў:** — Калі не слухаюць, гэта яшчэ не трагедыя. Горш, калі слухаюць не тыя. А вось па гэтай частцы, я б сказаў, у нас нічога не зменяецца. Тыя органы, якія прыстаўлены да літаратуры, яны заўсёды слухаюць. Я не ведаю, як цяпер у Расіі, я ўсё-ткі тут даўно не быў, а ў нас, у Беларусі, гэта працягваецца, напэўна, з дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Вядома, тут дваякае можа быць стаўленне да гэтага факту. Дзесьці напачатку 60-х гадоў прыязджаў у Маскву выдатны Джон Стэйнбек, ён сустракаўся з маскоўскімі маладымі пісьменнікамі і, як я памятаю з тых часоў, ён казаў: «Што ў вас за вольнае слова саджаюць, даюць тэрмін, — гэта ж выдатна. Гэта гаворыць пра кошт гэтага слова. На Захадзе, напрыклад, яно не мае ніякага значэння: што б вы ні казалі на любой плошчы, усё будзе марна».

Дык вось, мы цяпер якраз прыйшлі да такога стану, калі слова пісьменніка па вялікім рахунку нічога не варта. Стаўленне да гэтага можа быць вырашана ў духу Камю. Памятаеце, яго «Чума», выдатная рэч, якую калісьці Твардоўскі назваў «Евангеллем XX стагоддзя»? Можа быць, і ў духу Талстога: самае яго вядомае выслоўе: «Рабі, што належыць, а там хай будзе, што будзе». Таму, я думаю, не варта драматызаваць гэтую сітуацыю. Пісьменнік проста павінен рабіць сваю справу і пісаць так, як ён лічыць патрэбным.

<…>

**Іван Талстой:** — Пра феномен пісьменніка разважае ўважлівая чытачка, якая прагна цікавілася быкаўскай творчасцю ўжо напачатку 60-х, — Валерыя Навадворская.

**Валерыя Навадворская:** — …Можна сказаць, што спачатку гэта быў сумленны франтавы пісьменнік («Трэцяя ракета», скажам)... Насамрэч, безумоўна, ён быў тым, каго звалі ў савецкай Беларусі ў 30-я гады «нацдэмам» — нацыянал-дэмакратам. Такіх усіх запар арыштоўвалі і знішчалі... Па-першае, ён пісаў па-беларуску, што было не характэрна — многія ўкраінцы і беларусы проста не ведалі сваёй мовы і так і шпарылі па-руску з самага пачатку, не даводзілася перакладаць. І ён не пасвіўся, як усе, у «Дружбе народов» (гэта быў такі аазіс, такая дзіцячая пляцоўка для нацыянальных літаратур, там дазвалялася больш, чым у іншых месцах). Ён пачынаў з «Юности», і пачатак быў нетыповы.

Яшчэ ў 1964 годзе (мне тады было 14 гадоў, таму я з цяжкасцю ўзгадваю) была бліскучая аповесць «Западня». Вельмі страшная аповесць. Там ішла гаворка пра тое, што свае страшней чужых. Там немцы не змаглі зламаць маладога палоннага лейтэнанта, ён ім нічога не сказаў, але ў кішэні яны ў яго знайшлі ведамасць — ён камсамольскія ўнёскі атрымліваў. І яны прарабілі з ім такую штуку, як быццам бы ён ім назваў сваіх байцоў, і яны запусцілі ў трансляцыю на савецкія акопы, што, маўляў, заклікаем перайсці на наш бок вось такога, вось такога... Даволі дурны варыянт здрады, як сабе гэта бачылі тагачасныя асабісты. Але асабістаў і смершаўцаў хапала. Пасля чаго гэты ўмелы садыст-гестапавец, які выдатна гаварыў па-руску, загадаў яго адпусціць і сказаў: «Ты ж хацеў ісці да сваіх. Ну, ідзі»... І калі малодшы лейтэнант дайшоў да сваіх акопаў, да яго, нарэшце, дайшло, што стралялі па ім не з нямецкіх, а з савецкіх акопаў, і калі ён там апынуўся, ніхто яму не верыў, усе лічылі яго здраднікам. І ўжо збіраўся асабіст яго арыштаваць, але тут абвясцілі чарговы наступ...

Гэта быў вельмі нетыповы варыянт франтавой літаратуры. Далей усё так і пайшло. Партызаны аказаліся не анёлы, а такія ж людзі, як немцы, калі не горш... «Мёртвым не баліць» — гэта ж жудасная рэч, таксама вельмі ранняя, калі на міннае поле гоняць сваіх санітарак і сваіх байцоў, калі бравы капітан, які баіцца, што хтосьці дэзертыруе ці не ляжа пад танк, патрапіўшы ў палон, тут жа пачынае служыць немцам.

Увогуле — суцэльны жах. І ніякага прасвету, ніякай радасці ад перамогі няма. Гэта не Сіманаў, гэта нават не Леанід Першамайскі, у якога былі гэтыя моманты, гэта нават не Кандрацьеў, гэта значна далей.

І так і пайшло... «Выварат» вайны — вось што даваў Васіль Быкаў. <…>

Васіль Быкаў, натуральна, не ўжыўшыся з Лукашэнкам, — вось парадокс гісторыі і сітуацыі — ён, удзельнік вайны, знайшоў прыстанак у таго самага народа, з якім ён ваяваў, — у немцаў, а вярнуўся на родную зямлю толькі паміраць. І яшчэ паспеў напісаць «Чырвоныя пятліцы». Гэта, вядома, ужо поўны апафеоз — як раскулачвалі па разнарадцы. Калі няма каго было раскулачыць, проста хадзілі і пыталі: ці не згодзен ты, каб цябе раскулачылі?..

Васіль Быкаў стварыў зусім страшную палітру, якая даходзіць да нашых дзён. Яго палітра, яго маляўнічая галерэя — гэта проста Еранім Босх — даходзіць да нашых дзён, і там адзін з яго герояў проста памірае ў трубе. У той самай трубе, у якой мы жывём, у трубе, якую пачалі зварваць, — заблудзіўся ў «Газпраме». Так у гэтай трубе і памёр ад голаду і адсутнасці паветра. Ну, увогуле, гэта будучы лёс Расіі.

**Іван Талстой:** — Давайце паспрабуем падагульніць: што ж у Васілю Быкаву было іншадумнага?..

**Андрэй Гаўрылаў:** — Сам Васіль Быкаў на пытанне, чаму ён піша практычна толькі пра вайну, адказаў: «Бо мінулая вайна — усеабдымная, там усяму было месца. Падчас вайны, як ніколі ні да, ні пасля яе, выяўлялася важнасць чалавечай маральнасці, непахіснасць асноўных маральных крытэрыяў». Я думаю, што іншадумства Васіля Быкава было менавіта ў тым, што, у адрозненне ад агульнай тэндэнцыі, якая панавала ў той час, на агульным фоне гэтай фальшывай урачыстасці, калі распавядалі пра найвялікую трагедыю ў жыцці савецкага народа XX стагоддзя ці, прынамсі, адной з двух найвялікіх трагедый, на гэтым фоне паказаць трагедыю не народа, не краіны, а асобнага чалавека, і паказаць так, што мы раптам успамінаем, што асобны чалавек — гэта і ёсць народ, што няма масы, якая завецца народ, гэта не пластылін, не кавалачак пластыліну, які часам можна падзяліць на маленькія кавалкі, а часам нельга, — не, народ — гэта людзі, гэта кожны чалавек. І той паліцай, які здае свайго родзіча, і той непрыкметны чалавек, які раптам, як Ісус, прымушае нас успамінаць нейкія маральныя непарушныя асновы, які б герой ні быў, хто б ні быў, хто б ні загадваў… Гэта ўсё асобныя людзі, яны складаюць той народ, трагедыю якога, подзвіг якога ці ахвярнасць якога мы, напэўна, павінны памятаць шмат у чым дзякуючы Васілю Быкаву.

Дык вось, мне здаецца, што яго іншадумства заключалася ў тым, што ён, як цяпер кажуць, «перавёў стрэлкі» з безаблічнай масы на асобнага чалавека. А што можа быць важней для нас і што можа быць ненавісней для сістэмы тады? Мы з вамі не раз сутыкаліся з тым, што сістэма спараджала сваіх ворагаў менавіта таму, што ворагі яе, сістэмы, проста хацелі быць людзьмі, нават не задумваючыся пра нейкія палітычныя патрабаванні.

<…>

**Іван Талстой:** — Пісьменніца Святлана Алексіевіч ведала Быкава на працягу многіх гадоў.

**Святлана Алексіевіч:** — Я памятаю нашыя гутаркі з Быкавым, бо гэта два мае настаўнікі — Адамовіч і Быкаў. Калі яны гаварылі пра вайну, было відаць, што гэта найглыбокая траўма. Я думаю, што іншадумства ішло адтуль. Я б не сказала, што іншадумства тут дакладнае слова, хутчэй гэта — супраціў. Ішоў адтуль супраціў гэтай сістэме, якая здавалася з цэменту ўся ці з чагосьці мацнейшага, а апынулася ўсё не так зусім...

Гэта быў час, калі ва ўсіх нас быў вялікі вораг — камунізм. Гэта стала зусім відавочна падчас вайны. Калі ў часы ГУЛАГа можна было людзей пасляць у Сібір, і там гэтыя мільёны гінулі, і ніхто іх не бачыў, то на вайне было відаць, як гінулі гэтыя людзі, як яны нічога не каштавалі, і гэта была найглыбокая траўма для той моладзі, якая і выйграла перамогу. Бо на вайне ваявалі 18-ці і 20-цігадовыя хлапчукі, яны прагналі ворага. Але яны ж зразумелі, што ўся праблема ў іншым, што ўся праблема ў гэтай ідэі і, вядома, яны працягвалі барацьбу ўжо іншымі спосабамі. Адно выходзіла з іншага, і справа нават была не ў тым, што гэта ідэя вянчалася нейкімі пэўнымі імёнамі — Брэжнеў, Хрушчоў, Маленкоў — яны разумелі, што справа не ў Хрушчове, не ў Брэжневе, а ў сістэме…



**Іван Талстой:** — А які быў Быкаў у апошнія свае гады? Ён жа адыграў велізарную ролю ў руху за беларускую нацыянальную самасвядомасць?

**Святлана Алексіевіч:** — Мы шмат спрачаліся з ім пра гэта. Ён застаўся рамантыкам... Я не стаўлю гэта ім у віну, ні ў якім разе, я, наадварот, захапляюся гэтым пакаленнем, але нельга абагнаць час, нельга абагнаць уласны народ. Гэта ўсё адбываецца, на жаль, па нейкіх сваіх законах. Дык вось потым ён стаў рамантыкам нацыянальнай ідэі, нашых нацыянальных лідараў, якія тут жа выраджаліся ў Гамсахурдзія, толькі не паспелі нічога зрабіць, а было б тое ж самае. І ён стаў рамантыкам гэтай ідэі.

А потым таксама, па-мойму, быў вельмі расчараваны. Гэта было вельмі складана. Ва ўсякім разе, я думаю, што ён мог бы, як і Астаф'еў, напісаць, што я радасна прыйшоў у гэты свет, а сыходжу ўзрушаным, расчараваным і адзінокім.

Мне здаецца, такога Быкава я сустракала за мяжой. Я памятаю, аднойчы мы сустрэліся ў Франкфурце, ён прыйшоў з жонкай, і ў нас было трошкі часу пагаварыць. І так я была настолькі засмучана яго душэўным станам — з-за таго, што ён не мог вярнуцца дахаты, што ён шмат у чым расчараваўся, што ўсё аказалася не так, як мы сабе ўяўлялі, што пасля шэрых прыйшлі чорныя, што я нават села на цягнік, які ехаў у іншы бок. І дагэтуль памятаю гэтыя дзве фігуркі на платформе, якія махалі мне, зусім разгубленыя, у гэтым новым, незразумелым свеце.

**Іван Талстой:** — Мне здаецца, што неўміручасць Васіля Быкава і яго, адначасова, іншадумства звязаныя з тым, што ўсе сюжэты, пра якія ён пісаў, усе чалавечыя калізіі, усе скрыжаванні для маральнага, экзістэнцыяльнага выбару чалавека, яны ў яго лёгка пераносяцца з эпохі ў эпоху, з культуры ў культуру, з адных мерыдыянаў і шырот на іншыя. Сітуацыі, якія апісвае Васіль Быкаў, — інтэрнацыянальныя, трансцэндэнтныя, яны наогул не маюць адносінаў да Беларусі ці да Расіі, да сярэдзіны XX стагоддзя, да вайны Нямеччыны з Савецкім Саюзам, і гэтак далей. Ён малюе сітуацыі тыпавыя. Але не ў адмоўным сэнсе, не ў агідным сэнсе гэтага слова, а ў нейтральным. Гэта сітуацыі, якія могуць здарыцца з кожным з нас: ён піша пра цябе і пра мяне. І ў гэтым неверагодная сіла і ўніверсальнасць яго кніг. Я ведаю рэакцыю немцаў, якія чыталі яго прозу ў перакладзе, амерыканцаў, французаў, і ўсе сыходзяцца на тым, што зусім усё роўна, як завуць гэтых герояў: кожны чытач ставіць сябе на месца герояў Васіля Быкава, і кожны вымушаны для сябе выбіраць, куды ён ідзе — налева ці направа, наперад ці назад, здраджвае ён іншым ці ратуе сваю душу.

Кнігі Быкава ў гэтым сэнсе іншадумныя, бо так звычайна чалавек не паводзіць сябе, ён заўсёды апраўдвае сябе, а разгарнуўшы быкаўскія кнігі, ён пачынае думаць, у ім прачынаецца сумленне.

Пераклад з расійскай мовы

МЕРКАВАННІ

# І СМЕРЦІ… НЕ СТАНЕ… УЖО…

Ігар ТУМАШ

**Мінуў год пасля падзей 19 снежня на Плошчы Леніна — тэрмін дастатковы, каб ацаніць іх як бы з вышыні птушынага палёту. Не хочацца быць кампліментарным, але без патэтыкі не абысціся. Беларуская інтэлігенцыя, наступіўшы на горла ўласнаму страху і сумневам, здзейсніла духоўны подзвіг. Дзякуючы чаму перагарнула старонку беларускай гісторыі і заклала трывалы падмурак для абнаўлення нашай дзяржавы. Не менш.**



Многія ж думалі, што няма ўжо беларускай інтэлігенцыі, што, ідэйна збанкрутаваўшыся, растварылася яна ў гегемоне мяшчанства, вымерла ад прадукцыі «Крышталя». А яна — «жива курилка», выйшла на галоўны сталічны праспект, выплюхнулася на Плошчу. І сказала НЕ навязваным спаўзанню ў неасаўковае балота, мястачковаму самадзяржаўю і русіфікацыі. І зрабіла гэта выключна інтэлігентна, па максімуме. Бо іншага, акрамя як легчы пад дубінкамі бялковых робатаў у чорнай форме, зрабіць нічога не магла. Ну як чаму? Бо інтэлігенцыя закліканая ствараць каштоўнасці ў душэўнай галіне, а зусім не для таго, каб біцца з МУС і з войскам. (Войска таксама было прыведзена ў стан боегатоўнасці...)

Аб страху асабіста па сабе мяркую: дрыжаў як асінавы лісток. Перад тым, як паехаў на Плошчу, «пачысціў» кватэру, кампутар і напісаў цыдулку блізкім на выпадак невяртання. Хоць, магчыма, гэта было выклікана тым, што ў мяне не было ілюзій. Дакладна ведаў, што на Плошчы будуць мясарубка і хапун. Скажу больш: у маёй душы ў той дзень ужо было веданне пра тэракт, я рыхтаваўся маральна, што выбухне на Плошчы, аднак пад выбух патрапіў праз чатыры месяцы — у метро. Таксама ж цуд Гасподні: сядзеў насупраць акна, якое разляцелася на тысячу аскепкаў. Ні адзін не патрапіў. З ног да галавы быў у чужой крыві і — без драпіны. Але гэта іншая гісторыя.

Зараз аб тым, як раскручваюцца спіралі гісторыі народаў. Прафесійныя гісторыкі прасейваюць факталогію і вызначаюць тэндэнцыі, на аснове якіх робяць прагнозы. У выніку пастаянна ашукваюцца. Бо гісторыя вяршыцца не ў кабінетах зямных начальнікаў, а на нябёсах.

Ну што: СССР Ельцын прапіў, Гарбачоў здаў, ЦРУ разбурыла? Як атрымалася, што наймагутная дзяржава свету раптам рассыпалася, нібы картачная хатка? Дэманічны Савецкі Саюз рассыпала Неба — за нянавісць да богапакланення. Ніякім іншым спосабам СССР было не ўзяць, нават не падступіцца (пяцімільённае войска, 1500 атамных боегаловак, КДБ, МУС). Увогуле, не варта казаць пра радзімую пляму на галаве Гарбачова як пра пячатку звера — шмат гонару... Бог гэты Вавілон разбурыў. А падставай для канструктыўных дзеянняў Неба паслужылі духоўныя подзвігі савецкіх праваабаронцаў.




Каб мы хоць бы адчулі сябе людзьмі, праваабаронцы свядома ішлі ў пекла савецкіх лагераў і вар'ятняў. Пяць хвілін на Чырвонай плошчы з плакатам — пяць, сем гадоў мардоўскага лагера строгага рэжыму. Ці вар'ятня «з канцамі». Растрэл быў бы больш гуманным, бо ў спецыялізаваных псіхіятрычных лякарнях людзей мэтанакіравана ператваралі ў «гародніну». Пасля «курсу лячэння» гэтыя людзі пад сябе да смерці хадзілі.

Праваабаронцы як бы прымалі на сябе віну савецкіх людзей за саўдзел у навязванні ўсяму свету плана Вельзевула. Марчанка, Дэланэ, Габай, Навадворская, Букоўскі, яшчэ дзясяткі, сотні імёнаў. Гэта іх самаадданасць здэтанавала ланцужок падзей па разбурэнні савецкай дэманічнай цвярдыні.

З чаго я ўсё гэта ўзяў? З кантэксту хрысціянства. Калі Пісанне ілжэ, то яго трэба выкінуць. Але Пісанне — Сам Бог у паліграфічным фармаце. Слова — адзіная крыніца, якому можна давяраць на ўсе 100. Увогуле, беларуская інтэлігенцыя выйшла на Плошчу, праліла на ёй кроў і тым самым расчысціла Беларусі дарогу ў цывілізаваную будучыню. Як і калі тая будучыня стане рэальнасцю, я не ведаю. Але ўпэўнены, што Бог гэтую працу абавязкова прарабіць.

Што яшчэ можна з кантэксту Пісання вынесці? Што сілавікі, войска пусцілі ў свае хаты праклёны. Што за бесхрыбетнасць, пустэчу сэрцаў і жорсткасць ім адгукнецца Плошча так, што будуць потым сабе локці кусаць.

Паважаныя, гэты «кавалачак», званы Беларуссю, нам Бог даў. Ён жа даў беларусам мову. Азначыў асноўныя вехі гісторыі. Наш гістарычны шлях. І людзі з дубінкамі і аўтаматамі ў руках, ускормленыя гэтай зямлёй, гэтым народам, абавязаныя ўсё гэта абараняць. Аднак...

Прадбачу апраўданні: ды асабіста я ў збіванні немаўлятаў не ўдзельнічаў, ні на каго нават не замахнуўся. Але вы саўдзельнічалі. Вы з'яўлецеся часткай сістэмы, якая зневажае наш народ, ператварае яго ў пачак пяльменяў для крамлёўскага стала. Гэтага досыць. Ведаю, пра што кажу з уласнага досведу.

Мой дзядуля быў добрым чалавекам, але атэістам, камуністам і кадравым вайскоўцам.

Гэтага аказалася дастаткова, каб род мой стаў праклятым. У яго былі жонка, два сыны. Старэйшага — падлетка — у вайну застрэлілі немцы. Проста так, з машыны. Бабуля страціла розум. Малодшы сын, які стаў маім бацькам, з юнацкіх гадоў укінуўся ў выпіўку. Памёр у турме, яму было ўсяго 48. Бацька толькі і паспеў, што зламаць жыццё маёй маці і перадаць радавы праклён мне. Дзядуля і вар'ятка бабуля памерлі ад рака. Я прадаў іх дом, але грошы патраціць не паспеў — згарэлі ў агні рэформы. Ад усяго роду бацькі, ад усёй іх маёмасці засталіся толькі некалькі фатаграфій. Калі ракам захварэла мама, я зразумеў, што наступная чарга мая...

Гэта падштурхнула мяне змяніць жыццё радыкальным чынам. Бачыў бы мяне цяпер атэіст дзядуля...

...На Плошчу пайшоў я з сябрам, «недоучившимся» ксяндзом-украінцам, які, да прыкладу, у свой час усумніўся ў праведнасці савецкага войска і... адмовіўся служыць. Але замест турмы апынуўся ў польскім езуіцкім універсітэце. Набыў глыбокую веру, але да прыняцця сану аказаўся не гатовым. Дык вось, Сяргей шмат гадоў досыць злосна «падшпільваў» мяне адносна беларускай бесхарактарнасці. А тут назіраем абодва за нашым народам і любуемся. Ні аднаго п'янага, асобы светлыя, адухоўленыя, народ імкнуўся гаварыць па-беларуску. Дагэтуль, пры ўспамінах, сэрца сціскае. Калі пачалася «мясарубка», ніхто не запанікаваў, не стаў хавацца адзін за аднаго. І тут... нібы нешта ў галаве маёй пстрыкнула: гэта ж наш трыумф, перамога. Так сказаць, уставанне з каленяў. «Ну, што цяпер скажаш пра беларусаў?» «Паважаю», — адказаў Сяргей.

Збоку мы пацешна глядзеліся. «Смешались в кучу кони, люди», а два здаравенныя мужыкі стаяць каля елак, раты да вушэй, а на шчоках — слёзы замілавання. Бо і Сяргей у тую ж хвіліну атрымаў адкрыццё, быццам на Небе нейкі тумблер пераключыўся...

Таму калі мне трапляюцца мудраванні, быццам «нічога тое не дало, усё Масква падстроіла», я толькі пытаю: «Што за абуральнае невуцтва! І няўдзячнасць: у твар нашай інтэлігенцыі хочаце плюнуць? А дзе вы самі ўвечар 19 снежня былі? Дзень нараджэння Брэжнева святкавалі?»...

Гісторыяй кіруюць не людзі, яе накіроўвае дух. Бог асабліва любіць людзей, якія прыпадабняюцца Хрысту. Дабраславенне Швейцарыі прынесла служэнне Кальвіна і Цвінглі, росквіт Францыі — подзвіг Жаны Д'Арк, у аснове цяперашняга росквіту Польшчы — кроў людзей Касцёла і працоўных «Салідарнасці»...

Дэмакратыя еўрапейскага ўзору (зусім не ўсёдазволенасць, а — аўтарытэт Закона), усё нацыянальнае — ад Бога (бо Ён стварыў чалавека вольным, Ён мае на ўсё Свае планы), Бог заўсёды «развязвае», і «дзе дух Гасподні, там — воля»; таталітарызм — ад д'ябла, бо д'ябал чалавека «звязвае» і пазбаўляе ва ўсім волі. Хто пярэчыць дэмакратыі і «інстытутам ад Госпада» — адчыняюць дзверы дамоў сваіх для праклёнаў. Гэта «прапісныя» ісціны Пісання. Спрачацца з імі — не толькі дурны занятак, але і вельмі небяспечны. Савецкі Саюз заплаціў за адмову ад Хрыста страшны кошт: 10 мільёнаў загінулых у грамадзянскай, 50 — рэпрэсаваных Гулагам, 27 — загінулых у Вялікай Айчыннай вайне. І што, мы нічому не навучыліся, ніякіх высноў не зрабілі? Ну, тады галоўныя выпрабаванні наперадзе...

Хочацца паспрачацца? Добра, паспрабую давесці тую ж гіпотэзу не на багаслоўскім, а на філасофскім узроўні.

Гісторыя развіваецца не плаўна-паступальна, а як бы рыўкамі. Назапашваюцца перадумовы — паварот, зноў назапашваюцца — яшчэ адзін. Пасля снежаньскіх падзей мы апынуліся ў іншай Беларусі, значыць, здзейснілі паварот. Ці не праўда? Да 19 снежня неасаўковая Беларусь знаходзілася ў спелым дзеяздольным веку, пасля Плошчы выявіла сябе ў сталым.

У беларускай інтэлігенцыі хапіла духоўных сілаў, каб перагарнуць гэтую старонку гісторыі. Ну, колькі яшчэ ў запасе ў рэжыму старонак? А вось і няма больш... Таму што за сталасцю немінуча надыходзіць смерць. А вось не перагарнулі б — у «моцнай квітнеючай» боўталіся б. Нават паклаўшы зубы на паліцу.

Атрымаўшы ўладу ўзроўня той, што была ў Нерона, Лукашэнка, Пуцін і Назарбаеў не выявілі досыць сілаў, каб перагарнуць сваю ўладную старонку (у кожнай касты як бы свая кніга). Гэта прыкметы слабасці...

Другое. Як бы не ламалі цяпер людзі ў камуфляжы цагліны аб галовы, сваю старонку гісторыі яны таксама не перагарнулі. Значыць, дажываюць гэтыя структуры апошнія гады. У ганьбе і ўсеагульнай пагардзе. А Беларусь, дзякуючы інтэлігенцыі, пяройдзе на новы ўзровень.

Старонкі, век — нешта з вобласці філасофскай. Што-небудзь з фізічнай? Усім зразумелай эканамічнай? Калі ласка.

У XXI постіндустрыяльнае стагоддзе на неасаўковых калёсах не заехаць. Бо постіндустрыяльнае грамадства адрознівае такая высокая прадуктыўнасць працы, што вытворчасць адыходзіць на другі план. Аднак падобную прадуктыўнасць здольна развіць толькі грамадства, дзе вытворца не баіцца дзяржавы, дзе над ім не стаяць дзясяткі кантралёраў, у якім яму не прамываюць мазгі ідэалагічным сэканд хэндам. Неасаўковае грамадства — гэта нават даіндустрыяльнае. Яго прадуктыўнасць яшчэ ніжэй савецкай. Таму яно загадзя асуджанае на злом, прычым у самы найблізкі час. Не будзе зламаным знутры, дык будзе зламана вонкавым высілкам.

І тады нашаму саладжаваму пралетарыяту, які адмаўляецца займацца ўладкаваннем сваёй будучыні, адмаўляецца гаварыць па-беларуску, давядзецца вучыць кітайскую...

ВЕРШЫ

# Ф

Уладзімір АРЛОЎ

*фа
фабіянка
фаерка
фанатка
фантомка
фартэлька*

*фабрыкантка
фабзайка
фагістка
фаўнашукальніца
фабрыка-кухня*

*фаварытка
фантастка
фавістка
фанфарка
фантасмагорыя*

*фаверолька
фаготка
факотка
факачка
факачка-аль-пэста*

*фагацінка
фазанка
фазэндніца
фабія
фантэнблеянка*

*фаервэркерка
фаечка
файлічка
файка
файдушынка*

*фантазёрка
фантазія
фаінька
файніца
фартыфікацыя*

*факалістка
факірка
факолька
факленка
фактурніца*

*факельцужніца
факся
факея
факуля
факаня*

*факаньерка
факсоўка
факультатыўка
факофачка
факаіністка*

*факсымілька
факстротка
факушка
факіня
факутніца*

*фалянгістка
фальботка
фальцэтка
фальстартніца
фата-марганка*

*фальклярыстка
фарсінка
фарматка
фальшыўка
фальшываманэтчыца*

*фальканэтка
фарпостка
фольклэндка*

*фарсунка
фальшывамінэтчыца*

*фаляндушка
фантушка
фальварніца
фарандалінка
фальсыфікатарка*

*фалерыстка
фалістка
фатэльніца
фалесіянка
фалясаманка*

*фамільярка
фароска
фармозка
фанабэрніца
фахітоска*

*фанатычка
фаніпалька
фанікулёрніца
фанечка
фанікапланка*

*фантамасачка
фантапіска
фарботка
фартунка
фалясагнамістка*

*фанфаронка
фасонка
фартысімка
фаўст-патронка
фарватэрка*

*фараонка
фарэрка
фармалка
фальцоўшчыца
фастум-гелька*

*фа-соль-фа
фасольмайстарка
фачка
фарцоўшчыца
фарачка*

*фарэнгейтка
фарсажніца
фартэпіянка
фартэцыя
фармацэўтуля*

*фарынгітка
фарштатка
факторніца
фактаралка
фармальдэгідка*

*фарысейка
фашыстка
фацэтка
фатэлька
фацэцыя*

*фастрыгуля
фасгенка
фасадка
фасолька
фаршмачка*

*фаталістка
фэльдфэбэлька
фэльдсувязістка
фарэртарка
фёдараўна*

*фатэрляндка
фатхістка
фатонка
фантазія
фатка*

*феба
фэльчарка
фея
фэербахіянка
фэербухалка*

*фэдэралка*

*фетыда
фэсталка
фэльд'егерка
фэнамэналка*

*фэерычка
фэрганка
фіванка
фэміда
фэляцыяністка*

*фэлюмэна
фэн-шуйка
фэўдалка
фэсалянікянка
фіеста*

*фэрдыдурка
фэрнанда
феадасійка
фэзалія
фэля*

*фэрдыдупка
фэлюжка
фертушка
фрамужка
фэравальфрамка*

*фэстывалька
фэльдмаршалка
фэрамагнэзія
ферачка
ферця*

*фэтышыстка
фэліцыя
фэлічыталка
фэлісмакталка
фэміна*

*фехтавальніца
фенечка
фемачка
фэміністка
фелінідасьледніца*

*фэшэнебелька
фэрмэрка
феня
фэлёнія
фэльетаністка*

*фігурантка
фіглярка
фінчлееўка
фігушка
фіга*

*фігурыстка
фігурніца
фітафагістка
фігістка
філякартыстка*

*фідэістка
філюмэністка
фізвыхаваначка
фікцыя
фікса*

*філяматка
фінгалка
фісташка
фіксанечка
фінка*

*філарэтка
фізычка
фізручка
фізыякратка
фіналка*

*філямэна
філядэльфійка
фінвалка
фіскалка
фіна-вугорка*

*філёквістка
філятэлістка
філяцэлістка
фісталачка
фіфа*

*філіпінка
фіранка*

*фірмачка
фітушка
фісгарманістка*

*філігранка
філфачка
філейніца
фізія
фібула*

*філіялка
фіялка
філістэрка
фірка
фільтратка*

*філянтропка
філёнга
філёрка
філорка
філістымлянка*

*філіжанка
філівыляжанка
фіярэнтынка
філфакачка
філія*

*філязофка
фідэлька
фіксатарка
фырка
фівеечка*

*фінінспэктарка
фітагармонка
філіпіка
фія
фітагурманка*

*фінітыстка
фіджыйка
фіёрдніца
фішка
фіглі-міглярка*

*фінансістка
філяфаністка
фіярытурніца
фінічка
фінікіянка*

*фіналістка
філярманістка
фітнэсаманка
фітнэсакурвачка
фіцджэральдыстка*

*фінціфлюшка
фірмоўка
фігурка
фізыятэрапэўтка
фініта*

*флейта
флёрніца
флерачка
флэшка
флердаранжолька*

*флёндра
фляшачка
флігелька
флексія
флёрэалька*

*флёрка
флегма
флегматка
флямандка
флэш-мобніца*

*флібуст'ерка
флятылія
флікерка
флягманка
флюараграфія*

*флюарынка
флейтыстка
фляворка
флюідка
фольксдойчанка*

*флягеляторка
фляконьніца*



*флёкса
флянёрка
флянэлька*

*флюарытка
флярынка
флярыстка
фляжалетачка
флюарэсцэнтка*

*флярэнтыйка
фліртушка
флебітка
флярытка
флямінга*

*флярыбунда
флямастэрка
флявія
фляжка
флякаамататарка*

*фокстэр'ерка
флягшточка
флягштучка
фондадавалачка
фокстэр'ірка*

*фоля
фойка
фок-рэйка
фок-райка
фольк-мадэрністка*

*фольца
фобія
фотаэтудніца
формула
фортка*

*фольга
фолечка
форма
фотабактэрыя
фотагеністка*

*фолька
фолія
фолюшка
фон-баранэса
фолькштурмавічка*

*фотакопія
фотаскульптура
фон пошынгер
фотамадэлька
фотасардэлька*

*фотазадніца
фотапярэдніца
фотавакханка
фольксвагенка
фольцік*

*форс-мажорка
франкістка*

*франтэрка
фрылансэрка
франка*

*франкафонка
фразёрка
фракійка
франдзёрка
фрыгідка*

*франкмасонка
фронтвумэнка
фру
франтавічка
фрытурніца*

*франсуаза
фрыгольдэрка
франкфурцянка-на-одэры
франкенштаінька
францаўна*

*фройлян
фрау
францужанка
фронтаўка
фракцыянэрка*

*фрося
франя
франчэска
франчэська
францішка уршуля
фрыдрыхсгафэнка
фрэйліна
фрэска
фрайдыстка
фрасуначка*

*фрыкадэлька
фрыволька
фруструлка
фрыгійка
фрыбульбачка*

*фрыдрыхштрасаўка
фрызка
франконка
франкотачка
фрэзія*

*фрыказуля
фрэгатка
фрызурка
франтталька
фрукцінка*

*фрыка
фрыкцыя
фрашачка
фрычка
фраззалягістка*

*фрыстайлістка
фрытанька*

*фрыпіска
фры-таунка
франкфурцянка-на-майне*

*фрэкен
фруза
фруктоза
франтонка
франкоўка*

*фуга
фурыя
функцыянэрка
фуруя
фундатарка*

*фуга-юга
фуэтка
фунтоўка
футуралягіня
фукусіма*

*фудзіямка
фужэрка
фунт золата
фурацылінка
фугаска*

*фудзіянка
фундушка
фунтстэрлінгаўка
фур'ерыстка
фуфлістка*

*фузілёрка
фурорніца
фуксія
фурачка
функцыя*

*фурагіня
фугета
фулярка
фундучэнька
фукалка*

*футаралька
футболька
футволька
фуражка
фурманька*

*футурыстка
футэрка
фуфырка
фуярка
фундамэнталістка*

*фюзэляжка
фіцюлька
фіцёлачка
ф'ючэрка
фюрэрка*

*фрыда...*

ФРАГМЕНТЫ АПОВЕСЦІ

# ШАЛ

Юры СТАНКЕВІЧ

у чалавека на імя і прозвішча андруш валовіч раптам з'явілася пачуццё, што за ім сочаць. пачуццё мела невыразнае адценне. але валовіч звярнуў на гэта ўвагу. падсвядомасць, лічыў ён, нас не падманвае. сачыць маглі хіба што з адной з машын, бо некалькі іх прыбартавалася ля вузла сувязі. у адной, са спушчаным шклом кабіны, сядзелі двое: мужчына і жанчына. валовіч не мог вызначыць іх узрост. але тыя яўна назіралі за ім. валовіч зірнуў на гадзіннік. плюс-мінус пяць хвілін. болей не чакаць. такое было ў яго правіла. ён падняўся з лаўкі, і адразу дзверы кабіны расчыніліся. з машыны вылез мажны чалавек. ён узняў руку ўгору. і валовіч здагадаўся, што гэта заказчык. валовіч зноў сеў на лаўку. заказчык вызначыў яго і, пэўна, сачыў, каб скласці адпаведнае меркаванне. да таго ж, доўгі час плавала ў сеціве PORTFOLIO, якое колькі дзён таму беспрацоўны андруш валовіч размясціў у выглядзе разгорнутай аб'явы. заказчык падышоў. гэта быў даволі моцнага складу чалавек. у дарагім спартовым касцюме. плябейскі твар яго ільсніўся ад поту. заказчык перакінуў ключы ад запальвання з правай рукі ў леву і пасля секунднай паўзы працягнуў яе валовічу. далей паміж імі пачаўся наступны дыялог:

— дык гэта вы — выканаўца? — спытаў заказчык.

валовіч кіўнуў у адказ.

— на сваім блозе вы абмовіліся неяк, што ведаеце айца віталя, экзарсіста з карэлічаў?

— магчыма і так, — сказаў валовіч. ён злёгку здзівіўся.

— мяне завуць кірыла. кірыла віж.

— вам пасуе, — вырвалася ў валовіча. і ён дадаў: — вы сачылі за мной. хто з вамі ў машыне?

заказчык сеў на лаўку побач. яго бледная, незагарэлая лысіна матава блішчэла.

— у мяне да вас далікатная справа.

— «мачылава» не прапаноўваць, — праз кароткую паўзу папярэдзіў валовіч.

— і давайце адразу па тэме, — прадоўжыў ён.

— згода. у мяне ў машыне дачка. яе завуць канстанцыя. прасцей — каня. ёй дваццаць сем гадоў. яна не замужам. вучылася ў тэатральна-мастацкай акадэміі. але не скончыла. часам яна бывае не зусім здаровая, скажам так. лячылася ў псіхіятрычнай лякарні. амаль месяц. мы — я і мая сям'я — хочам, каб яна наведала экзарсіста, айца віталя ў карэлічах. ведаю, што ён там практыкуе ў мясцовым прыходзе. нам яго параілі дасведчаныя людзі.

— і што з таго? — спытаў валовіч.

— з вашага блога я вычытаў, што вы цікавіцеся парапсіхалогіяй. да таго ж, выпікала, быццам знаёмыя з айцом віталем…

— я не лекар, а ўсяго толькі выканаўца.

заказчык віж кіўнуў, але стаяў на сваім:

— да святара чарга, бо хворых усё больш. гэта нават дзіўна. я б хацеў, каб вы правадзілі дачку ў карэлічы. і там каб яе прыняў экзарсіст віталь. пасля таго даставілі дамоў. за адпаведнае ўзнагароджанне. памеры якога мы вызначым. я не бедны.

— чаму вы самі не адвязеце? — спытаў валовіч.

— яна не хоча ехаць са мной ці з кім-небудзь са сваякоў. можа, саромеецца. з чужым ёй больш спрыяльна. так яна сама вырашыла. зрэшты, яна адэкватная. ну, хіба што часам здараюцца адхіленні. неспадзяваныя, так бы мовіць.

— ёй ставілі дыягназ? — пацікавіўся валовіч.

— так. эмдэпэ. але, але. яны там часта перабольшваюць. па ўсім — звычайная эпілепсія.

валовіч падумаў крыху:

— усё-такі, чаму вы звярнуліся менавіта да мяне? — зноў пацікавіўся ён.

— скажу прама. бо ведаю, за што вас выціснулі з фірмы. вы не злодзей. не махляр. не падманшчык. значыць, мы можам прыйсці да згоды. і, галоўнае, вы знаёмы з айцом віталем.

— так, мы разам вучыліся ў школе, — пацвердзіў валовіч. — але гэта ў наш час амаль нічога не вырашае.

заказчык кірыла віж згодна кіўнуў:

— маркую, мы паразумеемся. я… «пасунуся», да слова, на столькі, на колькі вы скажаце…

станцыя, на якой яны выйшлі, так і называлася: «лясная». урэшце, гэта быў невялічкі цагляны будынак брудна-шэрага колеру. зеўрала акенца касы. паламаная драўляная лаўка. валовіч зірнуў на гадзіннік — і яны рушылі па сцяжынцы ў лес.

— паслухай, андруш, — скоса зірнула на яго дзяўчына, — ты мне ўжо нібы родны. я, бадай, нават пайшла б за цябе. ха-ха. калі б ты не супраць. ну не за марыка ж мне выходзіць. а маёр знік.

затоеная ўсмешка выбівалася наверх. з яе зялёных вачэй. гарэзлівасцю і яшчэ нечым. чым? — спытаў сябе валовіч, але адказу не было.

— дзякуй за давер, — сказаў ён. — мне б хацелася, каб у цябе ўсё было пуцём. і сватоў я б да цябе заслаў. але ж я жанаты.

яны раптам апынуліся на залітай сонцам палянцы. навокал стаяла цішыня.

— ты б шворку адвязаў, — папрасіла канстанцыя і спытала: — твая жонка ведае, куды і з кім ты паехаў?

— не, — адказаў валовіч і дадаў: — ніхто не ведае. акрамя твайго бацькі.

дзяўчына зняважліва чмыхнула:

— ён мне — папік. ты што — запамятаваў? а ўвогуле — яны разам з маці зламалі мне жыццё. сукі. ненавіджу.

яна забрала ў валовіча вятроўку. пасцяліла ў траву. і села. ногі яе агаліліся з-пад сукенкі. потым скінула басаножкі.

валовіч падумаў і адвязаў лёску. прысеў побач. зняў красоўкі.



і агледзеўся. а потым пачаў слухаць. але, акрамя ледзь чутнага шуму ў верхалінах дрэў, нічога не пачуў. урэшце, ён любіў слухаць, як шуміць лес. але цяпер адчуваў выразны дысананс. трывога, — падумаў ён. — чаму— невядома.

— праз трыццаць хвілін нам вяртацца, — сказаў ён.

і адразу да яго дайшло, што яшчэ ён адчувае. акрамя пачуцця трывогі. цялесную цягу да гэтай дзяўчыны. так. нібы часцінка сонечнай спёкі прабегла паміж імі. у яго галаве прамільгнула неакрэсленая думка, што ён — толькі выканаўца. і што варта засяродзіцца на сваім заданні. але праз якую секунду тая думка знікла. растала ў сонечнай гарачыні. быццам ніколі і не ўзнікала.

— часу нам хопіць, спадзяюся, — сказала канстанцыя. голас у яе стаў хрыплы, а позірк зялёных вачэй пацямнеў.

— вазьмі мяне. на памяць. хутчэй.

і яна пачала расшпільваць на ім кашулю. потым адкінулася на спіну і, падклаўшы пад галаву сваю лёгкую скураную сумку, выгнулася дугой.

— хутчэй.

і валовіч распрануў яе. зняў ёй трусікі. распрануўся сам. і ўвайшоў у яе. адчуваючы гарачыню яе цела. і гарачыню сонца, якое ціснула на іх з неба. ён заплюшчыў вочы, знайшоўшы той рытм, якога хацела дзяўчына.

потым яны сціпшыліся. але канстанцыя шэптам сказала:

— не глядзі. паляжы так.

ён адчуў рух яе рук. расслабленасць цалкам авалодала ім. быццам яна нешта шукала ў сваёй сумачцы. расплюшчыў вочы і ўзняў галаў. што і выратавала яго. бо ўдар вострa заточанага вязальнага прутка не трапіў у сонечную артэрыю, а слізнуў, падрапаўшы скуру, па шыі. валовіч перахапіў яе рукі, зведаўшы моцны супраціў. быццам косці і мышцы гэтых рук былі з жалеза, а суставы небывала гнуткія і пругкія. пачуццё нечаканай небяспекі надало яму сіл. валовіч пераціснуў ёй локцем шыю, і яна нешта крыкнула нечувана іншым, нізкім голасам. а потым захрыпела, забілася пад ім. і ён вырваў з яе рукі бліскучы пруток і выкінуў прэч. а пасля адпусціў яе. імкліва апрануўся і дастаў з сумкі лёску. зрабіў пятлю і, як і раней, накінуў ёй на кісць рукі. дзяўчына ляжала на траве, па-ранейшаму рассунуўшы ногі. яна цяжка дыхала, а мутны позірк вачэй быў скіраваны ў вышыню. нягледзячы на сонечныя промні, што джалілі ёй амаль у твар.

— збірайся. і хутчэй. бо нам пара, — урэшце спакойна сказаў валовіч. бо ўспомніў ранейшую перасцярогу яе айчыма. і ўвогуле зразумеў, што калі б якая злосць і была ў ім, то выхаду ёй даваць не варта.

яна моўчкі апранулася. і яны таксама моўчкі пайшлі назад. на станцыю. і толькі, калі яе нязграбны будынак узнік перад вачыма, валовіч спытаў:

— хіба я жадаю табе благога? ты ж магла забіць мяне.

на што канстанцыя віж адказала. з простай і яснай усмешкай. скоса зірнуўшы на яго.

— а ты ўспомні пра самку багамола. звычайныя асацыяльныя паводзіны. забудзь, праехалі…

і валовіч зноў замаўчаў. сапраўды, што тут весці допыт, — меркаваў ён. — хіба гэта дапаможа?

яны падышлі да прыстанку. на даляглядзе якраз дарэчы паказалася электрычка. у ёй было менш вагонаў. і як і прадбачвалася, яна была напаўпустая.

…канстанцыя віж бокам праслізнула ў расчыненыя валовічам дзверы. спачатку прасунуўшы сваю прыгожую галаву, — як змяя, — падумаў валовіч. вочы яе, ён адзначыў, гарэлі нязвыклым дзіўнаватым агнём. яна спынілася перад айцом віталем. высокая, стройная. нейкі час яны вывучальна глядзелі адзін на аднаго. святар — добразычлівa. дзяўчына — з выклікам. уся, быццам напружаная. да агрэсіі.

— ку-ку, святарушка, — урэшце па-блюзнерску перарвала паўзу дзяўчына.

і табе таго ж, — непарушна азваўся айцец віталь.

— адцэлебаціўся, зайчык? — пакрывіла яна ў яхіднай усмешцы свой ярка напамаджаны, прыгожы рот.

— а ты не журыся, любушка.

але дзяўчына не супакойвалася:

— дык смачна ясі, салодка спіш, а чарачку бярэш? а як у цябе накшталт дзеваў буйнацелых? сірэн салодкагалосых? дураплясачак там розных. у топіках?

айцец віталь усміхнуўся. як і раней, добразычліва:

— а вось цяпер пойдзем са мной у храм намолены. там і пагаворым аб усім.

— а можа, тут пабораемся? — спытала канстанцыя хрыпла. нізкім, нязвыклым голасам.

— навошта нам барацца? тым больш — тут? там-та лепей. там у мяне і спецыяльны малітоўнік асвечаны. у некалькіх храмах. з яго я табе і пачытаю.

— а калі я — не хацу. а как захацу, так і вскацу. ха-ха.

айцец віталь зразумела схіліў галаў.

— бачу, фёдара міхайлавіча чыталі. з яго цытуеш. а, між іншым, веруючы быў чалавек. дый захочаш, анягож. цікаўнасць твая і пераможа. а я памагу. — і святар раптам цвёрда ўхапіў яе за руку.

— пайшлі, любушка. і андруша, які цябе сюды прывёз, з сабой забяром. няхай пабачыць, пачуе. не дарма ж вы сюды ехалі. так?

дзверы невялікай царквы былі адчынены. некалькі старых сталага веку трымалі запаленыя свечкі. і ўтаропіліся на тых, хто ўвайшоў. айцец віталь, не адпускаючы рукі дзяўчыны, перакрыжаваў сябе перад іконай. старыя, пэўна, ужо ведалі, што адбудзецца. і паслухмяна пацягнуліся да выхаду. святар даў андрушу валовічу ключ і папрасіў зачыніць храм. знутры, часова. валовіч пайшоў і зрабіў, як было сказана.

— і што з таго? — пачуў ён голас дзяўчыны. — што вы мне дэманструеце? а мне пляваць! так, пляваць! вы мне лепш член пакажыце! у вас ёсць член? ха-ха-ха. у вашага сябрука андруша — ёсць. ха-ха.

айцец віталь паднёс ёй крыж усутыч. да твару. але канстанцыя адхілілася.

— ды я проста не жадаю! вашых малітваў! і вашага лекавання! — выкрыкнула яна нізкім голасам, — і рохкаць вам у масць не буду. брахаць па-сабачы. сукенку на сабе рваць. не дачакаецеся! — і засмяялася, але даволі істэрычна.

айцец віталь скіраваў валовіча ўбок. за нешта падобнае на шырму.

— лепш табе не глядзець. дый і мне так лепей, — дадаў ён. і валовіч паслухмяна адышоў.

ён чуў спачатку, як святар пачаў чытаць з малітоўніка заклінанні. усё больш узвышаючы і ўзмацняючы голас. само заклінанне складалася з дзвюх частак: на латыні і старажытнаславянскай мове. але дзяўчына раз-пораз перапыняла няўцямнымі выкрыкамі. пагрозамі. праклёнамі. заклінальнік рабіў кароткую передышку і пачынаў усё наноў. так прайшло з паўгадзіны.

— і-і-і! — раптам закрычала дзяўчына. і пачала рвацца з рук. але святар затрымаў. і сам узвысіў голас.

— імя! — крычаў ён. — гавары, як цябе зваць! імя!

— а я не скажу! не скажу! і пайшоў ты на х…

…пасля таго, як дзяўчыну пакінулі адну ў бакоўцы, дзе яна дзіўным чынам хутка заснула, айцец віталь аб'явіў тым, хто ўпарта чакаў яго, што прыме іх заўтра. бо цяпер не ў стане. і сапраўды, як адзначыў валовіч, святар быў адчувальна знясілены.

айцец віталь падвёз абодвух візіцёраў да прыстанку. ехалі на яго танным аўто. старым. але дагледжаным. канстанцыя вяла драмала. валовіч хацеў было працягнуць былую размову са святаром. яму ў галаў якраз прыйшоў важкі аргумент. ён ён лічыў. але айцец віталь гутарку не падтрымаў, і валовіч адразу зразумеў, чаму. справа была ў дзяўчыне.

на станцыі валовіч купіў білеты і развітаўся з айцом віталем. пад канец толькі не ўтрымаўся: спытаў у таго, ці задаволены ён сваім становішчам? тут, у правінцыйным гарадку. лічы, пасёлку. і святар адказаў яму, што нават не варта спакушаць сябе падобнымі думкамі, а прымаць жыццё такім, якое яно ёсць.

кароткім варушэннем арганічнай субстанцыі. адпаведна боскай задумцы. бо памятайма пра час страшнага суда. магчыма, нават той суд даўно пачаўся. але ніхто гэтага не ведае. і ніхто таго не агучыць. але прыкметы таго бачныя на кожным кроку. і першая з іх — шал.

…у вагоне электрычкі з карэлічаў было шмат людзей. але месцы валовічу і яго падапечнай знайшліся. у самай сярэдзіне. у канцы вагона гралі на гітары. гікалі і падсвіствалі. некалькі маладых на падпітку. былі сярод іх і дзяўчаты, апрануты як прастытуткі. яны часам пускаліся ў скокі. валовіч паспрабаваў адчыніць акно. але атлусцелыя кабеты за спінай адразу ўшчалі лямант. канстанцыя па-ранейшаму была вялая. яна схіліла голаў валовічу на плячо. ён вырашыў, што дзяўчына заснула. быццам і не было ранейшых усплёскаў істэрычнай зласлівасці. нават спробы забіць яго.

жанчынам мы даруем амаль усё, — меркаваў валовіч. — яны маюць усё большы ўплыў у старым свеце. жывуць нашмат больш за нас. выхоўваюць дзяцей так, як ім хочацца. іх усёдазволенасць разбурыла не адну дзяржаву…

у праходах пачалі бегаць мурзатыя і нахабныя дзеці.

— грошай, дай! — крычалі яны то аднаму, то другому пасажыру. і некаторыя давалі. дробныя паперкі. потым у вагон уціснуліся двое маладых і мажных мужчын з дурнаватымі тварамі. у аднаго ў руках была гармонь. другі трымаў у руцэ невялікі бубен са званочкамі. а ў другой руцэ — фанерную скрыню са шчылінай пасярэдзіне. туды, як здагадаўся валовіч, павінны былі кідаць грошы. Яны зайгралі на гармоні і пачалі адбіваць рытм на бубне. а потым заспявалі па-расійску. слоў валовіч не падзяляў. бо яны адскоквалі ад свядомасці і раствараліся ў пустаце.

*тирлитирлитирлили*
*тюрлирлениайлюли…*

і, не спяшаючыся, рушылі па праходзе. падсоўваючы пасажырам скрыню са шчылінай. зрэдку ім туды таксама кідалі дробныя паперкі. яны параўняліся з месцам, дзе сядзелі валовіч і яго падапечная. і раптам канстанцыя віж абудзілася і ўхапіла аднаго з музыкаў за рукаў кашулі. той з гатоўнасцю спыніўся. нават пакінуў трэсці бубнам.

— можа, грошай пазычыш? беднай жанчыне? — спытала яна даволі ласкава.

таўсматы музыка сумеўся. навокал адразу сцішыліся і пачалі прыслухоўвацца.

— ты такі тупы? — зноў пацікавілася дзяўчына і засунула руку ў скрыню. — інвалідзік? у калгасе цяжка працаваць?

бубнач вырваў скрыню ў яе з рук. бабы за спінай у валовіча ажывіліся. і падтакнулі:

— і праўда. такія маладыя. здаровыя. акурат кабаны. а яны па вагонах жабракуюць.

музыкі памкнуліся далей, але канстанцыя не адпускала.

— чуеш ты, бюль-бюль-аглы, — спытала яна бубнача: — а хто з вас муж, а хто — жонка? вы ж, спадзяюся, традыцыйнай арыентацыі?

замінаючы канфлікт, валовіч улез у непажаданую гутарку. адчапіў руку дзяўчыны ад бубнача і прапанаваў першае, што прыйшло ў голаў:

— вы б праспявалі што-небудзь па-нашаму. не на чужой мове. збацаеце?

жанчына ў капялюшыку, якая сядзела насупраць, ля самага праходу, раптам абурылася:

— а чіво гэта для вас чужое? — спытала яна з ноткамі істэрыі. — чім вам наш рускій язык не нравітца?

бубнач з гарманістам зрушылі з месца і пасунуліся далей. канстанцыя сказала ім услед.

— пакуль, педыкі! заходзьце яшчэ!

між тым бабы за спінай у валовіча не суніміліся.

— да какая разніца — какой язык? мову ім давай! а что мне з той мовы? мовай не пад'ясі.

на што канстанцыя пакпіла па-езуіцку:

— мова — не вош. адразу не заб'ёш...

але яе не зразумелі. з розных бакоў пасыпаліся рэплікі. баба сталага веку, што сядзела праз праход, выкрыкнула ў паўзе:

— нацыяналісты! усё дашчэнту давялі!

ёй ва ўнісон за спінай азвалася яшчэ адна:

— да гарбач, сволач, разваліў!

валовіч звыкла адчуў, як вяртаецца туга. яму нават нясцерпна захацелася апынуцца ў цішыні. у сваёй, няхай і занядбанай, кватэрцы. у душэўным спакоі.

— ці спыніцца, урэшце, гэтае рохканне? мову хоць не чапайце, — сказаў ён быццам нягучна, сам сабе, але яго нечакана пачулі. пасыпаліся заўвагі. іншыя даволі зласлівыя.

— хто как хаціт, тот так і гаварыт.

— жыць не дают. разумнікі.

— нацугі.

канстанцыя нібы ўзляцела:

— спыніцеся! — закрычала яна ўслед музыкам, якія ўжо выходзілі з вагона, — я ўспомніла! хачу песню! вось гэту: остановите музыку! скажу вам я! скажу вам я! с другим танцует девушка моя!

жанчына ў капялюшыку падтрымала адабральна:

— правільна! я ж помню. это бюль-бюль-оглы! харошая песня!

яе перабілі бабы за спінай у валовіча:

— эта не бюль-бюль-оглы. эта магомаев пел. муслім.

у размову нярвова ўмяшалася яшчэ адна. праз праход:

— не муслім. вы няправільна гаварыце.

бабы абурыліся:

— чіво эта неправільна? так хто эта пел?

тая, што сядзела праз праход, узвілася з месца.

— эта тыніс мягге пел! надо знать!

навокал загаманілі:

— какой ішчо мяге? эта не наш!

канстанцыя была ў захапленні:

— куды? куды вы цягу далі? — закрычала яна ў спіны музыкам. — мы хацім гэту песню!

але двое з гармонню і бубнам ужо таропка выйшлі ў суседні вагон.

за спінай зноў зацвэнькалі на гітары. пачалі гікаць. затанчылі. але неўзабаве кінулі. ад неспакойнай суполкі аддзяліўся адзін і няцвёрдай хадой скіраваў да валовіча. Уталопіў у яго выцвілыя свіныя вочкі. кірпаты нос быццам нешта вынюхваў.

канстанцыя між тым трыумфавала.

— правільна! і я люблю эту песню! — і нягучна заспявала нізкім, не сваім голасам:

*тирлитирлитирлили*
*тюрлирлениайлюли…*

і нечакана дадала на вуха валовічу:

— а вось і марык ідзе. двайнік. клон. ха-ха.

хлопец пасвідраваў вачыма валовічаў твар. яго слінявы рот ніздобра перакрывіла. на спалох бярэ, — вяла падумаў валовіч. — хоча вэрхалу. і хоча быць пабітым. комплекс наздрова. з гогалеўскай паэмы.

— а чё ты выламваешся, га? чё, па-нармальнаму гаварыць не можаш? — з націскам спытаў маладзён.

валовіч адцапіў лёску са сваёй рукі.

— а, ты менавіта да мяне? з базарам? — спытаў ён маладзёна і дадаў амаль лагодна: — дык я з табой свінню не пасвіў.

на што канстанцыя радасна зашаптала. вочы яе бліснулі. свінню не пас, свінапас! — і сказала ўжо ўголас:

— а вось і «паганяла»: свінапас!

маладзён пасунуўся на валовіча. намагаючыся ўхапіць рукастай даланёй. валовіч падняўся з месца і ўдарыў таго хукам злева. прыцэльна. у падбародак. і не спудлаваў. маладзён пачаў асядаць на жанчыну ў капялюшыку. тая ўзвыла з перапуду. да маладзёна ўжо беглі. на дапамогу. замахалі рукамі, перашкаджаючы адзін аднаму.

нехта завішчэў:

— міліцыю! міліцыю выклікайце!

на сігнальную кнопку з адпаведнай шыльдай ужо торкалі пальцам.

над гэтым вэрхалам лунаў радасны голас канстанцыі віж.

— астанавіце музыку! скажу вам я! — яна тыкала пальцам у твар асалавеламу маладзёну і працягвала. у рыфму: — ну, хіба гэта не свіння?

урэшце ў вагон увайшоў міліцыянт, а за ім — другі: абодва — маладыя, вузкаплечыя, але яшчэ без прыкметных жыватоў. у аднаго з іх з-пад брыля фуражкі выторкваўся чуб. зусім, як у казакоў перыяду імперыі, — падумаў валовіч. чубаты быў шараговец, а яго напарнік — з сяржанцкімі нашыўкамі.

— гэта ў вас тут бойка? што здарылася? — запытаўся сяржант.

яму адразу пачалі паказваць на сярэдзіну вагона, дзе яшчэ валтузіліся вакол валовіча. шараговец насунуў на чуб фуражку і адхінуў тых, хто яму перашкаджаў.

— так. хто «цярпіла»? — спытаў ён і паправіўся: — хто пацярпелы?

адразу загаманілі атлусцелыя жанчыны за спінай у валовіча. узбуджана паказвалі на яго пальцамі. даводзілі, што менавіта ён усчаў бойку.

— нацыяналіст! — даносілі яны. — руская мова яму не падабаецца. такія і бомбы падкладаюць.

канстанцыя ўзняла руку як вучаніца ў школе:

— я — пацярпелая. — кіўнула на п'яных маладзёнаў: — і вось яны. і яны, — паказаўшы на жанчын.

сяржант неахвотна ўзначаліў дазнанне. спытаў, агледзеўшы валовіча:

— і гэта ўсё ён?

канстанцыя віж скрушна кіўнула галавой у знак згоды і патлумачыла:

— я — патранажная медсястра з псіхіятрычнай лякарні. куды яго, — яна паказала на валовіча, — мне трэба даставіць ужо сёння. як вы разумееце, ён не надта адэкватны. але цалкам транспартабельны. ён спачатку быў згодны ехаць на месца лячэння. але цяпер заўпарціўся. звязаў мяне лёскай. вось зірніце… ён жа здаровы мужык.

сяржант азадачана ссунуў фуражку. на патыліцу.

— у вас ёсць дакументы? — спытаў ён у канстанцыі. — пакажыце, калі вам не цяжка.

валовіч на ўсё гэта ўсміхнуўся:

— не давайце ёй веры. яна жартуе. гэта я вязу яе ад экзарсіста.

шараговец красамоўна зірнуў на сяржанта.

— ад каго? — пацікавіўся ён спачувальна і забраў з рук канстанцыі паперкі і пасведчанне. сяржант пераняў іх. і пачаў чытаць:

— так. сарока лада міхайлаўна. медсястра. рэспубліканская псіхіятрычная клініка.

валовіч перапыніў яго.

— ды не яна гэта. давайце разбярэмся. бачыце — яна прыхварэла. я вязу яе дамоў.

сяржант прысеў насупраць. яму з гэтай нагоды вызваліла месца жанчына ў капялюшыку.

— эйш, нацуга праклятыя. дык яшчэ і псіх. — пракаментавала тая ў адрас валовіча. — а з выгляду — прыстойны. адразу і не разгледзіш.

валовіч ужо з цяжкасцю стрымліваўся.

— выйшла б ты прэч, клімактэрычка, — сказаў ён, але яшчэ даволі спакойна.

жанчына адразу завішчэла. замахнулася на валовіча сумкай. праз праход.

— забярыце яго! мы тут усе ў сведкі пойдзем!

сяржант вытрымаў невялікую паўзу і звярнуўся ўжо да валовіча.

— прад'явіце вашы дакументы, грамадзянін.

валовіч пацягнуўся да сваёй рыбацкай сумкі. расшпіліў замок — і ўспомніў, што ў спешцы не браў нічога. дый навошта яму былі дакументы? каму прад'яўляць?

— у мяне іх няма. — сказаў ён.

шараговец, які, стоячы, зазірнуў у раскрытую сумку валовіча, спытаў:

— а чаму там у вас камень? — і паказаў на ружовага колеру, з крапінамі, брукаванец, які валовіч знайшоў раней на храмавым падворку. і адтуль прынёс айцу віталю.

— вы не супраць, што я яго забяру? а то яшчэ ўжываце тут. у вагоне.

валовіч выдыхнуў. ён змусіў сябе гаварыць спакойна і па справе.

— гэта яна мне падклала, — ён паказаў на дзяўчыну. — сцягнула яго ў экзарсіста. я б не раіў вам браць гэты камень у рукі, бо, магчыма, туды загнаная «бесавіца». калі тая выйшла вось з яе, — ён зноў кіўнуў на канстанцыю. быў злы на яе.

— а можа, і не выйшла. можа, іх там дзве, а то і больш.

канстанцыя засмяялася. зрабіла адпаведны выраз на сваім прыгожым твары. кранула міліцыянта за руку.

— ну, вы самі чуеце. і каментаваць не трэба. добра, што вы з'явіліся. я б адна з ім не справілася. калі вам не цяжка, звяжыцеся па рацыі. няхай вышлюць з лякарні брыгаду. прама да цягніка. тым больш, што мы ўжо амаль у сталіцы.

шараговец, пакуль сяржант раздумваў над прапановай, пацікавіўся:

— а чаму яго адразу з брыгадай не скіравалі? хто гэта вас адну прымусіў?

канстанцыя развяла рукі і патлумачыла:

— эканамічны крызіс, як кажуць. самі ведаеце. то паліва няма. то яшчэ чаго. вось і вязу. адна.

валовіч сказаў:

— не давайце ёй веры. яна — апантаная. вельмі хітрая. выкрутлівая. і дакументы скрала. і камень.

на што дзяўчына зрабіла свой каментар:

— бачыце — у яго абвастрэнне. ён і тут усчаў бойку. а раней — забіў марыка.

сяржант узняў голаў, нібы ганчак.

— калі гэта — раней? і якога марыка?

валовіч толькі фыркнуў. але не надта весела.

— яна трызніць. няхай скажа. я яшчэ зрабіў падкоп. да стакгольма. ха-ха.

сяржант супакоіў жанчыну ў капялюшыку і пацікавіўся ў канстанцыі:

— вы кажаце пра забойства нейкага марыка? вы былі сведкай забойства?

канстанцыя адказала пасля секунднай паўзы, што прозвішча марыка не ведае і сведкай забойства не была. валовіч ужо з цяжкасцю стрымліваў сябе і толькі заўважыў:

— а вы праверце па сваіх зводках. і пабачыце, хто з нас хлусіць.

між тым, сяржант выйшаў у тамбур і выцягнуў рацыю. валовіч убачыў праз шкло, як той гаварыў. але слоў, вядома, разабраць не мог.

напруга ў вагоне пакрысе зменшылася. за акном з'явіліся ўжо аднастайныя будынкі прыгарада. яшчэ праз некалькі хвілін канстанцыя ўсхапілася са свайго месца. падняўся і валовіч.

— я пакуль у прыбіральню, — патлумачыла міліцыянтам дзяўчына і выйшла з вагона. валовічу выйсці не дазволілі. міліцыянты…

«хуткая» са спецбрыгадай ужо чакала на вакзале. нягледзячы на пратэсты, валовіча запіхалі ў машыну. хапіліся медсястры сарокі лады, але яе нідзе не знайшлі. санітары, а іх было двое, выглядалі небяспечна. скуластыя. з пустымі раўнадушнымі вачыма. пэўна, студэнты з інстытута фізічнай культуры, — вырашыў валовіч, гледзячы на іх набітыя касцяшкі рук. — падпрацоўваюць такім чынам. разбярэмся.

— ну, што, напалеон? — сказаў валовічу адзін з іх абыякава: — паедзем на адпачынак?

валовіч паціснуў плячыма, бо па розуму трэба было стрымацца, і выцягнуў надалоннік. але адзін з санітараў нечакана выхапіў яго і сунуў сабе ў кішэню.

— вярні мабілу, — як мага ветліва папрасіў валовіч. — я пазваню жонцы.

і ў адказ пачуў:

— пазваніш з вострава… святой алены.

ПАЭМА

# МАРГАРЫТА

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

**11 лютага паэту і эсэісту, сябру Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесю Сямёнавічу Гібок-Гібкоўскаму спаўняецца 60 гадоў. «Літаратурная Беларусь» і Сакратарыят СБП шчыра жадаюць яму здароўя, натхнення і — чытацкай увагі.**



***«Маргарита, ты же помнишь,***
***как всё это было...»***
***(З папулярнай песні)***

*Ты ўсё помніш, Маргарыта —*
*ноч маланкамі абвіта,*
*наш імклівы з табой танец,*
*што спыніць былі не ў стане...*

*Лёгка таньчылі з табою*
*мы між небам і зямлёю,*
*рызыкуючы сарвацца,*
*і разбіцца ў сваёй жарсці.*

*Ты, нібы званочак срэбны,*
*ўсё смяялася нястрымна,*
*ўладаю сваёй над небам*
*захаплялася наіўна.*

*Цябе ведаю даўно я —*
*не адно, бадай, стагоддзе,*
*і калі наш час як мроя,*
*як міраж чароўны, пройдзе,*

*ты, спыніўшы танец зорны,*
*без адметнае нагоды*
*у касмічны морак чорны*
*раптам знікнеш як заўсёды!*

*Ты заўсёды так знікаеш,*
*як сляпая Агмень-птушка,*
*потым дзесь ў вяках блукаеш*
*у самоце сваёй скрушнай...*

*Ну а покуль, дзіўнай сілай*
*разагнаная ў сусвеце*
*і дзівосны бал Месіра*
*маючы сабе на мэце,*

*ты памчыш праз царства зорак*
*ў прадчуванні новай славы,*
*і, адольваючы морак,*
*не заўважыш, пэўна, нават,*

*што мяне няма ўжо поруч*
*ў неба неабсяжным моры*
*і што наш дзівосны танец*
*ў зорным патануў тумане.*

*На мятле сваёй з імпэтам*
*вокамгненнае каметы*
*праляціш ты праз Шлях Млечны*
*у спакуслівую Вечнасць.*

*Тую, што Вялікі Майстар*
*безразважна, утрапёна*
*падарыў табе па-царску —*
*жыць ва ўсіх часах без скону!*

*Эх, каб ведаў гэты геній,*
*як ты на вачах сусвету,*
*сціплым зоркам на здзіўленне,*
*толькі што ўдваіх з Паэтам*

*жарсць сляпую наталяла*
*апантана і ... прыўкрасна...*
*І зарок тым парушала*
*вернай быць навекі Майстру!*

*Не зважаючы ні мала*
*на ўсю хеўру, што чакала,*
*мітуслівай гонкай світай —*
*Сваю пані — Маргарыту...*

*Так, цябе даўно чакалі*
*на Вялікім грэшным бале,*
*як чакаюць Каралеву,*
*без ніякага сумневу!*

*Але танец твой з Паэтам*
*прытаміў-знясіліў цела,*
*і на бал сусветнай цемры*
*ты, стамлённая, ляцела…*

*Спынішся на міг прад залай,*
*што цябе даўно чакала,*
*прыгажосць сваю адчуеш,*
*дзіўную, бы незямную...*

*І, адкінуўшы сумненні*
*у мінулае, бы ў прорву,*
*выйдзеш ўсім на захапленне*
*Каралевай бездакорнай.*

***

*Ў зале той раскоша будзе*
*шчыраваць ярчэй за сонца,*
*і табе зноў цені-людзі*
*у чарзе сваёй бясконцай*

*будуць аддаваць пашану*
*у паўзмроку бальнай ночы,*
*а ты зноў будзеш аддана*
*зазіраць Месіру ў вочы...*

*Князь сусвету — вось ён, побач!*
*Што захочаш, можа даць ён:*
*ўладу, славу ўсякай пробы,*
*нечуванае багацце!*

*Ён, калі свет бачыш смутна,*
*лёгка зробіць цябе зрачым!..*
*Толькі вер ў яго магутнасць*
*і за гэта ён аддзячыць!*

*Праўда, ёсць адна умова,*
*калі марыш наталіцца*
*ў гэты вечар адмыслова*
*ад Месіравай крыніцы...*

*Ўсім шукальнікам Фартуны,*
*тым, хто прагне быць шчаслівым,*
*Трэ адмовіцца бяздумна*
*назаўжды ад Неба сілы!*

*Ну і каб зусім «па масці»*
*быць кампаніі гуллівай,*
*ўсім лаўцам лёгкага шчасця*
*трэба «здаць» сваю Радзіму.*

*На «дэсерт»» жа, пад натхненне,*
*дробная зусім умова —*
*без згрызотаў у сумленні*
*адрачыся Роднай Мовы!..*

***

*Клятвы ты, вядома, прымеш —*
*што там Бог, Радзіма, Мова!..*
*Гэта ж проста так з усімі:*
*паклясьціся адмыслова!*

*І адказнасць твая стане*
*бы падзеленай на многіх,*
*і жыццё ў ілжы-падмане*
*больш не выкліча трывогі.*

*І ты быццам набрыняеш,*
*ўладай новаю высокай,*
*ўсё, што толькі пажадаеш,*
*будзе для цябе навокал!*

*Ў міг той здасца недарэчным*
*шчасце зорнае з Паэтам...*
*Ды чамусьці твае плечы*
*ўздрыгануцца непрыкметна...*

*А яшчэ праз міг-імгненне*
*ўсе душэўныя хістанні*
*раптам вернуцца аднекуль...*
*Ты чамусьці зноўку станеш*

*ўспамінаць свайго Паэта;*
*яго ўсмешку, голас, рукі,*
*спетыя табе санеты,*
*наркатычныя іх гукі,*

*ў паднябессе што ўздымалі,*
*як іх вечна было мала...*
*І ў душу тваю паволі*
*ўкленіцца самота болем,*

*нібы шып ад ружы, вострым!*
*І ты ўбачыш раптам з жалем,*
*што пачвары — усе госці*
*таго д'ябальскага балю...*

*І як цацку ў міг адкінеш*
*прэч карону ад Месіра,*
*з цёмнай вырвешся ты плыні*
*ў сэрцы чуючы зноў сілу*

*жыць, пазнаць йшчэ раз каханне,*
*смак ягонай асалоды,*
*і забыць Дрэва Пазнання*
*цяпер раз і назаўсёды!..*

*А калі світанку промні*
*Апраметнай ноч разгоняць,*
*усвядоміш канчаткова:*
*час з Паэтам быў галоўным!*

*І захочаш зноў вярнуць ты*
*ўсё назад любой цаною,*
*каб душэўныя пакуты*
*засталіся за спіною.*

*Клятвы цёмныя адрынуць,*
*Божай ласкі прычасціцца,*
*зноў вярнуць сабе Радзіму,*
*Мовай Роднай наталіцца.*

*Адшукаць свайго Паэта*
*на міжзоравых дарогах,*
*і сваёй душы сакрэты*
*кінуць ўсе яму пад ногі...*

*Стаць ізноў з ім адным цэлым,*
*гэтым разам толькі ўпотай,*
*зазямліцца ў жарсным целе*
*ўсёю грэшнаю істотай.*

*І — як чыстая крыніца —*
*стаць свабоднай, непадсуднай...*
*Так вось мораку пазбыцца*
*у душы сваёй аблуднай.*

***

*Ды не ўсё лёгка спрацуе*
*у тваім бліскучым плане,*
*твой Паэт з другой шчыруе,*
*ды й Радзіму не падманіш.*

*Мова нешта не кладзецца*
*на душу тваю сляпую...*
*Толькі Бог не адштурхнецца...*
*Ён усё табе даруе...*

***

*Тут бы й крылы ціха скласці...*
*Стаць звычайнаю жанчынай!...*

*Толькі мецць зямное шчасце*
*Бессмяротным немагчыма!...*

**Верасень 2010**



АПОВЕД

# ГЕНЕЗІС І КАТАСТРОФА

## САПРАЎДНАЯ ГІСТОРЫЯ

Руал ДАЛ (Roald DAHL)



— Усё прайшло нармальна, — сказаў лекар. — Проста адпачніце цяпер, паляжыце.

Ягоны голас гучаў нібыта з далечыні, і падавалася, што ён крычыць на яе.

— Сынок нарадзіўся.

— Што?

— У вас цудоўны сынок. Разумееце мяне? Сынок. Вы чулі, як ён плача?

— З ім усё добра, доктар?

— Усё з ім добра.

— Дайце мне зірнуць на яго, калі ласка.

— Вельмі хутка яго ўбачыце.

— З ім дакладна ўсё добра?

— Абсалютна дакладна.

— Ён яшчэ плача?

— Паспрабуйце адпачыць. Няма чаго хвалявацца.

— Чаму ён больш не плача, доктар? Што здарылася?

— Не стамляйце сябе, калі ласка. Усё так, як і мусіць быць.

— Я хачу яго бачыць. Майце літасць, дайце мне паглядзець на яго.

— Дарагая, — сказаў лекар, паляпваючы яе па руцэ, — у вас цудоўнае, моцнае, здаровае дзіця. Ці вы думаеце, я вас падманваю?

— Што тая фраў з ім робіць?

— З ім робяць звычайныя працэдуры перад тым, каб вам паказаць, — супакоіў доктар. — Яго проста памыюць, вось і ўсё. Гэта не зойме шмат часу.

— Вы даеце слова, што з ім усё добра?

— Даю. А цяпер кладзіцеся і адпачывайце. Ну, заплюшчвайце вочы, вось так. Вось і малайчына. Так ужо лепей. Харошая дзяўчынка…

— Я так шмат малілася, каб толькі ён жыў, доктар.

— Вядома, ён будзе жыць. Пра што вы кажаце?

— Іншыя не выжылі.

— Якія іншыя?

— Ніхто з маіх іншых дзяцей не выжыў, доктар.

Лекар стаяў каля ложка і глядзеў на бледны змучаны твар маладой жанчыны. Дагэтуль ён ніколі яе не бачыў. Яна і яе сужэнец былі новымі людзьмі ў горадзе. Жонка гаспадара гатэля, якая прыйшла дапамагчы з родамі, сказала, што муж гэтай кабеты ўладкаваўся працаваць на памежную мытню і што ў гатэль яны прыехалі нечакана, каля трох месяцаў таму. З сабой у іх былі толькі валіза і куфар. Муж паддае, казала жонка гаспадара гатэля, такі напышлівы і ўладалюбны п’янюжка. Але сама маладая жанчына — далікатная і набожная. Вельмі сумная, ніколі не ўсміхнецца. За некалькі тыдняў, якія яна правяла тут, жонка гаспадара гатэля ніколі не бачыла, каб тая ўсміхнулася. А яшчэ хадзілі плёткі, што ў ейнага мужа гэта ўжо трэці шлюб і што першая жонка памерла, а другая развялася з ім праз нейкую агідную гісторыю. Але гэта было няпэўна, проста так казалі.

Лекар нахіліўся і падцягнуў коўдру, каб яна зручней атуляла пацыентку.

— Нагоды хвалявацца няма, — сказаў ён мякка, — гэтае дзіця абсалютна нармальнае.

— Дакладна тое самае мне казалі і пра астатніх. Але я страціла іх усіх, доктар. За апошнія васямнаццаць месяцаў я страціла ўсіх трох маіх дзяцей, таму даруйце мне хваляванне.

— Траіх?

— Гэта маё чацвёртае… за чатыры гады.

Лекар ніякавата пераступіў з нагі на нагу, голыя дошкі падлогі рыпнулі.

— Думаю, вы не ўяўляеце, што гэта значыць, доктар, паступова губляць іх усіх, усіх трох, аднаго за адным. Я ўсё яшчэ бачу маіх дзетак. Магу бачыць твар Густава гэтак жа ясна, як бы ён ляжаў на ложку побач са мной. Густаў быў прыгожым хлопчыкам, доктар. Але ён заўсёды быў хворы. Жахліва, калі яны ўвесь час хварэюць, а ты нічога не можаш з гэтым зрабіць.

— Ведаю.

Жанчына расплюшчыла вочы, узіраючыся ў твар лекара, потым зноў іх заплюшчыла.

— А маю дачушку звалі Іда. Яна памерла за некалькі дзён да Раства. Толькі чатыры месяцы таму. Хацела б я, каб вы ўбачылі маю Іду, доктар.

— У вас нарадзілася новае дзіця.

— Але Іда была такой прыгожай.

— Так, — сказаў лекар, — я ведаю.

— Адкуль вы ведаеце? — заплакала жанчына.

— Упэўнены, што яна была прыгожым дзіцём. Але гэтае, новае, таксама прыгожае.

Лекар адвярнуўся ад ложка, падышоў да вакна і паглядзеў у двор. Стаяў шэры і вільготны красавіцкі дзень, бачна было, як буйныя кроплі плёскалі па чырвонай дахоўцы дамоў насупраць.

— Ідзе было два гады, доктар… і яна была такой красуняй, што я не магла адвесці ад яе вачэй, ад раніцы, калі апранала яе, да вечара, калі закалыхвала яе ў ложку. Увесь час я адчувала жуду ад таго, што з гэтым дзіцём можа штосьці здарыцца. Густаў памёр, і мой маленькі Ота памёр, і яна была ўсім, што ў мяне заставалася. Часам я ўзнімалася ўначы, на дыбачках кралася да калыскі, толькі дзеля таго, каб нахіліцца вухам да яе рота і паслухаць, ці яна дыхае.

— Паспрабуйце адпачыць, — сказаў доктар, вяртаючыся да ложка. — Калі ласка, паспрабуйце адпачыць.

Твар жанчыны быў белы і бяскроўны. Вакол рота і крылаў носа ляжаў блакітна-шэры цень, да ілба прыліплі вільготныя валасы.

— Калі яна памерла… Я зноў была цяжарная, калі гэта здарылася, доктар. Калі Іда памерла, ужо добрыя чатыры месяцы я насіла гэтае новае.

Не хачу яго! — закрычала я пасля пахавання. — Не буду яго нараджаць! Я дастаткова дзяцей пахавала!

А мой муж… ён тоўкся сярод гасцей з вялікім куфлем піва… хутка падскочыў і сказаў: «Клара, у мяне для цябе навіны, добрыя навіны». Вы можаце сабе гэта ўявіць, доктар? Мы толькі што пахавалі наша трэцяе дзіця, а ён стаіць з куфлем піва і кажа, што ў яго добрыя навіны. «Сёння мне далі перавод у Браўнаў, — ён так сказаў, — так што ты можаш пачынаць пакаваць рэчы. Для цябе, Клара, гэта будзе новы пачатак, — такія былі ягоныя словы. — На новым месцы ў цябе будзе новы лекар…»

— Калі ласка, не размаўляйце больш.

— Доктар, гэта вы той самы лекар?

— Гэта я.

— І вось мы цяпер у Браўнаў?

— Так і ёсць.

— Я баюся, доктар.

— Паспрабуйце не баяцца.

— Якія шанцы ў гэтага чацвёртага?

— Вам трэба перастаць думаць гэтак.

— Не магу. Я ведаю, што нешта спадчыннае забівае маіх дзяцей. Мусіць быць штосьці такое.

— Ды наўрад ці.

— Доктар, вы ведаеце, што сказаў мой муж, калі нарадзіўся Ота? Ён увайшоў у пакой, паглядзеў у калыску, дзе Ота ляжаў, і запытаўся: «Чаму ўсе мае дзеці павінны быць такімі дробнымі і слабымі?»

— Упэўнены, што было не зусім так.

— Ён засунуў галаву проста ў калыску Ота, нібыта даследаваў нязначную мошку, і сказаў: «Мяне здзіўляе толькі адно: чаму яны не могуць быць экзэмплярамі палепей? Толькі гэта й здзіўляе». А праз тры дні пасля гэтага Ота ўжо не было. Мы пахрысцілі яго хутка, на трэці дзень, і ўвечары таго ж дня ён памёр. Потым памёр Густаў. Затым Іда. Усе яны памерлі, доктар… У момант наш дом спусцеў…

— Толькі цяпер пра гэта не думайце.

— Гэтае таксама вельмі маленькае?

— Ды нармальнае дзіця.

— Але маленькае?

— Крыху драбнаватае, але ў маленькіх часта мацнейшая хватка, чым у вялікіх. Толькі ўявіце, фраў Гітлер, праз год, гэтай самай парою, ён ужо будзе станавіцца на ножкі. Ці не слаўная гэта думка?

Яна нічога не адказала на гэта.

— А праз два гады, магчыма, ён будзе балбатаць без упыну і даводзіць вас сваім лапаценнем. Вы яшчэ не вызначыліся з імем для яго?

— Імем?

— Ну, так.

— Не ведаю, я не ўпэўненая. Падаецца, муж казаў, што, калі будзе хлопчык, мы яго назавем Адольфусам.

— То бок яго будуць зваць Адольф?

— Мужу падабаецца імя Адольф, таму што яно крыху падобнае да імя Алаіз. Так завуць мужа.

— Ну і цудоўна.

— О не! — ускрыкнула яна, раптам падскочыўшы з падушкі. — Яны пыталіся тое самае, калі нарадзіўся Ота! Гэта значыць, што ён памрэ! Зараз жа рыхтуйце ўсё для хросту!

— Цішэй-цішэй, — сказаў лекар, далікатна беручы яе за плечы, — вы памыляецеся. Кажу вам, памыляецеся. Проста я не ў меру цікаўны стары, вось і ўсё. Люблю пагаварыць пра імёны. Мяркую, Адольфус — надзвычай удалае імя. Адно з маіх любімых. Дарэчы, зірніце, вось і ён.

Ідучы з асцярогай, высока трымаючы дзіця на неабнімных грудзях, жонка гаспадара гатэля наблізілася да ложка. «Вось ён, маленькі прыгажун! — праспявала яна з замілаваннем. — Не хочаце яго патрымаць, дарагая? Пакласці яго побач?»

— Яго добра загарнулі? — запытаўся доктар. — Дужа халодна тут.

— Вельмі добра загарнулі.

Дзіця было шчыльна спавіта ў белы ваўняны шаль. Адкрыты быў толькі ружовы тварык. Жонка гаспадара гатэля ціха паклала немаўля каля маці. «Вось, цяпер можаце ляжаць і глядзець на яго, колькі душа жадае».

— Думаю, ён вам спадабаецца, — сказаў лекар, усміхаючыся. — Цудоўнае немаўля.

— У яго неверагодна прыгожыя ручкі, — выгукнула жонка гаспадара гатэля, — такія доўгія далікатныя пальчыкі!

Маці не зварухнулася. Нават не павярнула галаву, каб паглядзець.

— Ну, зірніце ж! — падбадзёрыла жонка гаспадара гатэля. — Ён вас не ўкусіць!

— Баюся глядзець. Мне ўсё роўна, што ў мяне новае дзіця, і што з ім усё добра.

— Не дурыце.

Павольна маці павярнула галаву і паглядзела на малюсенькі надзвычай ціхамірны тварык таго, хто ляжаў на падушцы побач з ёй.

— Гэта мой сынок?

— Вядома.

— О… о… але ён прыгожы.

Лекар павярнуўся, перайшоў да стала і пачаў складаць свае рэчы ў валізу. Маці ляжала на ложку, разглядаючы дзіця і, усміхаючыся, пяшчотна кранала яго пальцамі, штосьці ціха казала яму.

— Прывітанне, Адольфус, — шаптала яна. — Прывітанне, мой маленькі Адольф.

— Ц-с-с-с! — засыкала жонка гаспадара гатэля. — Чуеце? Здаецца, ідзе ваш муж.

Лекар падышоў да дзвярэй. Адчыніў іх і зазірнуў у калідор.

— Гер Гітлер!

— Я.

— Калі ласка, заходзьце.

У пакой ціха ўвайшоў чалавек нізкага росту ў цёмна-зялёнай уніформе і агледзеўся.

— Прыміце мае віншаванні, — сказаў лекар. — У вас сын.

Спадар меў агромністыя вусы, старанна ўкладеныя на манер імпэратара Франца Ёзэфа. Ад яго моцна патыхала півам.

— Сын, кажаце?

— Сын.

— Як ён?

— Цудоўна. І вашая жонка таксама.

— Добра.

Спадар павярнуўся і, неяк дзіўнавата падскокваючы, наблізіўся да ложка, дзе ляжала ягоная жонка.

— Ну што, Клара, — сказаў ён, усміхаючыся ў вусы, — як справы?

Ён нахіліўся, каб паглядзець на немаўля. Потым нахіліўся яшчэ. Рэзкімі рухамі ён нахіляўся ніжэй і ніжэй, пакуль ягоны твар не апынуўся за трыццаць сантыметраў ад галавы дзіцяці. Жонка ляжала збоку на падушцы і глядзела на яго з маленнем у вачах.

— У яго найдзіўнейшыя лёгкія, — заўважыла жонка гаспадара гатэля. — Чулі б вы, як ён загаласіў, ледзь з’явіўся на свет.

— Але, божа мой, Клара…

— Што, мілы?

— Гэты яшчэ драбнейшы за Ота!

Лекар зрабіў два хуткія крокі наперад.

— Дзіця абсалютна здаровае.

Павольна мужчына выпрастаўся, павярнуўся спінай да ложка і паглядзеў на лекара. На яго твары былі збянтэжанасць і боль.

— Не варта маніць, доктар. Я разумею, што гэта значыць. Усё будзе гэтак жа, як і мінулыя разы.

— Цяпер слухайце мяне… — сказаў лекар.

— Але ці ведаеце вы, што здарылася з іншымі?

— Забудзьце на тое, што здарылася з іншымі, гер Гітлер. Дайце шанец гэтаму.

— Але такі малы і слабы!

— Дарагі мой, ён толькі што нарадзіўся.

— Хай нават і так…

— Што вы спрабуеце зрабіць? — крыкнула жонка гаспадара гатэля. — Будзеце казаць так, пакуль і гэтага не зведзяце ў магілу?

— Досыць! — адрэзаў лекар.

Маці была ўжо ўся ў слязах, яе цела моцна торгалася ад усхліпаў.

Доктар наблізіўся да мужа кабеты, паклаў руку яму на плячо і вымавіў шэптам:

— Беражыце яе, калі ласка, гэта вельмі важна.

Моцна паціснуўшы яго плячо, доктар пачаў цішком падштурхоўваць мужа да жонкі. Той вагаўся. Доктар сціснуў пальцы на ягоным плячы мацней, настойваючы. Урэшце, з вялікай неахвотай муж нахіліўся да жонкі і лёгка дакрануўся вуснамі да яе шчакі.

— Усё добра, Клара, — вымавіў ён. — Перастань плакаць.

— Я так шмат малілася, каб толькі ён жыў, Алаіз.

— Усё так.

— Некалькі месяцаў я штодня хадзіла ў царкву і на каленях вымольвала, каб гэтаму было дазволена жыць.

— Так, Клара, я ўсё гэта ведаю.

— Ты разумееш, што больш як трох памерлых дзяцей я не змагу вытрываць?

— Вядома.

— Ён павінен выжыць, Алаіз. Ён павінен, павінен… О божа, будзь літасцівы да яго…

**Пераклад з ангельскай Алены Казловай.**

ПЕРПЕНДЫКУЛЯР

# ДЗЕВЯЦЬ ПРЫЧЫНАЎ, КАБ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ

Мюр ФАРЫДОВІЧ, Ася ПАПЛАЎСКАЯ

**Артыкул, які прапануецца ўвазе чытачоў «Ь», змяшчае завочную палеміку з тэкстам Маргарыты Аляшкевіч «Дзевяць прычынаў не любіць беларускую літаратуру», які, пасля змяшчэння на сайце часопіса «ПраўдзіСвет» (prajdzisvet.org), выклікаў актыўную дыскусію.**

*Меў рацыю Віктар Жыбуль, які ў сваім каментары заўважыў, што гаворка там ідзе перадусім пра нелюбоў да беларускай літаратуры як да прадмета. Прынцыповы перагляд школьнай праграмы па літаратуры — сапраўды даўно наспелае і дужа балючае пытанне. Па сутнасці, яго вырашэнне і шырокае абмеркаванне мусіць стаць найгалоўным і для Міністэрства адукацыі, і для ўсіх грамадзян і інстытуцый, якіх клапоціць сам факт далейшага існавання беларускай нацыі…*

*Між тым, замест гутаркі па сутнасці, абмеркавання шляхоў да выхаду з таго глабальнага гуманітарнага крызісу, які склаўся ў краіне, удзельнікі праўдзісветаўскай палемікі — а сярод іх і некалькі вядомых літаратараў — пераважна спрабавалі навязаць сваё бачанне таго, «як трэба любіць беларускую літаратуру» з непазбежным далейшым пераходам на асобы.*

*На жаль, не пазбеглі гэтага і аўтары прапанаванага ніжэй артыкула. І, хаця яго назва не зусім адпавядае зместу (аўтары прыводзяць шэраг неардынарных цытатаў з беларускай савецкай класікі, спрабуючы зруйнавіць такі Аляшкевіцкі стэрэатып, як «цнота», але ж — ці дастатковая гэта нагода для таго, каб палюбіць беларускую літаратуру?), мы вырашылі пакінуць яе, як і сам тэкст без істотных зменаў. Вырашаць, хто мае рацыю, вам, шаноўныя чытачы. «Ь» гатовая працягнуць распачатую палеміку і вітае новыя водгукі на яе.*

Дзякуючы школьнай праграме, многія нашыя маладыя паэты, празаікі, крытыкі (як і пераважная большасць беларусаў) цвёрда зразумелі, што айчынная (і асабліва савецкая) літаратура — гэта нешта гідотна-вясковапартызанска-нецікава-пафаснапрыродаапісальнае (асабліва калі параўноўваць творы нашых класікаў з тэкстамі Кафкі, Джойса альбо Набокава).

Школьная праграма па беларускай літаратуры — рэч каварная і хітрая. Вельмі лёгка, самому для сябе незаўважна, стаць няшчаснай ахвярай таго стэрэатыпа, які яна так спрытна навязвае. І тады нічога не застаецца, як надзеўшы маску хобіта, шкадаваць, што ў Максіма Багдановіча не было пранцаў, вышукваць прычыны, каб не любіць літаратуру, зводзіць з ёй «гамбургскія рахункі» ў бясконца-прадуктыўнай «доўгай дарозе да гаршка».

Адчуваць сябе прадстаўніком другаснай літаратуры — не тое што непрыемна, гэта моташна! Таму цалкам зразумела, што каб заглушыць боль душы, трэба шчодра заліць яго алкагольна-суцяшальным сцёбам, аздобленым вострымі ноткамі агрэсіўнай эпатажнасці. Хоць на малы час, але дапамагае.

Як жа ратавацца ад гэтага стэрэатыпа? Бо на адным сцёбе, як казаў яшчэ Уладзімір Караткевіч, доўга не пражывеш. Мабыць, трэба зрабіць немагчымае, сабраць волю ў кулак і паглядзець, ці сапраўды беларуская літаратура такая ўжо аніякая? А раптам (маленькая надзея), што не?

Мы адмыслова назавем тут 9 імёнаў, чые прозвішчы грунтоўна звязаныя менавіта з савецкай «класічна-нецікавай» беларускай літаратурай. Паглядзім, ці сапраўды гэтыя аўтары настолькі ўжо лапцюжна-другасныя.

Пачнем з па-сялянску грунтоўнага Якуба Коласа. Цікава, калі вы вучыліся ў школе, ці расказвала вам настаўніца, што ў аўтара «На ростанях» была цудоўная тонка-іранічная проза («Хаім Рыбс», «Курская анамалія», «Калектыў» пана Тарбецкага», «Трагізм» (першая ж фраза з гэтага апавядання зачароўвае: «Усё няшчасце гэтага чалавека было ў тым, што ён быў паэт»); альбо што, пачынаючы з 40-х гадоў, Якуб Колас напісаў цэлую серыю выдатных вершаў пра каханне?

Нельга не згадаць і яго эмацыйна-ваенны твор:

*Нібы камень на плечы ўзвалілі —*
*Такая задуха, цяжар,*
*Цяжка сэрцу таміцца ў бяссіллі,*
*Горка думаць, усведамляць,*
*Што краіну тваю паланілі*
*Чужаніцы, нямецкая бляць…*

Як бачым, ні грама лапцюжнасці і прыкрага маралізатарства, якое можа пакідаць пасля сябе гэты геній, калі над ім папрацавала школьная праграма.

Возьмем Янку Купалу. Як вядома, ён таксама багата і ярка прадстаўлены і ў сённяшніх школах. Але, як раней, у падручніках ні слова пра п'есы «Сон на Кургане» і «Тутэйшыя», не вывучаецца яго вострa-экспрэсіяністычная лірыка 1910-х гадоў: «Смейся!..», «Таварыш мой», «Увесь да дна…».

А для псіхалогіі падлетка (асабліва, калі ён вырас на гатычнай музыцы, альбо на творчасці Джыма Морысана ці Курта Кабэйна) такая паэзія настраёва вельмі ж блізкая! Існуе дурны забабон, які актыўна падтрымліваецца некаторымі нашымі моднымі празаікамі-«эмігрантамі», што ў 30-ыя гады Янкам Купалам нічога цікавага не было створана. Падобны забабон мог узнікнуць толькі таму, што ў школе не праходзілі (ды і не праходзяць) такія творы паэта, як вострa-рокавая «Балюе панская Варшава…», верш-рэп «Заўсёды наперад», дзіцячыя песенькі «Лявоніха» і «Юрачка» (акурат для пачатковых класаў) і асабліва «Сонца». У праграме няма, а многія сучасныя літаратары далей за праграму не ходзяць…

Як бы тое ні было, але Янка Купала, Якуб Колас і асабліва Максім Багдановіч прадстаўлены, дзякуй Богу, дастаткова поўна. Ёсць жа і такія пісьменнікі, пра сапраўдную значнасць якіх вучань анічога даведацца са школьнай праграмы, каб і захацеў, то не змог бы.

Напрыклад, Пятро Глебка. Некаторыя сцвярджаюць, што аўтар цудоўнага твора «Ноч. Халодная землянка…», напісаўшы ў канцы 20-х некалькі яркіх вершаў, затым нічога цікавага і творча-нечаканага не стварыў, бо ў страшныя 30-ыя (і далей таксама) быў заняты пісаннем сацыялістычна-правільных дрындушак… Такія, напрыклад, радкі паэта:

*Ноч на вокнах, на вокнах маіх*
*і чужых,*
*Ноч на вокнах вясковых*
*і на гарадскіх.*

*Як жа мне распазнаць сярод*
*гэтых акон,*
*Дзе мне суджана жыць,*
*а дзе тоіцца скон.*

павінны спадабацца «экзістэнцыяналісту» Альгерду Бахарэвічу, а такі гарэзлівы вершык:

*З Гарохаўскай ад Сокала,*
*Ад Сокала да «Якара» —*
*Абцасікамі цокала,*
*Смяялася і плакала.*

*Смяялася — у «Якары»,*
*А плакала — пакінуўшы.*
*І нам было ніякава,*
*Цябе на дзень адрынуўшы…*

— можа з лёгкасцю спяваць пад гітару Андрэй Хадановіч. <…>

Творчасць Пімена Панчанкі. Пра яго школьная праграма не забылася, друкуючы самыя «правільныя, злабадзённа-дыдактычныя», а таму зусім нецікавыя для вучняў вершы. «Дзякуючы» гэтаму, школьнікі нічога не ведаюць пра дзівосны «Іранскі дзённік» (нізка вершаў, напісаная ў Іране ў 1944–45 гг., дзе ёсць такія радкі: «На Ардабільскім перавале, Пад дзікім позіркам арлоў, Мяне як скрыпку пілавалі, Смыкі дванаццаці вятроў»), не ведаюць яго вясёлай песенькі-верша:

*Галяндыя ці Турцыя —*
*Даруйце прастаку —*
*Усюды прастытуцыя,*
*Усюды прастыту… (…)*

Наступны пісьменнік, якога гэтаксама можна смела назваць пасапраўднаму нікому не вядомым — гэта Кузьма Чорны. Так-так, менавіта ён. Бо што ведае просты школьнік пра гэтага аўтара? Толькі тое, што ён напісаў «Насцечку» і раман «Пошукі будучыні»? І не будзе ведаць бедны вучань, што Кузьма Чорны — аўтар такіх паджойсаўску эпахальных раманаў, як «Сястра» і «Зямля», напісаных у 1926–27 гг., калі пісьменніку не было і 30-ці год! Што ён стваральнік такіх шэдэўральных апавяданняў, як «Парфір Кіяцкі», «Захар Зынга» альбо «Вечар». <…>

Яшчэ адзін з «нецікавых» класікаў: Міхась Лынькоў. У школьнай праграме для самастойнага (а гэта значыць неабавязковага) чытання ягоныя два цудоўныя дзіцячыя творы «Міколка-паравоз» і «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў». Але ж, але… Няма ні для якога нават самага пазапазакласнага чытання рамана «На чырвоных лядах», напісанага ў пачатку 30-х гадоў. З жорсткай аб'ектыўнасцю, месцамі нават брутальна (яшчэ задоўга да «Людзей на балоце» Івана Мележа!) выявіў пісьменнік душу вясковага беларуса: яго страхі, комплексы, жаданні, мары і памкненні. <…>

Вось вам заляцанні старога дзядзькі да маладзіцы: «– Настулька, слухай… — задыхаецца Хвядос, схапіўшы яе адзаду за рукі і налягаючы на яе ўсім сваім целам. /…/ — Дзядзька, а дзядзька, што гэта ўссела на вас, хіба то з розумам… — Ціху, Настулька, от жа ўсіх пасаблю, чым хочаш… — Адчапіся ж адразу, а то людзей паклічу. Бач ты яго, збязулеў на старасці… Вот, вот крыкну… Хвядос шырокай далоняй — цёплай, пухнатай — закрывае рот Настулі, прыгінае долу яе голаў, пагінае пад пахучую капу і раптам адскокае, як ужалены, хапаецца ротам за палец. — У-у… язва, паскудніца… Вот павыбіваю зубы». <…>

Максім Танк. Паэт гэтаксама добра прадстаўлены ў школьнай праграме, але было б яшчэ лепей, каб для абавязковага азнаямлення былі змешчаны і яго дзённікавыя «Лісткі календара». Старшакласнікі ўбачылі б жывога, вясёлага юнака, амаль іхняга аднагодка, які па-авантурнаму вынаходзіў хаваецца ад польскіх шпікаў, які вельмі любіць прыгодніцкае кіно (фільмы пра Тарзана), меладрамы з Грэтай Гарбо і Марлен Дзітрых, фільмы жахаў («Нявеста Франкенштэйна»).

Янка Маўр. Пісьменнік, які павінен быць прадстаўлены ў школьнай праграме адным з першых сярод дзіцячых, але знайшоў сабе месца толькі ў раздзеле «для пазакласнага чытання». Першы беларускі савецкі фантаст («Фантамабіль прафесара Цылякоўскага»), аўтар аднаго з першых у свеце рамана пра першабытных людзей («Чалавек ідзе») і стваральнік першай у нашай літаратуры антыўтопіі (чаму б і не?) «Падарожжа ў пекла» — вясёлай гісторыі пра пінэраў, якія з бясклапотнасцю зрабілі ў таталітарным пекле сацыялістычную рэвалюцыю. Такі аўтар, безумоўна, будзе цікавы самым розным узростам.

Каго ж назваць 9-м? Можа, Кандрата Крапіву? Чаму б і не?! Мала хто ведае, што акрамя класічных «Жабы ў каляіне» і «Дыпламаванага Барана» ў гэтага слаўнага пісьменніка ёсць выдатная байка, якая называецца «Саромлівы».

З 9-га класа можна смела даваць яе юнакам вучыць на памяць. Там распавядаецца пра «ласага да кабет» хлапца, які здабыў сабе «гасцінец ад Вэнэры» і вельмі ж позна прыйшоў са сваёй «цацай» да «спэца». І павучальна, і весела, і педагагічна. Акрамя таго, такія апавяданні Крапівы, як «Гарэлік і ягоная жонка» (які там па-рэнуараўску цудоўны пачатак: «Калі вы любіце ружовае, калі вы любіце белае, калі вы любіце круглае, мяккае, салодкае, цёплае, то вы бярэце гэткую жонку, як у Гарэліка») альбо «Ліха яго разбярэ» (пра стомленага сямейным жыццём дзелавода Круковіча, які заляцаецца да машыністкі Ганны), — ведаць не зашкодзіць.

І ўжо дакладна школьнікі павінны пазнаёміцца з «Рамэа і Джульетай» менавіта ў творчым перакладзе Крапівы. Адзін маналог Меркуцыё, які кліча Рамэо, варты гэтага: «Вачамі Разаліны заклінаю, яе чалом, пунсовымі губамі, маленькай ножкай, трапяткім сцягном і тым дабром, што па суседству з ім, — з'явіся нам у вобразе сваім». Для параўнання, у расійскіх перакладчыкаў (Пастарнака і Шчэпкінай-Куперник) ні слова пра гэтае «дабро» няма, замест гэтага нейтральныя «прочие прелести», «прочие околичности» і г.д.).

Кожны з названых творцаў — гэта прычына любіць беларускую літаратуру. А яшчэ ж ёсць Аркадзь Куляшоў са сваім «Хамуціусам», Анатоль Вярцінскі, Іван Мележ (для нас ён — тое ж самае, што і Стэйнбэк для амерыканцаў), Міхась Стральцоў. Ёсць ужо зусім «несавецкія» Максім Гарэцкі, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў… А колькі сучасных?

Праблема не ў літаратуры. Праблема ў нас. Вызваліць сябе ад школьна-праграмных стэрэатыпаў можна, відаць, толькі адным самым простым спосабам: навучыцца ўчытвацца ў саму літаратуру (а пісьменнікаў, якія стваралі да 1930-га года, пажадана ўвогуле чытаць не ў перавыданнях, а толькі ў арыгіналах!). Знаходзіць у ёй нешта незвычайнае і па-еўрапейску вартае (а такога ў ёй хапае з гакам), натхняцца знойдзеным і натхняць іншых.

У нас няма яшчэ цікавых, па-дэтэктыўнаму займальных даследванняў пра Аляхновіча, Ластоўскага, Максіма Танка, Глебку і Чорнага. Няма авантурна-прыгодніцкага рамана пра Цётку, Багушэвіча альбо Максіма Танка. Няма таго, чаго хапае на кніжных паліцах Расіі, Еўропы ды Амерыкі. Але затое ёсць чыстая алкагольная залежнасць ад сцёбу. Пара завязваць. Пара ўжо быць, згадваючы назву кнігі Джэці, «За здаровы лад жыцця»!

> Школьная праграма па беларускай літаратуры — рэч каварная і хітрая. Вельмі лёгка, самому для сябе незаўважна, стаць няшчаснай ахвярай

ЛЕКТОРЫЙ

# ДЫК ЦІ БЫЎ ПОМНІК?

## ПРА «СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ»

Іван ЛЕПЕШАЎ

**Ужо больш як дзвесце гадоў разгадваюць загадку «Слова аб палку Ігаравым», спрачаючца пра сапраўднасць гэтага твора, таямнічасць знаходкі помніка і «тэатральнасць» яго гібелі ў 1812 годзе.**




У беларускіх энцыклапедыях, у тым ліку і ў 18-томавай (2002, т.15, с. 10), гаворыцца, што «Слова...» адкрыў «у пачатку 1790-х гадоў рускі гісторык А. Мусін-Пушкін у рукапісе 16 ст., які зберагаўся ў Яраслаўлі і загінуў у Маскве ў 1812 г.». У іншых жа крыніцах, таксама аўтарытэтных, сказана, што гэты спісак XVI ст. (рукапіс) знойдзены ў сярэдзіне 1790-х гадоў — і не ў Яраслаўлі, а ў Спаса-Яраслаўскім манастыры пад Масквой. А Мусін-Пушкін не проста «гісторык», а граф, стары кацярынінскі вяльможа, обер-пракурор Сінода (вышэйшага праваслаўнага органа рускай царквы).

Сам граф, як пісаў К.Ф. Калайдовіч у сваіх «Біяграфічных звестках аб А.І. Мусіне-Пушкіне», доўгі час не адказваў на яго просьбы паведаміць, калі і якім чынам было набыта «Слова...». Пазней усё ж паведаміў, што розныя рускія кнігі, і «Слова...» у іх ліку, купіў у архімандрыта Спаса-Яраслаўскага манастыра Іаіла. У «Запісках для біяграфіі» Мусін-Пушкін пісаў, што шмат другіх рэдкіх кніг, «знойдзеных у Польшчы, сярод якіх Літоўскі Статут, надрукаваны славянскімі літарамі ў Вільні ў 1586 годзе», падарыў яму «праасвяшчэнны Іоў Кацярынаслаўскі».

У ранейшых савецкіх падручніках па рускай літаратуры адназначна паведамлялася, што «Слова...» было адкрыта Мусіным-Пушкіным у 1795 годзе (а гэта, як вядома, дата трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай). Пра набыццё ў Вільні або Гародні старажытнага помніка, відаць, далажылі Кацярыне II, і, як паказана ва ўсіх крыніцах, у 1795–1796 гг. для яе была зроблена рукапісная копія «Слова...». Цалкам мажліва, што да 1795 г. «Слова...» захоўвалася ў архіве ці манастыры Гародні-Гродна. Такое меркаванне выказваюць беларускія даследчыкі А. Кацерлі, С. Палуцкая, украінскі лінгвіст Е. Паўленка. Згаданы вышэй расійскі архівіст-гісторык К.Ф.Калайдовіч адзначаў, што набытае Мусіным-Пушкіным «Слова...» было «пісана ў ліст беларускім почыркам». А на думку Е. Паўленкі, аўтарам «Слова...» з'яўляецца гродзенскі князь Ізяслаў Васількавіч, які пасля паражэння («притрепанъ Литовскыми мечи») уцёк у Галіч да Яраслава Асмысла. Усе гэтыя імёны князёў, як і братоў Ізяслава — Брачаслава і Усевалада, — упамінаюцца ў «Слове...» Ёсць у «Слове...» і радкі пра Горадню: «Уныли голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии».

Існуе нямала другіх пунктаў гледжання пра аўтарства гэтага твора. Адны прыпісваюць аўтарства баярыну Пятру Барыславічу, другія — ваяводзе князя Ігара — Рагуйлі, трэція — сыну Ігара ад першага шлюбу Валадзіміру, іншыя — непасрэдняму ўдзельніку адлюстраванага ў творы няўдалага Ігарава паходу супраць палаўцаў у 1185 годзе — Алексічу і г.д.

Украінскі гісторык і даследчык «Слова...» М. Брайчэўскі слушна адзначыў, што ананімнасць гэтага помніка — заканамерная з'ява. «Гэта адна з характэрных рысаў літаратурнага жыцця старажытнай Русі... У тыя часы ні адзін пісьменнік не ставіў свайго подпісу пад уласным творам».

У 1800 годзе Мусін-Пушкін сумесна з дырэктарам архіва Калегіі міністэрства замежных спраў і выдаўцом дакументаў Н. Банціш-Каменскім, а таксама яго памочнікам, гісторыкам-архівістам А. Маліноўскім падрыхтавалі рукапіс да выдання. Яны вызначылі, што гэты рукапіс (як ужо гаварылася, незразумела і таямніча набыты) — не арыгінал, а копія, спісак, зроблены ў XV або XVI ст. Кніга (46 старонак, наклад — 1200 асобнікаў) была выдадзена пад назвай «Ироическая пѣснь о походѣ на половцовъ удѣльнаго князя Новагорода-Северскаго Игоря Святославича, писанная старинным русскимъ языкомъ в исходѣ XII столетия с переложениемъ на употребляемое нынѣ нарѣчие».

Лічыцца, што амаль увесь наклад кнігі загінуў у вялікім маскоўскім пажары 1812 года (што таксама ўяўляецца няясным). Прапаў і спісак, знойдзены Мусіным-Пушкіным, але захавалася зробленая для Кацярыны II копія (упершыню апублікаваная ў 1864 годзе).

Цёмная гісторыя знаходкі «Слова...» і знікнення ледзь не ўсяго накладу кнігі спараджала і спараджае недавер да аўтэнтычнасці гэтага твора. Яшчэ ў XIX ст. нявер'е ў старажытнасць помніка выказалі М. Качаноўскі, А. Сенкоўскі, М. Каткоў, Э. Балхавінаў, М. Надзеждзін і іншыя. Так, вядомы французскі славіст Андрэ Мазон у 1940 годзе апублікаваў працу, у якой даказваў, што «Слова...» — майстэрская падробка пад даўніну і створана ў канцы XVIII ст. на ўзор «Задоншчыны» кімсьці з яго першых публікатараў.

На старонках аналітычнай газеты «Секретные исследования» (2009, № 4) у артыкуле А. Нарваткіна «Склока... о полку Игореве» падрабязна расказана, як у 1963–1964 гг. савецкі расійскі вучоны, доктар гістарычных навук А.А.Зімін у сваёй вялікай працы (яго кніга з 600 старонак была выдадзена толькі ў 2006 годзе — праз 26 гадоў пасля смерці аўтара), аспрэчваючы сапраўднасць «Слова...», аб'яўляе аўтарам падробкі таго самага Іаіла Быкоўскага (родам з Беларусі, вучыўся ў Кіеве), у якога Мусін-Пушкін нібыта набыў скандальны рукапіс. Праца А.А.Зіміна, надрукаваная на ратапрынце колькасцю ў 101 асобнік, з грыфам «для служебнага карыстання», 4-6 мая 1964 года абмяркоўвалася ў Аддзяленні гісторыі АН СССР у Маскве. Паколькі версія сапраўднасці «Слова...» лічылася афіцыйнай і былаператворана ў Савецкім Саюзе ў ідэалагічную догму, у «свяшчэнную карову» агітпропа, абмеркаванне працы А.А.Зіміна закончылася тым, што неўзабаве навуковец быў выгнаны з Інстытута гісторыі Акадэміі Навук.

У 2003 г. амерыканскі даследчык Э. Кінан аўтарам падробленага «Слова...» назваў чэшскага вучонага Йосефа Даброўскага (1753–1829), які добра ведаў амаль усе славянскія мовы. У даследаванні Э. Кінана выказваецца думка, што імавернасць стварэння «Слова...» ў канцы XVIII стагоддзя тлумачыцца самім часам — стагоддзем адкрыцця і распаўсюджання сярэдневяковых эпасаў як канцэптуальных фактараў у працэсе фарміравання нацый (прыгадаем, напрыклад, французскую «Песню аб Раландзе», нямецкую «Песню аб Нібелунгах», фінскую «Калевалу», грузінскага «Віцязя ў тыгравай шкуры»). Трэба было паказаць, што і славяне (у першую чаргу, канешне, Расія) маюць свой старажытны літаратурны помнік.

Разам з тым вельмі многія вучоныя (М. Максімовіч, М. Кастамараў, І. Франко, М. Грушэўскі, М. Палявой, М. Гудзій і інш.) лічылі «Слова...» не падробкай, а сапраўдным творам XII ст. і абгрунтоўвалі яго ўкраінскае паходжанне. Да прыкладу, расійскі вучоны М. Гудзій апісаў стылістычнае і вобразнае падабенства «Слова...» з Галіцка-Валынскім летапісам; вядомы сучасны ўкраінскі філолаг П. Білавус дэталёва супастаўляе «Слова...» і Кіеўскі летапіс, знаходзіць досыць многа падобнага, адзначае адрозненні і робіць выснову: «Аўтар летапіснага аповеду — хранограф, пісар аднаго з князёў, аўтар «Слова пра паход Ігараў» — паэт, мысляр, мастак».

У Савецкім Саюзе панавала прыдуманая ў вялікадзяржаўных, шавіністычных мэтах яшчэ ў XIX ст. канцэпцыя трохмоўнай калыскі, «трох плямёнаў адзінага рускага народа: велікарусаў, маларосаў і беларусаў», канцэпцыя-трыяда: адна дзяржава (Кіеўская Русь, ці Старажытнаруская дзяржава) — адзін народ (старажытнарусы) — адна мова (старажытнаруская). Гэта канцэпцыя аб развіцці ўсходнеславянскіх моў з адной калыскі — старажытнарускай мовы — набыла ў рускім мовазнаўстве, як пісаў прафесар Л.М.Шакун, «усеагульнае прызнанне; у савецкія часы ёй быў нададзены статус афіцыйнай дактрыны, улады адгарадзілі яе ад усялякай крытыкі, бо яна як найлепей адпавядала іх імкненню сцвердзіць «адвечнае адзінства» ўсходніх славянаў, зліць «ізноў» іх мовы ў адзіную — рускую мову». Пра гэту канцэпцыю прафесар В.У. Мартынаў сказаў, што яна «не вытрымлівае ніякай крытыкі. Гэта была больш палітычная канцэпцыя, чым навуковая, і нам усім добра вядома, чаму яна была папулярная».

Дарэчы, пры савецкай уладзе не пераставала ўвасабляцца ў жыццё тая ж самая трыяда; толькі ў абноўленым выглядзе: адна дзяржава (СССР) — адзін народ (савецкі) — адна мова (руская). Крэмль строга выконваў наказ Леніна: «Размежаванне нацый у межах адной дзяржавы шкодна. Мы, марксісты, імкнёмся зблізіць і зліць іх. А паколькі зліццё народаў магчыма толькі пры асіміляцыі нярускіх народаў у рускім, значыць, менавіта ў гэтым і павінна заключацца нацыянальная палітыка бальшавікоў».

У Расіі і цяпер прытрымліваюцца той жа канцэпцыі, уведзенай у свядомасць вельмі многіх людзей. У расійскіх энцыклапедыях, кнігах, падручніках «Слова аб палку Ігаравым» — гэта «древнерусский памятник». А ў цяперашнім тэксце «Слова...», дзе раней неадноййчы было «за землю Русьскую», папраўлена: «за землю Русскую»...

А.А.Залізняк, спрабуючы растлумачыць разнастайныя «цёмныя мясціны» «древнерусского памятника», у адных выпадках знаходзіць «правільную карціну хіба ў паўночна-заходняга перапісчыка XV–XVI ст.» [нашы ліцвіна-беларускія землі ў XIX ст. называліся Паўночна-Заходнім краем], у другіх — адзначае «прадстаўленую ў «Слове...» арфаграфію паўднёваславянскага тыпу, характэрную для пісараў канца XV — пачатку XVI ст.» (паўднёваславянскага — значыць, «украінскага»). Хоць тут і яўная нестыкоўка, але гэта факты, якія таксама гавораць пра многае: перапісчык, пісар — або ліцвін (беларус), або ўкраінец.

У сучаснай Украіне бясспрэчна называюць «Слова...» сваім, украінскім, напісаным тагачаснай, кніжнай, спецыфічна «літаратурнай» мовай. «Літературознавча енциклопедія» (Київ, 2007, т. 2, с.411) пачынае слоўнікавы артыкул пра «Слова...» так: «Слово о полку Ігоревім», або «Слово про Ігорів похід» — пам'ятка киеворуського письменства». У падручніку «Історія української літератури XI–XVIII ст.» (Київ: Академія, 2002, с. 154) «Слова...» называецца літаратурным феноменам, класічным творам, «золотою книгою українського письменного люду». У 1985 г. па рашэнні міжнароднай арганізацыі ЮНЕСКА адзначалася 800-годдзе «помніка стараўкраінскай літаратуры».

...У беларускім часопісе «Роднае слова» (2011, № 3, с. 22) гаварылася пра вялікія магчымасці сучасных інфармацыйных тэхналогій і было адзначана, што з дапамогай інфармацыйна-камп'ютарных методык атрымана «машыннае» пацвярджэнне старажытнасці «Слова аб палку Ігаравым» і яго «непадробнай метафізічнай глыбіні»...


Ироическая пѣснь
о
походѣ на половцовъ
удѣльнаго князя Новагорода-Сѣверскаго
Игоря Святославича,
писанная
старинным русскимъ языкомъ
въ исходѣ XII столѣтія
съ переложеніемъ на употребляемое нынѣ нарѣчіе.

Москва
Въ Сенатской Типографіи.
1800.

ЛЁСЫ

# Уладзімір Лякін: «НЕ ЎСЁ СЦІРАЕ ЧАС…»

**16 кастрычніка 1951 года ў гарадскім мястэчку Хойнікі Палескай (цяпер Гомельскай) вобласці ў маладой сям'і крэдытнага інспектара Дзяржбанка Аляксандра Іванавіча Лякіна і яго жонкі Вольгі Адамаўны, — настаўніцы беларускай мовы і літаратуры, — нарадзіўся сын Уладзімір.**

**Праз пяць гадоў яны пераехалі ў Калінкавічы, дзякуючы чаму горад здабыў свайго будучага пісьменніка — гістарыёграфа і краязнаўцу. 60-гадовы юбіляр адказаў на пытанні журналіста Сяргея Саковіча.**




***— Уладзімір Аляксандравіч, Вы аўтар некалькіх кніг па ваеннай гісторыі, падзеях 1812 года на Беларусі. Чаму звярнуліся да гэтай тэмы?***

— Нацыянальная незалежнасць — гэта абсалютная каштоўнасць. Гісторыя поўная прыкладаў, калі народ, страціўшы яе, станавіўся сыравінным рэсурсам у руках заваёўнікаў, губляў сваю тэрыторыю, культуру, мову, урэшце, знікаў. Незалежнасць можна захаваць, толькі маючы баяздольнае войска і вайсковыя традыцыі. Веданне сваёй ваеннай гісторыі — гэта імунітэт народа ад непрытомнасці. У сваіх кнігах, прысвечаных вялікай эпапеі 1812 года, якая змяніла лёс нашага і некаторых іншых народаў Еўропы, я распавядаю, як яна адбілася на гісторыі Беларусі і беларусах, якім давялося ваяваць тады адзін супраць другога ў шэрагах варагуючых войскаў.

***— Чатыры Вашы кнігі прысвечаны гісторыі калінкавіцкай зямлі, людзям, якія яе ўславілі. Што падштурхнула на гэту працу?***

— Займаючыся радаводам, знайшоў у архівах мноства цікавых дакументаў, якія асвятляць невядомыя раней старонкі нашай гісторыі, багатай падзеямі і яркімі талентамі. Пра гэта было нямала розных газетных публікацый, але асобных выданняў, за выключэннем, мабыць, раённай гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць», не мелася. Першая кніга на гэту тэму, «Свет православия на калинковичской земле», напісаная ў суаўтарстве з протаіерэем а.Георгіем Камінскім, убачыла святло ў 2006 годзе. Затым была выдадзена манаграфія «Фамилии калинового края». Да 450-гадовага юбілею Калінкавічаў, у 2010-м, з'явіліся яшчэ два выданні па яго гісторыі: «Мы с берегов Каленковки» и «Калинковичи на перекрестке дорог и эпох». Выдатную прадмову да апошняй напісаў наш зямляк, пісьменнік, лаўрэат літаратурных прэмій Віктар Апанасавіч Казько, імем якога названа адна з новых вуліцаў нашага горада. Для мяне было вялікім гонарам атрымаць ад яго рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў…

***— Што цікавага можаце ўспомніць пра сваю флоцкую службу?***

— Пасля заканчэння ў 1969 годзе калінкавіцкай СШ №1 паступіў у ваенна-марскую вучэльню, затым служыў афіцэрам на караблях і ў берагавых частках Ціхаакіянскага, Балтыйскага і Паўночнага флатоў. Даводзілася бываць у далёкіх паходах, сустракацца з вядомымі людзьмі, напрыклад, адміралам Анры дэ Голем, пляменнікам нацыянальнага героя і прэзідэнта Францыі, кубінскім генералам Арнальдо Очоа, чалавекам легендарнага і трагічнага лёсу. Два маіх таварышы, з якімі служыў у малодыя гады ў 130-й брыгадзе супрацьлодкавых караблёў Паўночнага Флота, пасля сталі вядомымі не толькі на флоце, але і ва ўсёй краіне. Зямляк беларус Мікалай Скок стаў контр-адміралам, сібірак Кастусь Барскоў даслужыўся да віцэ-адмірала і ў свой час кіраваў паспяховай аперацыяй па ўздыме у Баранцавым моры патанулай атамнай падлодкі «Курск»…

***— А як здарылася, што Вам давялося выконваць «інтэрнацыянальны абавязак» у Афрыцы?***

— Ёсць такая сярод вайскоўцаў прымаўка: ад службы не бегай, на службу не напрошвайся. Атрымаў распараджэнне і апынуўся ў 1988 годзе ў Анголе, горадзе Луанда, дзе быў тады савецкі ваенна-марскі вузел касмічнай сувязі. Наогул жа мы, у адрозненне ад кубінцаў, якія знаходзіліся там, афіцыйна ў баявых дзеяннях не ўдзельнічалі, але ў жыцці здаралася ўсякае. Памятаю, мой таварыш ляцеў па службовых справах на невялікім транспартным самалёце ў адну з ангольскіх правінцый. Раптам пілот «атрымаў радыё», што недалёка над джунглямі збіты кубінскі самалёт, пілоты выратаваліся, але на зямлі іх узялі ў кальцо «унітаўцы» (байцы антыўрадавай групоўкі). Патрабавалася падтрымка з паветра, пакуль падаспее дапамога. Былі яны на борце толькі ўдваіх, і наш афіцэр устаў за кулямёт. Паўгадзіны над гэтым месцам кружылі, але лётчыкаў выратавалі.

Ангола вельмі прыгожая краіна. Мне за час службы шмат дзе прыйшлося пабываць, але нідзе я не бачыў такога чыстага акіяна, такіх выдатных пляжаў, такой насычанай расліннай зеляніны. Вядома, даймала спякота і трапічныя лівіні, забойная (у прамым сэнсе слова) малярыя, якая забрала ў нас больш жыццяў, чым баявыя страты. Ангольцы — народ вясёлы і дабрадушны. Ну а твар вайны ўсюды аднолькавы…

***— Чым цікавіцеся, над чым працуеце цяпер?***

— У маім узросце людзі ўжо часта задумваюцца, ці правільна пройдзены жыццёвы шлях, чаго ты дасягнуў, што добрага змог зрабіць для іншых. Мне няма на што скардзіцца, я адчуваю сябе патрэбным грамадству чалавекам, які працуе з каштоўным матэрыялам: нашым словам і нашай гісторыяй. І праца ў краязнаўчым музеі — па душы. Калі пытаюць — якое ў цябе захапленне, чым займаешся пасля працы, адказваю — чытаю і пішу кнігі па нашай гісторыі і культурнай спадчыне. Цяпер збіраю матэрыял пра жыццё і творчасць калінкавічаніна, беларускага паэта, а пазней савецкага ваеннага пісьменніка Дзмітрыя Рыгоравіча Сергіевіча, чый стогадовы юбілей будзе адзначацца ў жніўні наступнага года.

***— Што б Вы хацелі пажадаць сваім чытачам?***

— Даўно вядома, што народ, этнас, перастае існаваць з таго моманту, калі ў ім рвецца пераемнасць пакаленняў, людзі перастаюць атаясамляць сябе са сваімі продкамі, карацей — губляюць, забываюць сваю гісторыю. Быў час, калі мы ўшчыльную падышлі да гэтай «кропкі незвароту», ды і цяпер, як здаецца, яшчэ не адышлі. Маштабы страты нашай гістарычнай спадчыны ўражваюць.

Мне давялося нямала папрацаваць у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі з рознымі дакументамі, у тым ліку царкоўнымі метрычнымі кнігамі, галоўнай крыніцай даследаванняў радаводаў. Па калінкавіцкім Свята-Мікольскім храме за 1560–1836 гады, калі яны вяліся на польскай мове, захавалася толькі тры невялікія сшыткі, за наступныя гады (вяліся ўжо на расійскай мове), да 1918-га — менш паловы. У гады Грамадзянскай вайны і пазней, калі нішчылі «класава чужы элемент» і «ворагаў народа», захоўваць сямейныя архівы было небяспечна, і яны знішчаліся самімі ж уладальнікамі. Напярэдадні і пасля акупацыі Калінкавіч фашыстамі паўсюдна спальваліся паперы і фатаграфіі, якія мелі дачыненне да савецкай улады, а праз два з паловай гады — да ўлады акупацыйнай.

І нават у мірныя 70-я гады знойдзены пры разборцы былога дома калінкавіцкага святара схаваны ім царкоўны архіў быў па-варварску раскрадзены і знішчаны.

Захаваннем ацалелага з калінкавіцкай гістарычнай спадчыны мы навечна абавязаны людзям, якія пайшлі ўжо з жыцця і якіх мала хто памятае: юравічскім педагогам Ю.Ю.Папелю і В.Ф.Ісаенка, калінкавіцкім настаўнікам і працаўнікам устаноў культуры І.П.Літвіненка, А.А.Ладзік, В.Ф.Міщанкову і К.В.Шчарбіну. Патрыёты роднай зямлі, гісторыкі і краязнаўцы па прызванні, яны дзесяцігоддзямі неслі, не даючы загаснуць, і перадавалі іншым агеньчык нашай агульнай памяці.

Але ўсё ж многія забытыя старонкі калінкавіцкага летапісу яшчэ чакаюць сваіх даследнікаў. Мы не ведаем імёнаў кожнага дзясятага са шматлікіх тысяч савецкіх салдатаў, якія загінулі і пахаваны на беларускай зямлі. Асвятляць гэтыя і іншыя, яшчэ неразгорнутыя старонкі нашай гісторыі, мусіць ужо маладое пакаленне беларускіх краязнаўцаў.

**Сяргей Саковіч**




СЛОВА

## РАДАВОДНАЕ

**Цяжка нават і сказаць, чаму так засцерагаецца наш сённяшні час свайго мінулага, старанна хаваецца за тое, чаго і не было: паданні, небылі і міфы. І няма нічога больш прыемнага, калі праз гэтыя напластаванні навастворанай сучаснай цаліны далучаешся да сапраўднасці. І гэта ў першую чаргу тычыцца працы Уладзіміра Лякіна.**

Мы больш ведаем пра старажытных этрускаў, рымлянаў ды грэкаў — і трымаем у занядбанні кут сваёй зародкавасці. Адкуль мы пачаліся, дзе крыкнулі, піскнулі, убачылі родную зямлю і адчулі бязмежнасць свету. І гэта мо галоўнае, што можна сказаць пра творы палескага краязнаўца.

З пачуццём адкрыцця сябе і невядомага мне мацерыка — матчынай зямлі, зямлі сваіх бацькоў, дзе пачаўся і сам я, — чытаў гістарычны нарыс пра родны і назаўжды прырослы да мяне куточак мілага палескага краю — «Калинковичи на перекрестке дорог и эпох». Пясчынку сусвету, якую не здолеў ні страціць, ні пахаваць у курганах вякоў вецер забыцця. Уражаны неадрыўнасцю гэтай пясчынкі ад сваёй прарадзімы, яе далучанасцю і непарыўнай повяззю з гісторыяй сённяшняй Беларусі і колішняга Вялікага Княства Літоўскага.

Адно крыўдна, што такія кнігі ствараюцца сёння аматарамі без дзяржаўнай ці хаця б мясцовай гарадской падтрымкі, выдаюцца за ўласныя грошы заўзятараў і творцаў, у большасці пенсіянераў, на іх капейкі. Хаця ўсё павінна быць зусім інакш. Такія кнігі павінна мець кожная мясцовая бібліятэка, кожная школа і школьнік, каб хоць крыху ведаць свой радавод, сваіх папярэднікаў: Змушак, Цярашкоўцоў, Андрыеўскіх і іншых, каб не згубіліся імёны наступнікаў. Імёны тых, хто вызначае сёння лёс і твар старажытнага горада.

**Віктар КАЗЬКО**

АГЛЯД

# «ПРЫЙДЗІ СА СВАІМ БОЛЕМ»

ЛеГАЛ

**Свежы нумар часопіса «Дзеяслоў» (55) пачынаецца публікацыяй вершаў аднаго з вядомых нашых паэтаў старэйшага пакалення Генадзя Бураўкіна. Працытую адзін з іх, і гэтага, бадай, будзе дастаткова, каб палічыць такі зачын удалым:**

*Я вам скажу з дасведчанасцю*
*ўсёй:*
*Не загружайце памяць*
*непатрэбшчынай —*
*Палітыкаю, варажбой, папсой,*
*Пустой гамонкай і дурнымі*
*вершамі.*
*Не трацьце час на познюю*
*гульбу,*
*На хмельны сон і спадзяванку*
*гіблую,*
*На лёс не закапыльвайце губу —*
*Шапчыце модлы і чытайце біблію.*

Раман-прыпавесць **Алеся Пашкевіча** «Сім победиши» — гэта, калі не новае, дык адназначна адметнае і важкае слова ў творчасці гэтага пісьменніка.

Прываблівае да чытання чысты і нязмушаны для такога складанага жанру стыль. Да ўсяго аўтар не дае расслабіцца чытачу згусткамі насычанай дакументальнай інфармацыі (сама фактура пры гэтым яшчэ і паступова развівае сюжэт твора), для чаго аўтару давялося добратакі паштудзіраваць архіўныя і музейныя матэрыялы не толькі ў Беларусі. Твор зманціраваны на асацыяцыйных гістарычных паралелях жыццёвага расійскага ладу ў прамежку пяцiста (500) гадоў, а менавіта ад уцаравання Івана IV (Грознага або Жахлівага) да пасляперабудоўчых пострэвалюцыйных стагнацый прэзідэнцтва Барыса Ельцына. Аўтар змог сабраць бліскучую гістарычную (параўнальную) фактуру, якая накладваецца на два гэтыя перыяды і як пад капірку выяўляе станаўленне, духоўную сутнасць ды імперскую зможанасць расійскай дзяржавы, дзе перыядычна змяняецца фасад, але табулюецца ўнутраны змест…

Вельмі ўражліва выпісаны эпізоды кіравання Івана Жахлівага, асабліва падчас яго душэўнай і псіхічнай хваробы, дзе садызм і паглум над чалавечым духам і целам былі амаль нормай. Прасвятленні розуму ненадоўга варочалі да спробаў праведнага жыцця і выбудовы цярпімага ладу. Але прага — не так быць на справе, як звацца трэцім Рымам — скрыўляла і паралізоўвала свядомасць і цвярозы розум… Маладзёльная да выпраўлення гістарычных памылак і новая ўлада.

Пашырэнне імперскіх межаў і грубае парушэнне нацыянальных ліній прыводзіла, груба кажучы, да звужэння сасудаў галаўнога мозгу і спрошчання яго звілін… Аднак (у тым ліку і не ў апошнюю чаргу пад уплывам знешняга фактару) адбываецца ацвераджэнне і непазбежны роздум над будучыняй дзяржавы і народу.

Ёсць і трэцяя ўскосная, панад усім акрэслена выстраеная, звязваючая агульны сюжэт лінія — духоўна-біблейская, сімвалізаваная на пошуках рукапіснага (інкунабулы) «Евангелля ад Яна». Гэта святая кніга, якая пазбаўляла немачы і вяртала да жыцця тых, хто ў цяжкія хвіліны судакранаўся з ёй, але адных заклікала да духоўнага славянскага яднання, другіх жа — да славянскага з'яднання і свайго вяршэнства ў ім…

Кажуць, што часта гісторыя паўтараецца ў выглядзе фарсу. Бывае і так. А. Пашкевіч паспрабаваў давесці чытачу сваё бачанне сітуацыі ў славянскім свеце літаратурнымі сродкамі. Намагаўся, наколькі можна, паўстаць над актуальнай вострай праблемай сучаснасці, у тым ліку і для нашай краіны, і, як мне падаецца, змог у гэтай няпростай праблематыцы выказаць уласнае бачанне і пры гэтым захаваць у прыстойнасці свой пісьменніцкі і чалавечы твар. А тое, што сам раман, як мастацкі твор, стаў удачай аўтара, бачна не толькі па актуальнасці і займальнасці яго сюжэту, але і па жывой беларускай мове і адмысловым стылі пісьма. Вось цытата, дзе нават у такога спакойнага чалавека, як ЛеГАЛ, перахоплівала дыханне:

«Раптам успалашыліся коні. «Ваўкі! Ваўкі-ы-ы!!!» — закрычалі ззаду. Максім Грэк адхінуў скураную апону і адразу ўбачыў іх: доўгая зграя гонкіх шэра-чорных звяроў злятала са снежнага ўзгрыўку наперарэз ягоным саням. Два ўпражаныя конікі нярвова захраплі, заматлялі прыўзнятымі галовамі — і рванулі ўбок, далей ад іклатай зграі. Дзесьці пад імі і снегам рака нечакана падала ўніз. Водны парог быў нябачны, хоць і не замерзлы.

— Стой! Сто-ой!!! — роў на конеей возьнік, а на возніка — праваднікі з абозу. Гохнулі некалькі пішчальных стрэлаў, і ў той момант палазіна саней натыркнулася на штосьці цвёрдае (камень?), сані рэзка віхнуліся набок, штосьці пад імі хруснула — і Максіма абдало марозным агнём. Ён хапіў паветра — і ледзь не захлынуўся вадой. Узняў руку, зачапіўся за апону і паспрабаваў прыўзняцца — ды зноў уваліўся ў марозны кіпень. Затым чыясь моцная рука сціснула ягоную — і выцягнула на свет Божы…

Спалоханыя коні, паламаўшы аглоблі, крышылі грудзьмі лёд, сані патанулі ў снезе і бурлівай вадзе, а над Максімам паўставала парнае воблака. Каля яго завіхаўся палеалоскі прыслужнік Сілуан, які выцягнуў манаха з халоднага віру і накрыў доўгай скурай.

Стрэлы напалохалі зграю, і ваўкі раптоўна, як і з'явіліся, зніклі. Як цені д'яблавыя…»

Усе героі і падзеі XVI стагоддзя ў рамане сапраўдныя (сярод іх ёсць і вядомыя людзі з нашымі каранямі, як Міхал Глінскі, Іван Федаравіч ды іншыя), а героі зусім нядаўняга часу, хоць і выдуманыя аўтарам, але маюць сваіх пазнавальных прататыпаў.

Выкажу думку, што гэты выбітны твор напрошваецца на расійскі пераклад, каб у пошуках сваіх прыхільнікаў паблукаць па ўсё яшчэ неабсяжных прасторах цяпер ужо адзінамытнай «славянскай» саюзнай дзяржавы…

Паэма **Уладзіміра Някляева** «Турма» — рэч складаная, хоць, чытаючы яе, можа скласціся ўражанне пэўнай аўтарскай лёгкасці і непрыхаванай разнашыстасці-напорыстай упэўненасці (экспрэсіўнасці) аўтара ў яе выкананні (стварэнні). Да гэтага схіляюць і кароткі час (25-31.XII.2010), і непрыдатнае месца для напісання паэмы (унутраная турма КДБ). Вонкавы версіфікацыйны гламурны лоск твора не гармануе і ўступае ў падсвядомасную барацьбу з унутраным псіхалагічным асуджальна-змагарным згусткам энергіі не героя-нявольніка. Як па мне, дык не хапае натуральнасці астрожнага «духу», які збіваў бы з ног і забіваў духі чытачу, спараджаючы супрацьў чалавечага духу.

Дэкламацыйна-жэставы аднастайны рытмічны стыль, здавался б, больш падыходзіць да эскізнага вобразу гэткага рамантычна-бунтарнага «гаўроша», чым да знямоканага, але трывучага і не гублюючага надзеі да апошняй затухаючай іскры «прametэя». Але не будзем забываць, такі быў на той час псіхалагічны ды і фізічны стан паэта, такі пульс, такі артэрыяльны ціск, такі рытм (хоць па ўсім вымагалася арытмія). Аднак жа, як і ў кожным таленавітым творы, усе гэтыя (на мой суб'ектыўны густ) нестыкоўкі кампенсуюцца хваравіта-ўзвышаным і балючанатхняльным жарам паэта, які не дазваляе чытачу ні на ёту ўсумніцца ў адчайнай шчырасці яго гіблага становішча, магчымых дзей і спраўджаных «учынкаў» у імя вызвалення не толькі сваёй смяротнай плоці, але і канчатковага разняволення ўласнай душы…

*І воля ў часе мусіць выспець —*
*І вы для волі ў час саспець.*
*Прымі яе. Гадуй. Спялі.*
*Няхай расце. Няхай мужае.*
*Зямля і воля на зямлі —*
*Або свая, або чужая.*

Паэма на два галасы ў адным — як бы дыялагічная, хоць асновай яе ідэі ёсць суцэльны маналог спакутаванага ад турэмных і сваіх унутраных перaтурбацый галоўнага героя, які хоча спраўдзіць волю ўласнага свабодалюбівага духу насуперак сатанінскай аблогі ўсяго, што прагне самасці. Бо турма, як антыгерой, хоча скарыць свайго нявольніка, а не скарыцца яму, тады як яе астрожнік — наадварот, сваёй акамулятыўнай змагарнай энергіяй хоча разбурыць мур цемры і знявечання. Імкнучыся на волю да Волі (каханай жонкі), паэт намагаецца паўстаць і над уласнай творчай прыгнечанасцю дзеля стварэння высокага мастацтва жыцця, якое свабодна выходзіць вонкі з любой змусам створанай абмежаванасці… Паднебная чалавечая існасць паўстае над прыземленай людской сутнасцю. Аказваецца, турма — унутры нас, а не вакол нас… Мы — нявольнікі ўласнай турмы.

Разбурэнне яе і выйсце адтуль залежыць менавіта ад нашай волі. Спадзяюся, прафесійныя крытыкі яшчэ палемічна і глыбока паразважаюць над гэтым неадназначным, але выбітным і арыгінальным творам сучаснай беларускай паэзіі. Ён таго варты.

Мне спадабалася другое апавяданне **Евы Вежнавец** («Любоў зла»), і ў гонар яго вартасці я не схацеў «чапаць» першы яе аповед («Заўжды адна»), які мне падаўся «выкідышам»… Разумею, што мастацтва патрабуе ахвяр, але ахвяр не дзеля хоць якой вядомасці творцы, а дзеля ўзвышэння і вядомасці твора і самога мастацтва… Словам, прачытаўшы два аповеды Евы Вежнавец, я задумаўся. Пэўна, і гэта не лішняе…

Нізка вершаў **Таццяны Беланогай** — своеасаблівая дзявочая лірыка душы, у меру экспрэсіўная і пачуццёвая, гэткі ўдалы сімбіёз чыстай паэзіі і бардаўскіх спавядальных тэкстаў. Да ўсяго часопіс зрабіў падарунак сваім падпісчыкам і прыклаў да нумара плытку з песнямі ў цудоўным выкананні Таццяны.

Таленавіты новапалачанін **Вінцэсь Мудроў** выдрукаваў навелу «Шпег», што засталася ў яго ад колішняга, пацярпелага на пажары, аповеда. З падсветкай іроніі, займальная, чытэльная рэч… Але мне чамусьці шкада таго, што пайшло попелам…

Вершы **Вольгі Чайкоўскай** гэтым разам мяне не асабліва ўразілі, нягледзячы на яе заклінанні:

*Мне б узімку каб натхнення*
*Ты з нябёсаў прыносіў вёдрамі.*
*Я магу быць тваім збавеннем —*
*Сагравацьцябе ад зімовага холаду*
*Сваімі дзявочымі сцёгнамі.*

Цікава чытаюцца нататкі-ўспаміны **Алеся Усені** (пачатак у папярэднім нумары, а працяг будзе ў наступным). Яны жывыя і непадробныя, хоць і не маюць высокай мастацкай вышкаленасці. Кідаецца ў вочы і адкладваецца ў памяці, што аўтар ледзь не ў кожным тэксце просіць прабачэння ў людзей за тыя ці іншыя, згаданыя ім у тэкстах, колішнія непрыглядныя ўчынкі. Не кожны пісьменнік сёння схільны прызнаваць свае жыццёвыя паразы, няхай сабе і «заднім чыслом». У А. Усені прычына для адваротнага відавочная — сумленнасць і спавядальнасць.

Тры аўтары дэбютуюць з вершамі, і падборку ніводнага з іх я пакуль не назваў бы ўдалай. Усе яны пакуль вучнёўскія ці, лепш сказаць, пачаткоўскія.

Найбольш адметная і выразная на гэтым фоне **Марына Верабей.** Але і яе вершам, прэтэндуючым на арыгінальнасць, бракуе самадастатковасці, як у версіфікацыі, так і ў мыслярстве. Двум іншым — тым больш. Каб не быць галаслоўным, працытую радкі з вершаў **Мікіты Прыходзькі:**

*Адзінота…*
*Сумнае слова…*
*Быццам сэрца тваё паміpае…*

І наўслед гэтаму ў наступным яго вершы:

*І прыемна, нат, у адзіноце*
*Сэрцы нашы б'юцца ва ўнісон…*

Далёка не адыходзячы ад аднатэмнасці, напрошваюцца на агалошванне і два радкі з верша **Даны Антановіч:**

*То ж сэрца маё ірвецца.*
*Да сэрца мой сцяг прывяжы…*

Як бачым, у згаданых перспектыўных аўтараў трапяткія, чуйныя да любых праяў жыцця сэрцы, таму ў іх яшчэ ёсць час для ўдасканальвання свайго паэтычнага майстэрства і літаратурнага густу. Пажадаем ім удачы.

Неўпрыкмет стала ўжо традыцыйнай рубрыка ««ПрайдзіСвет» у «Дзеяслове»». Гэтым разам прапануюцца пераклады адметных твораў прозы і паэзіі афрыканскіх аўтараў.

**Сяргей Шапран** у рубрыцы «Архівы» працягвае «пісаць» кінадраматургічны лёс Васіля Быкава. Гэтым разам чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з лёсам кінасцэнарыя трохсерыйнага фільма «Кровавые версты войны», «зманціраванага» з ранейшых экранізацый аповесцей «Журавлиный крик» і «Атака с ходу», а таксама трэцяга арыгінальнага кінасцэнарыя «За два шага от победы».

Даволі цікавыя (у сэнсе фактуры) запісы **Уладзіміра Сіўчыкава,** названыя «З «Лысагорскіх» нататак і фацэцый».

**Эдуард Дубянецкі** выступае з артыкулам «Шызафрэнізацыя культуры в эпоху глабалізацыі», у якім адважыўся крытычна закрануць цэлы шэраг вядомых літаратурных імёнаў. Магчыма, дачакаемся пэўнага рэзанансу. Прынамсі, будзем на тое спадзявацца, бо падобная зацікаўленая з усіх бакоў публічная гаворка пра сучасны літаратурны працэс даўно наспела…

У мяне не выклікае сумненняў, што адна з найлепшых гутарак Андрэя Масквіна ў рубрыцы «Словы» якраз гэтая — «Майго часу не было і не будзе…» (з выбітным паэтам са Скідзеля Алесем Чобатам). Тут ёсць аголены нерв і выяўлена неардынарная асоба. Раю ўсім пачытаць.

Чытач павінен звярнуць увагу на сапраўды крытычныя рэцэнзіі **Алесі Лапіцкай** (на зборнік прозы М. Шчура) і **Дзяніса Марціновіча** (на кнігу В. Ледзянёва), чарговую гутарку Кацярыны Безмацерных з сям'ёй мастакоў Вольгі ды Ігара Гардзіёнкаў, а таксама на творчы партрэт паэта-юбіляра з берасцейшчыны Алеся Каско, напісаны аўтарам гэтага агляду.

І напрыканцы — вершаванае «аліўе» да навагодняга чытацкага стала — калектыўная электронная паэма жартоўнага складу «Буслан і Жамбіла», якую напісалі сябры «Літаратурнага Прадмесця». Рэч на любіцеля (уласна я не дачытаў). Ну і рубрыка з анатацыямі новых выданняў «Дзеяпіс» канчаткова давяршае публікацыі нумара.

Прыемнага Вам чытацкага пераходу са старога ў новае часопісагоддзе!

## ЛІТКУР'ЕР

### КНІЖНЫ ХІТ У НАРВЕГІІ — БІБЛІЯ

**Першы за 30 гадоў нарвежскі пераклад Бібліі ачоліў нацыянальныя кніжныя чарты з моманту свайго выхаду ў кастрычніку 2011 года. За гэты час, як паведаміла The Guardian, прадалося ўжо больш за 80 000 асобнікаў на пяцімільённае насельніцтва гэтай паўночнай краіны.**

«Мы надрукавалі ўсяго 25 000 копіяў для пачатку і думалі, што яны разыдуцца за шэсць-дзевяць месяцаў, а прадалося ўжо 79 000 асобнікаў — гэта неверагодна», — прызнаўся Стын Смемо Страчан, які працаваў над праектам для Нарвежскага біблійнага таварыства. «Яе толькі аднойчы пасунулі з першага месца… Некаторыя людзі спалі ля кнігарняў за дзень да выхаду кнігі, бо на яе было накладзенае эмбарга — гэта крыху смешна усведамляць, пры тым што змест быў даступны ўжо пэўны час».

Над новым выданнем Бібліі працавалі 30 перакладчыкаў-кансультантаў, святароў і акадэмікаў, якія перакладалі тэкст са старагрэцкай і старагабрэйскай, а 12 літаратурных перакладчыкаў «шліфавалі» яго мастацкі ўзровень.

«Натуральна, было вельмі важна зрабіць адэкватны пераклад, але яны таксама хацелі, каб зрабіць яго чытэльным, напісаным добрай літаратурнай мовай,» — адзначыў Смемо Страчан. «Ніхто з гэтых аўтараў не рэлігійны — яны ўсе проста добрыя пісьменнікі, якія палічылі гэта для сябе цікавым праектам».

«Мастацкая» версія Бібліі, у якой няма раздзелаў ці вершаў і якая «чытаецца як раман», таксама выйшла ў Нарвегіі і, па словах выдаўцаў, «прадаецца надзвычай добра».

Згодна з афіцыйнай статыстыкай, 80 % насельніцтва Нарвегіі належаць Царкве Нарвегіі, —але не ўсе з тых, хто купляе новае выданне Бібліі, робяць гэта з рэлігійных намераў.

### ГОД ЯНУША КОРЧАКА

**Польшча абвесціла 2012 год годам педагога, пісьменніка, доктара і абаронцы правоў дзяцей Януша Корчака (сапраўднае імя і прозвішча — Генрык Гольдшміт). Ён нарадзіўся ў 1878 годзе ў Варшаве.**

У 1911 годзе Януш Корчак заснаваў для габрэйскіх дзяцей «Дом сіротаў», якім кіраваў да канца свайго жыцця. У 1940-м разам са сваімі выхаванцамі Корчак быў накіраваны ў Варшаўскае гета. Ён адхіліў усе прапановы прыхільнікаў свайго таленту вывезці яго з гета і схаваць. У 1942-м яго разам з 200 габрэямі пераводзілі ў канцлагер у Трэблінцы, і Корчак чарговы раз адмовіўся ад свабоды — і загінуў разам са сваімі выхаванцамі ў газавай камеры.

У 2012 годзе споўніцца 70 гадоў з дня смерці Януша Корчака ў Трэблінцы і 100-я гадавіна адкрыцця ім дзіцячага дома ў Варшаве.

Рашэнне пра наданне 2012 году ягонага імя прыняў Сейм Польшчы. У адпаведнай пастанове сказана, што «Януш Корчак разглядаў дзяцей не толькі як аб'ект клопату з боку дарослых. Ён папулярызаваў і рэалізаваў на практыцы ідэю павагі правоў і інтарэсаў дзяцей, іх самастанаўлення».

Акрамя грамадскай дзейнасці, Януш Корчак таксама пісаў для дзяцей. Па-беларуску выйшлі яго кнігі «Кароль Мацюсь першы» і «Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве» ў перакладзе Я. Бяганскай і У. Васілевіча

**Падрыхтавала Юля Цімафеева**

## ЮБІЛЕЙ

# УМБЕРТА ЭКА, СТВАРАЛЬНІК ПОСТМАДЭРНІЗМУ

**5 студзеня 2012 года 80-гадовы юбілей адзначыў Умберта Эка — патэнтаваны інтэлектуал, семіётык і медыявіст, бібліяфіл, гурман, знаўца коміксаў і бандзіяны, а галоўнае — аўтар кніг, якія змянілі само ўяўленне пра тое, што такое гістарычны раман, якія спарадзілі паслядоўнікаў па ўсім свеце, уключаючы Дэна Браўна і Барыса Акуніна.**



Эка — адзін з нямногіх італьянцаў сучаснасці, чыё імя знаёма нават тым, хто далёкі ад футбола, оперы і моды. Больш таго: можна сказаць, што дзейнасць, склад думак і сама знешнасць барадатага прафесара ў вялікіх акулярах і з нязменнай цыгарэтай шмат у чым сфармавалі наша ўяўленне пра сучаснага заходняга гуманітарыя, «публічнага інтэлектуала», які не проста з'яўляецца глыбокім адмысловцам у сваёй вузкай галіне (у дадзеным выпадку — семіётыцы і медыявістыцы), але і мае сфармуляванае — і падмацаванае спасылкамі на Дэкарта ці Платона — меркаванне па практычна любым надзённым пытанні сучаснасці: ад вайны ў Персідскім заліве да выхаду новага фільма пра Джэймса Бонда...

Але, вядома, меркаванне баланскага прафесара семіётыкі пра гэтыя і іншыя прадметы цікавіла б нас у значна меншай ступені, калі б не галоўнае: Умберта Эка — пісьменнік, аўтар прынамсі двух міжнародных гістарычных бэстсэлераў: «Імя ружы» і «Баўдаліна». Прычым першы з іх у 1980 годзе перавярнуў уяўленне еўрапейскіх чытачоў аб тым, што ёсць гістарычны раман і на што ён здольны.

Калі паспрабаваць коратка, у духу Нобелеўскага камітэта (які ў апошнія гады відавочна прыглядваецца да Эка) сфармуляваць, у чым, уласна, складаецца заслуга гэтага пісьменніка перад сусветнай славеснасцю, адказ будзе відавочны: Эка першым здолеў арганічна «пажаніць» займальную літаратуру, белетрыстыку, з літаратурай «высокай». І тым самым фактычна спарадзіў постмадэрнізм у літаратуры.

Вядома, мудрагелістыя і шматскладовыя літаратурныя пабудовы, сабраныя з відавочных і няяўных цытат, якія патрабуюць ад чытача бясконцай увагі і бяздоннай эрудыцыі, былі вядомыя і раней — узяць хоць бы з'едлівае «Бледнае полымя» Набокава, загадкавыя аповеды Борхеса ці апавядальныя галаваломкі Жоржа Перэка (не кажучы ўжо пра «Уліса» і «Памінках па Фінегане» Джойса). Але толькі Эка здолеў вывесці такія тэксты з гета «інтэлектуальнай літаратуры» і адпаведных мінімалістычных накладаў.

Нам ужо цяжка ўявіць, якое здзіўленне выклікаў у 1980 годзе раман «Імя ружы». У якім, з аднаго боку, з энцыклапедычнай дакладнасцю ўзнаўляецца побыт манастыра XIII стагоддзя, шчодра цытуюцца навуковыя мужы сярэднявечча і «пракручваюцца» іх схаластычныя спрэчкі, а з іншага — перад чытачом разгортваецца захапляльны дэтэктыў са змрочнымі манастырскімі пабудовамі, загадкавымі забойствамі і гарачымі любоўнымі сцэнамі. І падобны тэкст можа быць шматузроўневым, поўным філасофскіх сэнсаў і алюзій на сучаснасць. Прычым для 48-гадовага прафесара — дэбютанта ў літаратуры — гэта было не натхненне, а свядома выбудаваная стратэгія, як вынікае з апублікаванага следам за раманам эсэ «Нататкі на палях «Імя ружы»», якое стала адкрытым маніфестам постмадэрнізму.

Наступныя тры раманы Эка — «Ківач Фуко» (1988), «Выспа напярэдадні» (1994) і асабліва «Баўдаліна» (2000) умацавалі яго рэпутацыю інтэлектуала, здольнага распавядаць «простым людзям» пра складаныя інтэлектуальныя праблемы. І паказваць на ўласным прыкладзе, як могуць ужывацца ў адной асобна ўзятай галаве самыя разнастайныя ідэі і паняцці.

Пяты раман — «Таямнічае полымя царыцы Лоаны» (2004) — аказаўся, нечакана для многіх, шмат у чым аўтабіяграфічным і таму нязвыкла безабаронным: Эка нібы здымае «браню» сваёй вучонасці...

Апошні на дадзены момант — шосты раман «Пражскія могілкі» (2010) — больш традыцыйны для Эка. У ім аўтар зноў праходзіць па ўсіх рэгістрах еўрапейскай гісторыі, на гэты раз гісторыі ксенафобіі і канспіралогіі, і ў рамане зноў шмат алюзій на іншыя творы. Толькі на гэты раз — не толькі на раманы Эжэна Сю і Аляксандра Дзюма, але і на свае ўласныя.

На васьмідзясятым годзе жыцця Умберта Эка закальцаваў трыццацігадовы сюжэт сваёй пісьменніцкай кар'еры. Што і пацвердзіў кардынальнай зменай іміджу: замест барадача-інтэлектуала ў круглым капелюшы з вокладкі на чытача глядзіць рэспектабельны вусаты сіньёр з выгаленым масіўным падбародкам.

Што будзе далей? Пры ўсёй павазе да дужых п'емонцкіх каранёў і надзеі на невычарпальнае жыццялюбства прафесара Эка, 80-гадовы юбілей — магчымасць падвесці вынікі. Калі праўда, што талент — гэта вечная маладосць, а геній — вечнае дзяцінства, то Умберта Эка як пісьменнік затрымаўся якраз пасярэдзіне: у вечным інтэлектуальным малалецтве.

Часам яго філалагічнае свавольства і гістарычнае франтаўство здаюцца залішнімі (кабалістычныя эпіграфы да «Ківача Фуко» і назвы частак у «Выспе напярэдадні» ўяўляюць сабою сапраўдныя назвы кніг XVII-XVIII стагоддзяў), ствараючы Эка двухсэнсоўную рэпутацыю халоднага маніпулятара, які кампілюе свае тэксты, як камп'ютарныя праграмы. Але нібы для таго, каб развеяць падобнае ўражанне, непрабіўны інтэлектуал, эрудыт і жартаўнік змяшчае ў сваіх кнігах дзіўныя прызнанні. Вось, напрыклад, з трактата пра пераклад «Сказаць амаль тое ж самае»: «Часам я задаю пытанне: ці не пішу я раманы толькі для таго, каб дазволіць сабе ўсе гэтыя спасылкі, зразумелыя толькі мне самому? Але пры гэтым я пачуваюся мастаком, які распісвае адамашкавую тканіну і сярод завіткоў, кветак і шчыткоў змяшчае ледзь прыкметныя пачатковыя літары імя сваёй умілаванай. Калі іх не адрозніць нават яна, не бяда: бо ўчынкі, натхнёныя каханнем, здзяйсняюцца бескарысліва».

**Міхаіл Візель**

*P.S. Як паведаміла італьянскае агенцтва Andkronos, Умберта Эка да свайго юбілею выпусціў новую версію «Імя ружы». Пакуль не вядома, што што гэта будзе: ці новая аўтарская рэдакцыя, ці проста чарговае перавыданне постмадэрнісцкага бэстсэлера.*

*Як стала вядома італьянскім журналістам, адзначаў круглую дату Эка ў вузкім сямейным крузе ў вобласці Марку ў цэнтральнай Італіі.*

## ВІНШАВАНКІ

### СТО ГАДОЎ!

**У студзені і лютым свае «вялікія» і «малыя» юбілеі святкуюць наступныя беларускія літаратары, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

**Студзень**
01.01.1952 Сарока Валерый Іларыёнавіч
02.01.1937 Васько Уладзімір Гаўрылавіч
03.01.1947 Гігевіч Васіль Сямёнавіч
03.01.1962 Лапушын Радзіслаў Яфімавіч
05.01.1982 Гапеева Вольга
05.01.1937 Зіноўеў Аляксандр Уладзіміравіч
05.01.1947 Клімянкоў Іван Пракопавіч
07.01.1952 Гарановіч Віталь Рыгоравіч
12.01.1977 Будовіч Таццяна Васільеўна
13.01.1967 Касцюкевіч Мікалай Яўгенавіч
17.01.1982 Базылёва Вольга Уладзіміраўна
25.01.1937 Цыплюк Сяргей Фёдаравіч
26.01.1962 Сыс Сяргей Анатольевіч

**Люты**
05.02.1957 Загірбекаў Ахмед Амарасхабавіч
06.02.1982 Волкава Ганна Уладзіміраўна
08.02.1937 Кірылаў Герман Іларыёнавіч
11.02.1952 Гібок-Гібкоўскі Аляксандр Сямёнавіч
11.02.1952 Паўлікава (Хейдарава) Людміла Фёдараўна
12.02.1937 Наўроцкі Аляксандр Піліпавіч
16.02.1967 Белая Святлана Анатольеўна
20.02.1957 Сянкевіч Мікалай Іванавіч
23.02.1962 Ігнацюк Алена Аляксандраўна

Сонечна віншуем паважаных творцаў і зычым ім моцнай волі, шчасця ды долі!

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** , 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 0:00 Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія). 3-я серыя.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна). 2-я серыя.
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Зброя.
**13.00** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**14.00** Мультфільм.
**14.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**15.10, 19.15** Навіны рэгіёна Гародні.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Фартыфікацыя.
**16.20** Эпоха. Падзеі і людзі.
**17.00** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**18.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна). 3-я серыя.
**19.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**20.00** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія). 4-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.40, 02.10** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Рамантычная камедыя «Каханне на баку» (ЗША-Канада).
**00.20** Містычны трылер «Люстэркі» (ЗША-Германія).

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**23.00** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.35** «Наша Белараша».
**00.05** Фільм «Гісторыя кахання або навагодні розыгрыш».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Знахар». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** Прэм'ера: «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-2». Серыял.
**15.35** «Паляванне на Ізюбра». Серыял. Заключная серыя.
**16.50** Прэм'ера: «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Элвін і бурундукі». ЗША, 2007 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** Фільм «Пікок». ЗША, 2009 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца. Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Ясі і худзей.
**10.30** Школа рамонту.
**11.35** Жансавет.
**12.10** Страсці па культуры.
**12.55** Час футболу.
**13.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**14.35** Серыял «Маргоша» (Расія).
**16.30** Пазакласная гадзіна.
**16.50** Нянудны глобус.
**17.25** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.10** Крымінальны трылер «Ультрафіялет» (Францыя).
**00.55** Серыял «Маргоша» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 11.00, 12.00, 13.00, 16.00, 17.00, 20.00** Навіны Садружнасці.
**06.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**06.20** Праграма «Таямніцы манежа».
**07.05** Мультсерыял «Апошні з магікан».
**07.40** Праграма «Цік - так».
**08.05** Тэлесерыял «Разлучніца».
**09.05** Тэлесерыял «Разлучніца».
**10.05** Праграма «Рэспубліка сёння».
**10.25** Праграма «Смачны свет. Туркменская кухня».
**11.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт».
**12.05** Мастацкі фільм «Уваход у лабірынт» (Працяг).
**13.20** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**14.20** Мультсерыял «Прыгоды майстра Кун-фу».
**14.40** Тэлесерыял «Старшакласнікі».
**15.30** Тэлесерыял «Дзядуля маёй мары».
**16.25** Тэлесерыял «Сэрцу не загадаеш».
**18.05** Праграма «Правілы жыцця».
**19.25** Праграма «Акцэнты».
**19.40** Праграма «Вялікі рэпартаж».
**20.10** Мастацкі фільм «Кветкі для снежнай каралевы».
**22.20** Мастацкі фільм «Кветкі для снежнай каралевы» (Працяг).
**22.40** Праграма «Неверагодная праўда пра зорак».
**23.20** Праграма «Любімыя акцёры. Л. Гайдай».
**23.50** Мастацкі фільм «На Дзерыбасаўскай добрае надвор'е, або на Брайтан Біч ізноў ідуць дажджы».
**01.35** Праграма «Таямніцы манежа».
**02.05** Праграма «Добрыя жарты».
**03.00** Тэлесерыял «Разлучніца».

### EUROSPORT

**10.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.45** Санкавы спорт: Кубак свету. Обергоф.
**11.15** Санкавы спорт: Кубак свету. Вінтэрберг.
**11.45** Санкавы спорт: Кубак свету. Сэнт-Морыц.
**12.15** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. HS 134.
**13.00** Біятлон: Кубак свету. Осла - Спрынт Жанчыны.
**14.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск Мужчыны.
**15.30** Лыжнае дваяборства: Кубак свету.
**16.15** Снукер: - Дзень 3.
**19.00** Біятлон: Кубак свету. Осла - Спрынт Жанчыны.
**20.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134. Кваліфікацыя.
**21.00** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў.
**22.00, 22.30** Снукер: - Дзень 3.
**01.00** Покер.
**02.00** Біятлон: Кубак свету. Осла - Спрынт Жанчыны.
**03.00** Снукер: - Дзень 2.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**08.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 11 серыя.
**08.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.15** «Школа на санцапёку», серыял: 3 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Каталік у гомасексуалістаў».
**10.40** «Джазмэн з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**11.40** Эксперт.
**12.10** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**12.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**13.20** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.50** «Школа на санцапёку», серыял: 3 серыя.
**14.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 11 серыя.
**15.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.30** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Каталік у гомасексуалістаў».
**16.00** «Джазмэн з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**17.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.55** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 1 серыя.
**19.05** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Невядомая Беларусь: «Скіт над Нарваю», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Вяселле», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**23.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

## 4 ЛЮТАГА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Ранішняя хваля.
**09.50** Скрынка перадач.
**10.25** Культурныя людзі.
**11.00** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Меладрама «Мужыкі!» (СССР).
**14.00** Мультфільм.
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**15.55** Камедыя «Незвычайныя прыгоды Адэль» (Францыя).
**17.50** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Камедыя «А вось і доктар» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыйнай меладраме «Сілы прыроды» (ЗША).
**23.35** Фантастычная драма «Спадар Ніхто» (Бельгія).
**01.55** Дзень спорту.

---

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Камедыя «Будзьце маім мужам».
**13.30** Прэм'ера. «Леў Лешчанка. Ні хвіліны супакою».
**14.30** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення.
**17.15** «Адмысловае заданне». Фінал.
**18.25** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**19.05** Прэм'ера АНТ: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Кубак прафесіяналаў».
**23.10** Прэм'ера. «Першы клас».
**00.15** Фільм «Інтэрдзяўчынка».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Небяспечны месяц».
**09.30** «Я - вандроўца».
**09.55** «Чыстая праца».
**10.35** «Мінск і мінчане».
**11.10** Фільм «Элвін і бурундукі». ЗША, 2007 г.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм «Белае сонца пустэльні». СССР, 1970 г.
**15.00** Фінал Вышэйшай лігі КВЗ Беларусі.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дарагая передача».
**18.00** Фільм «Жаніх з Маямі». Расія, 1994 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Вердыкт за грошы». ЗША, 2003 г.
**22.35** Прэм'ера: «Вячэрні квартал-95».
**23.50** Фільм «На мяжы парыву». ЗША, 1997 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.25** Дабравест.
**08.50** Мір вашай хаце.
**09.00** Анімацыйны фільм «Кірыку і дзікія звяры» (Францыя).
**10.15** Пра мастацтва.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.30** Шоў «Інтуіцыя».
**13.30** Наперад у мінулае.
**14.05** Беларуская кухня.
**14.40** Музычны тэлефільм «Сны Максіма» (НГТРК).
**15.10** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**18.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны.
**19.10** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**20.25** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.35** Гангстэрская сага «Хросны бацька» (ЗША).
**01.40** Шоў «Інтуіцыя».

---

**05.00** Дакументальны фільм «Сяргей Міхалкоў. Жыў высокі грамадзянін».
**06.50** Праграма «Даведнік».
**07.20** Мастацкі фільм «Цырк запальвае агні».
**08.55** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**10.40** Праграма «Формула поспеху».
**11.10** Праграма «Таямніцы манежа».
**11.40** Тэлесерыял «Агенцтва «Залатая куля»».
**12.00** Дакументальны серыял «Доказы віны».
**13.00** Праграма «Правілы жыцця».
**13.00** Навіны Садружнасці.
**16.10** Мастацкі фільм «Нартой».
**16.00** Мастацкі фільм «Беражыцеся, прыгажуні».
**20.50** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**21.40** Мастацкі фільм «Гульцы».
**23.30** Тэлесерыял «Агенцтва «Залатая куля»».
**00.00** Праграма «Добрыя жарты».
**02.45** Мастацкі фільм «Нартой».
**04.25** Мастацкі фільм «Цырк запальвае агні».

### EUROSPORT

**10.30** Снукер: Дзень 3.
**11.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134. Кваліфікацыя.
**12.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск. Жанчыны.
**13.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету.
**14.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск. Мужчыны.
**15.30** Біятлон: Кубак свету. Осла - Жанчыны. Гонка пераследу.
**16.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Жанчыны.
**17.15** Біятлон: Кубак свету. Осла - Мужчыны. Гонка пераследу.
**18.00** Снукер:.
**19.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. 1/4 фіналу.
**21.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. 1/4 фіналу.
**01.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134. Кваліфікацыя.
**02.30** Біятлон: Кубак свету. Осла. Спрынт. Жанчыны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**08.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.45** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.40** Невядомая Беларусь: «Скіт над Нарваю», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**10.10** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**10.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.00** Хто ёсць кім?: «Ганна Хітрык: «Думай пра добрае»».
**11.20** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**11.40** МакраФон: Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча.
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.35** Калыханка для самых маленькіх.
**13.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.30** Невядомая Беларусь: «Скіт над Нарваю», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**14.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**14.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**15.00** «Вяселле», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**16.45** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 1 серыя.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 11 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**19.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.30** «Беларускі лес», дак. фільм.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Плецены чалавек», маст. фільм, 2006 г., ЗША–Канада–Германія.
**23.25** «Мент», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**00.20** Аб'ектыў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 5 ЛЮТАГА, НАДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.50** Камедыя «Незвычайныя прыгоды Адэль» (Францыя).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.45** Медычныя таямніцы.
**10.20** Да цешчы на бліны.
**11.00** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыя «Сэрцы чатырох» (СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.00** Навіны.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Тэлефільм АТН «Шчучынскі апокрыф» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Дакументальны серыял «У пошуках скарбаў» (ЗША).
**16.35** Рамантычная камедыя «Мымра» (Расія).
**18.15** Суперлато.
**19.05** Камедыя «Знаёмства з бацькамі» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Драма «Няверная» (ЗША).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.15** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.50** «Шалапутныя нататкі».
**10.10** Пакуль усе дома.
**11.05** Фазэнда.
**11.40** Камедыя «Небяспечна для жыцця!».
**13.25** Фільм «Безназоўная зорка».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** «Эстрадны кактэйль».
**17.45** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**18.55** «Вялікая розніца».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Л.Лешчанкі.
**23.30** Фільм «Браты».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.35** «Вялікі сняданак».
**11.15** Фільм «Вердыкт за грошы». ЗША, 2003г.
**13.35** «Добры дзень, доктар».
**14.05** Фільм «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга». СССР, 1982г.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Гульня слоў». ЗША-Германія, 2005г.
**22.35** «Прафесійны бокс».
**23.35** Фільм «Валізкі Тульса Люпера». Расія-Германія- Вялікабрытанія-Нідэрланды-Італія- Іспанія-Люксембург, 2003г.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**08.10** Размова са Святаром.
**08.20** Прыступкі Веры.
**08.35** Таямніца душы.
**09.05** Кожны мае права быць розным.
**09.30** Тэлебарометр.
**09.35** Гаспадар.
**10.05** Школа рамонту.
**11.10** Бухта капітанаў.
**11.50** Шоў «Інтуіцыя».
**12.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**15.15** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**16.00** Вышэй за дах.
**16.35** Кінаспробы.
**17.10** Біятлон. Кубак свету. Гонка з масавым стартам. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.00** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма (Расія).
**19.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Чэлсі - Манчэстэр Юнайтэд.
**21.10** Спортлато 5 з 36.
**21.15** КЕНО.
**21.20** Навіны надвор'я.
**21.50** Эксцэнтрычная камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс-2» (Расія).
**23.30** Шоў «Інтуіцыя».
**00.20** Крымінальная драма «Тормаз» (ЗША).

---

**05.00** Дакументальны фільм «Аляксей Шмарынаў. Рускі мастак».
**06.50** Праграма «Смачны свет. Туркменская кухня».
**07.20** Мастацкі фільм «Факір на гадзіну».
**08.55** Мультсерыял «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** Праграма «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** Праграма «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** Праграма «Эксперыментатары».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** Праграма «Ведаем рускую».
**11.10** Праграма «Даведнік».
**11.40** Тэлесерыял «Агенцтва «Залатая куля»».
**12.00** Дакументальны серыял «Доказы віны».
**13.00** Праграма «Правілы жыцця».
**13.00** Навіны Садружнасці.
**16.10** Канцэрт «Мая пяшчота».
**17.30** Праграма «Простыя лікі».
**18.00** Тэлесерыял «Каханне і іншыя дурасці».
**21.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** Мастацкі фільм «Безназоўная зорка».
**00.25** Праграма «Паўночнікі».
**00.55** Мастацкі фільм «Маё апошняе танга».
**03.10** Праграма «Навіны садружнасці. Культура».
**03.55** Дакументальны фільм «Аляксей Шмарынаў. Рускі мастак».
**04.40** Мастацкі фільм «Факір на гадзіну».

**EUROSPORT**

**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134.
**11.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. - Мужчыны Гонка праследу.
**12.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Камбінацыя Мужчыны Хуткасны спуск.
**14.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант Жанчыны.
**15.15** Біятлон: Кубак свету. Осла.
**16.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. Жанчыны.
**17.00** Біятлон: Кубак свету. Осла.
**18.00** Снукер: - Фінал.
**19.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. - 1/4 фіналу.
**21.00** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. - 1/4 фіналу.
**00.00** Снукер:.
**01.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134.
**02.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый. - 1/4 фіналу.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 11 серыя.
**08.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.40** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Сальда (эканамічная праграма).
**10.25** Два на два (тэледыскусія).
**10.55** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**12.05** «Беларускі лес», дак. фільм.
**12.35** «Беларусь – адзіны верш», дак. цыкл: 1 серыя.
**12.45** «Тэра постсаветыка. Красная плошча. Ленін», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.10** Калыханка для самых маленькіх.
**13.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.50** «Плецены чалавек», маст. фільм, 2006 г., ЗША–Канада–Германія.
**15.30** ««Курск» – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм, 2009 г., Вялікабрытанія.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 12 серыя.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 8 серыя.
**19.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.30** Калыханка для самых маленькіх.
**19.45** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя, «Робэрт Кенэдзі: канец амерыканскае мары».
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Хаатычная Ана», драма, 2007 г., Іспанія.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.20** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**01.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ААО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48 Марына

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб. аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Кассир Всего

ВЫБАРЫ

# ЯК ПРАГАЛАСАВАЦЬ ЗА МАРМОНА

Алег НОВІКАЎ

**Міт Ромні, адзін з прэтэндэнтаў на пасаду кандыдата ад рэспубліканцаў на прэзідэнцкіх выбарах гэтага года, можа перамагчы Барака Абаму. Аднак пры ўмове, што разбурыць забабоны амерыканцаў супраць мармонаў.**



На першы погляд, Міт Ромні стопрацэнтна пасуе крытэру кандыдата ад рэспубліканскай партыі на пасаду прэзідэнта. Белая скура, сем'янін, не паліць і не ўжывае алкаголь, калісьці паспяховы бізнесмен, мае вопыт адміністратыўнай працы на пасадзе губернатара штата. Безумоўна, у залік ідзе непасрэдны ўдзел у арганізацыі Зімовай алімпіяды ў 2002 годзе. Аптымальны кандыдат, калі б не графа «канфесійная прыналежнасць». Міт Ромні — сябра LDS (ад анг.: Latter-day Saint — Святыя Апошніх Дзён), або прасцей кажучы — мармон.

У сярэднестатыстычнага амерыканскага абывацеля да мармонаў неадназначнае стаўленне. За часы існавання ЗША у амерыканскім соцыуме склалася цэлая антымармонская традыцыя.

Нагадаем, што мармоны — рэлігійная арганізацыя, якая належыць да шэрагу рэстаўрацыяністаў. Гэта кірунак у хрысціянстве, які ўзнік на аснове пратэстантызму. Лютэранскае вучэнне пра вавілонскае паланенне царквы ў эпоху папства радыкалізуецца да адмаўлення прысутнасці царквы ў гэты перыяд. Адсюль тэзіс пра неабходнасць вяртання да прынцыпаў жыцця ў часы ранняга хрысціянства.

Мармонскі рух вядзе гісторыю ад пачатку XIX стагоддзя, калі Джозэф Сміт, заснавальнік руху, надыктаваў «Кнігу Мармона», якая, па яго словах, была перакладам тэкстаў, знойдзеных на залатых пласцінах, закапаных старажытнымі амерыканскімі прарокам. Царква Сміта хутка заваявала шмат паслядоўнікаў, якія лічылі Джозэфа сваім прарокам. Заваявала яна і безліч ворагаў у асобе пратэстантаў і абывацеляў, якіх шакавала ідэя палігаміі, што прапагандавалі мармоны. У пошуках спакойнага жыцця мармоны зрабілі цэлыя вояж па Паўночнай Амерыцы, пакуль не прыпыніліся на тэрыторыі цяперашняга штату Юта, дзе стварылі нешта накшталт тэакратычнай дзяржавы. У 1858 годзе амерыканскія войскі пад лозунгам барацьбы з той жа палігаміяй далучылі гэтую тэрыторыю да ЗША. LDS фармальна пераптварылася ў звычайную царкоўную абшчыну, хаця яе ўплыў на лакальную палітыку захаваўся. Таксама царква стала міжнароднай.

Нягледзячы на тое, што ў яшчэ 1890 годзе прычына канфлікту была ліквідаваная — царква мармонаў, акрамя малой фракцыі, афіцыйна адмовілася ад практыкі палігаміі, — антымармонскія забабоны моцна прапісаліся ў масавай свядомасці сярэднестатыстычнага амерыканца. Шмат хто не прызнае таго, што марманізм з'яўляецца хрысціянскай рэлігіяй.

Крыніцы сістэмнай ксенафобіі на адрас мармонаў трэба шукаць у пачатку 30-х гадоў XIX стагоддзя ў ЗША, калі пратэстантамі — апанентамі мармонаў, актыўна друкаваліся памфлеты і нават спецыяльныя газеты адпаведнага зместу. Аўтары за аргументамі ў кішэню не лезлі. Яны апісвалі сяброў LDS як эмісараў Сатаны, узгадваючы заявы Сміта, які сцвярджаў, што размаўляе з Ісусам і Богам-Бацькам. На думку шмат каго, гэта была акультная практыка. Сам Сміт маляваўся на старонках згаданых выданняў як тыповы прайдзісвет. Калі мармоны пасяліліся ў штаце Юта, на іх павесілі ўсіх сабак за рабаванне караванаў піянераў, якія ішлі на захад.

Друкаваная антымармонская прадукцыя карысталася, як правіла, попытам у мясцовасцях, дзе кампактна сяліліся мармоны. Мясцовыя жыхары часта былі незадаволеныя з'яўленнем такой дзіўнай кампаніі, і папросту шукалі нагоду для праяўлення агрэсіі. Так, у штаце Місуры, як пішуць гісторыкі, падставай для пераследу стаў страх мясцовых элітаў перад мармонамі, якія на выбарах выступалі адзіным «партыйным» блокам і лёгка падпарадкоўвалі сабе цэлыя выбарчыя акругі. Каб спыніць экспансію, губернатар патрабаваў выкінуць са штату ўсіх прыхільнікаў LDS. Забарона на дзейнасць арганізацыі мармонаў у Місуры была знятая толькі ў 1976 годзе.

Аднак, натуральна, галоўным фактарам масавага антымарманізму была тэма манагаміі. Некалькі дзесяцігоддзяў палігамія прапаведвалася мармонскімі кіраўнікамі як Закон Божы. Шматлікія кіраўнікі абшчын мелі некалькі жонак.

Нягледзячы на тое, што ў 1870 годзе тэрыторыя штата Юта стала адной з першых, дзе жанчыны атрымалі права голасу, у літаратуры з'явіўся шэраг твораў пра няшчасных дзяўчын, якіх гвалтоўна пастаўляюць у мармонскія гарэмы. Напрыклад, пра тое, што «палігамія — ідэйная база марманізму» (як пісаў Жуль Верн у рамане «За 80 дзён вакол свету»). Добрым прыкладам антымармонскіх выпадаў з'яўляецца «Эцюд у барвовых тонах» — адно з першых апавяданняў пра прыгоды Шэрлака Холмса. Яго герой забівае сябраў картэлю, які арганізаваў, як бы зараз сказалі, трафік жывога тавару для мармонаў. Пазней, у 1923 годзе, падчас туру па ЗША Артур Конан-Дойл прасіў прабачэння ў мармонаў за тое, што намаляваў іх так негатыўна.

На той час хваля агрэсіўнага антымарманізму сышла, аднак час ад часу тэмы XIX стагоддзя зноў гучаць у амерыканскім палітычным і культурным жыцці. Напрыклад, калі недзе будуюцца мармонскія храмы, гэта часта выклікае абурэнне сярод некаторых пратэстантаў. Праўда, значна больш агрэсіўныя ў гэтым плане каталікі, асабліва ў Лацінскай Амерыцы. У Балівіі зарэгістраваныя выпадкі забойства мармонскіх місіянераў каталіцкімі фанатыкамі. У 2001 годзе спроба тэракту супраць мармонскай місіі мела месца ў Харватыі.

Апошнім часам лагер праціўнікаў мармонаў папоўніўся актывістамі руху за правы сэксуальных меншасцяў. Сябры Царквы Святых Апошніх Дзён — паслядоўныя праціўнікі лібералізацыі аднаполых шлюбаў.



Рост антымармонскіх настрояў таксама залежыць ад палітычнага цыклу. Варта ўзгадаць, што сам Джозэф Сміт быў забіты ў 1844 годзе менавіта пасля таго, як абвясціў пра свой намер балатавацца ў прэзідэнты. Да забойстваў цяпер справа не даходзіць, аднак з'яўленне на палітычнай сцэне мармона адразу выклікае ў яго апанентаў жаданне выкарыстаць супраць візаві чорны піяр. І містэр Ромні наўрад ці будзе выключэннем. Як толькі ў чэрвені мінулага года ён заявіў пра свае прэзідэнцкія амбіцыі, уплывовы часопіс «Newsweek» правёў апытанне экспертаў. Амаль усе яны былі згодныя ў тым, што марманізм Ромні стане адной з галоўных тэм будучай кампаніі.

Тым больш, што Ромні — не заштатны мармон. Яго далёкі прашчур у пачатку XIX стагоддзя быў адным з самым блізкіх паплечнікаў Джозэфа Сміта. Другі прапрадзед у 1840-я гады ўваходзіў у склад 12 апосталаў царквы. Яшчэ адзін з прашчураў адмовіўся выконваць Акт Вярхоўнага суда ЗША ад 1878 года, які забараняў палігамію. На знак пратэсту той падаўся ў эміграцыю ў Мексіку.

Праўда, у рэспубліканца ёсць свае козыры. Напрыклад, спасылка на біяграфію Джона Кенэдзі, прэзідэнта-каталіка. Нягледзячы на тое, што ЗША — пратэстанцкая краіна, Кенэдзі здолеў стаць прэзідэнтам. У 1960 годзе ён нават выступіў з прамовай наконт ролі рэлігіі ў палітыцы, у якой у прыватнасці сказаў: «Я ніколі не буду падпарадкоўваць царкоўнай дактрыне службу закону і абавязак адміністратара. Для рэлігіі патрэбна свабода, гэтак жа сама, як свабода патрэбна для рэлігіі».

Аднак усе прызнаюць, што зламаць стэрэатыпы будзе цяжка. Так, даследаванні NBC ад 2008 года (тады Ромні таксама намагаўся стаць кандыдатам ад рэспубліканцаў) паказваюць, што 44 працэнта амерыканцаў не вераць у тое, што прэзідэнт-мармон зможа аб'яднаць нацыю. Толькі 25 працэнтаў выбарцаў тады выказалі гатоўнасць галасаваць за кандыдата-мармона. Нарэшце, чвэрць самых перакананых у краіне праціўнікаў рэлігіі мармонаў прыходзіцца на электарат рэспубліканцаў.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускія эксперты і палітыкі хоць і абмяркоўваюць тэму санкцый, але веру ў іх эфектыўнасць ужо даўно страцілі. Яны кажуць пра тое, што ўлада з лішкам кампенсуе неўязным у Еўропу службоўцам іх маральныя страты матэрыяльнымі выгодамі. Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый баяцца зваротнай рэакцыі беларускіх улад на ўзмацненне жорсткасці санкцый, мяркуючы, што пад нож могуць пайсці апошнія сумесныя праграмы. Палітолагі рэкамендуюць брусэльскім службоўцам уважлівей прыглядзецца да расійскага досведу выбудоўвання адносін з Беларуссю і ўцягваць Лукашэнку ў арбіту свайго ўплыву выключна эканамічнымі метадамі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Экспертная супольнасць была на рэдкасць аднадушна ў сваіх водгуках на словы Лукашэнкі пра палітычную рэформу. Выказаць рэакцыю беларускіх і еўрапейскіх аналітыкаў можна адным словам — не верым. Яны (словы пра рэформы) уяўляюць сабой спробу манеўру ў складанай сітуацыі, у якую патрапіў беларускі лідар. Папулярнасць Лукашэнкі рэзка зменшылася, у грамадстве расце запыт на палітычную альтэрнатыву. Але тое, як яна можа выглядаць, застаецца загадкай.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Галоўным сігналам гатоўнасці да палітычных рэформаў стануць восеньскія выбары ў парламент Беларусі. У гэтым скліканні ўлада не прапусціла туды ніводнага апазіцыйнага дэпутата. Таму Захад усумніўся ў легітымнасці парламента і да мінімуму звёў кантакты з народнымі выбраннікамі. Ці пойдзе ўлада ў гэты раз на эксперымент, пакуль не зразумела, паколькі перадвыбарная кампанія ў краіне яшчэ не стартавала, і выразных заяў не прагучала. Аднак нават калі ўлада і вырашыць дапусціць у парламент пару-тройку апазіцыянераў, гэта зусім не значыць, што альтэрнатыўны пункт гледжання будзе ў ім прадстаўлены: беларуская апазіцыя пакуль не вырашыла, ці будзе яна наогул удзельнічаць у выбарах, ці арганізуе байкот.

**«Новые Известия» (Расія)**

Гутаркі пра развіццё партыйнай структуры ў Беларусі могуць казаць пра тое, што рэжым шукае дадатковых шляхоў легітымацыі, у тым ліку праз стварэнне партыі ўлады, якая будзе ад імя народа праводзіць тыя ці іншыя законапраекты, адводзячы непасрэдную палітычную пагрозу ад так званага кіраўніка дзяржавы. Таксама ў выпадку з'яўлення партыі ўлады варта чакаць стварэння кішэнных апазіцыйных партый, як гэта рэалізавана ў Расіі, дзе ўсе парламенцкія партыі з'яўляюцца марыянеткамі Крамля.

**«Liberty» (ЗША)**

Пакуль яшчэ нябачную рэарганізацыю палітычнай улады ў РБ узначальвае не афіцыйная празаходняя «апазіцыя» сістэме, якая толькі стварае патрэбны ідэалагічны фон, а функцыянеры сістэмы. Гэта кіраўнічая наменклатура з падвойнай мараллю. Вельмі верагодна, што хуткія выбары ў парламент Беларусі легалізуюць і зробяць гэту рэарганізацыю заўважнай.

**«Baltnews» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. КІЕЎ І БУДАПЕШТ ПАСВАРЫЛІСЯ

Пасварыліся з-за нежадання ўкраінскага ўраду стварыць у Закарпацці асобны адміністратыўны венгерскі раён. Гэта патрабаванне закарпацкіх венграў актыўна падтрымліваў афіцыйны ўрад Венгрыі. Калі верыць украінскаму боку, Венгрыя нават выставіла Украіне ўльтыматум. Ён не толькі ўключаў пункт аб аўтаноміі, аднак таксама патрабаванне аб гарантаваным прадстаўніцтве венграў у Вярхоўнай Радзе Украіны. Пры гэтым венгерскі бок спасылаўся на свой нядаўна прыняты закон, які гарантуе ўкраінцам Венгрыі 14 месцаў у парламенце. Украінская дыпламатыя ў сваю чаргу кажа, што рашэнне адмовіць венграм у аўтаноміі цалкам лагічнае. «Закарпацце — край, дзе жывуць шмат нацыяў, і ніводная з іх не павінна мець асаблівых прывілеяў», — кажа МЗС Украіны. Што тычыцца квоты ўкраінцаў у парламенце Венгрыі, то, па словах МЗС Украіны, гэта блеф. Каб стаць дэпутатам, украінскі кандыдат павінен набраць як мінімум 13 тысяч галасоў, а ўсяго ў Венгрыі 5 тысяч зарэгістраваных венграў украінскага паходжання. У выніку паміж краінамі ўпершыню за 18 гадоў не быў падпісаны пратакол наконт правоў нацыянальных меншасцяў. Магчыма, напружанне здыме хуткі візіт у Будапешт украінскага прэм'ера Міколы Азарава.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. СІРЫЙСКІЯ ЧЭРКЕСЫ ВЯРТАЮЦЦА НА РАДЗІМУ

Міжнародная чэркеская асацыяцыя мае намер дапамагчы вяртанню на гістарычную радзіму 115 чэркесаў, якія пражываюць у Сірыі. Прыняць рэпатрыянтаў гатовыя ўлады некалькіх паўночна-каўказскіх рэспублік, у якіх жывуць прадстаўнікі гэтага народа. Так, урад Кабардзіна-Балкарыі (КБР) ужо паведаміў пра рашэнне парламента рэспублікі звярнуцца да прэзідэнта Расіі з просьбай надаць выхадцам з цяперашняй Кабардзіна-Балкарыі права свабодна вярнуцца ў РФ. «Чэркесам, якія жывуць у Сірыі, трэба спрасціць працэдуру вяртання на гістарычную радзіму ў сувязі з абвастрэннем становішча ў гэтай краіне, — сказаў кіраўнік КБР. — Не трэба баяцца вяртання ў краіну працавітых людзей, якія захавалі родную мову і звычаі супляменнікаў». Парадокс сітуацыі палягае ў тым, што сірыйскія чэркесы — нашчадкі чэркесаў, якія збеглі з радзімы ў XIX стагоддзі, у пошуках выратавання ад расійскай каланізацыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЧЭХІЯ. ЧЭШСКІЯ ЦЫГАНЕ СТВАРЫЛІ ПАРТЫЮ



Мала хто ведае, што нядаўняя смерць былога прэзідэнта Вацлава Гавэла выклікала смутак не толькі ў прагрэсіўнай грамадскасці, аднак і сярод чэшскіх цыган. Гавэл як праваабаронца заўсёды падтрымліваў правы гэтай этнічнай камуны, якая апошнім часам стала мішэнню для атак расістаў. Цяпер былога патрона няма, і абшчына цыган думае, што рабіць далей. Як вынік, узнікла ідэя стварэння асобнай цыганскай партыі, пра што абвясцілі на мінулым тыдні. Фармаванне называецца Партыя роўных магчымасцяў. Цікава, што партыя збіраецца абараняць не толькі інтарэсы цыган, аднак таксама інтарэсы ўсіх нацыянальных меншасцяў у Чэхіі. Для гэтага ў цыган ёсць усе падставы. Старшыня партыі таксама ўзначальвае арганізацыю Савет меншасцяў, якая аб'ядноўвае ўсе асацыяцыі малых народаў краіны. Акрамя цыган у Чэхіі шмат немцаў, сілезцаў, мараўцаў. Цікава, што, адпаведна апошняму перапісу, 26 працэнтаў апытаных не запоўнілі графу «нацыянальнасць». З-за гэтага ў Чэхіі толькі 67 працэнтаў насельніцтва — чэхі.

**Паводле чэшскай прэсы**



### ІСПАНІЯ. ПАМЁР АДЗІН З ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ ЕТА

Ва ўзросце 82 гадоў у іспанскім Сан-Себасцьяна памёр Хасэ Эмпаранца. Ён быў жывой легендай баскскага нацыяналізму, нягледзячы на тое, што пачаў вывучаць баскскую мову дастаткова позна — у 17 гадоў. Аднак усё роўна ён увайшоў у гісторыю баскаў, паколькі ў 1959 годзе, 30-гадовым студэнтам, быў адным з заснавальнікаў падпольнай арганізацыі ЕТА. Да смерці Франка і дэмакратызацыі ў Іспаніі ЕТА лічылася флагманам нацыянальна-вызвольнага руху баскаў, нягледзячы на тое, што ўжывала тэрарыстычныя метады. У 1967 годзе з-за пераследу паліцыі Эмпаранца пакінуў Іспанію і вярнуўся толькі ў 1976-м. З гэтага часу ён цалкам адышоў ад падпольнай дзейнасці і займаўся палітычнай працай у рамках легальных палітычных партый. Хасэ Эмпаранца заставаўся актыўным да канца сваіх дзён. Літаральна за некалькі дзён да смерці ён прыняў удзел у маніфестацыі за вызваленне з іспанскіх турмаў вязняў — сяброў баскскіх нацыяналістычных арганізацый.

**Паводле іспанскай прэсы**

МЕРКАВАННЕ

# ПАРТЫІ ВЫЙДУЦЬ З ПАДПОЛЛЯ

**У Расіі стартуе палітычная рэформа, дзякуючы якой на працягу года можа з'явіцца некалькі дзясяткаў новых зарэгістраваных палітычных аб'яднанняў. Пра магчымыя пагрозы і перспектывы рэформы для крамлёўскай эліты журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з расійскім журналістам Аляксеем Тарасавым.**



— Цяпер у Расіі ўсяго 7 палітычных партый, хаця яшчэ пяць гадоў таму іх было 32. Гэта вынік новай рэдакцыі закона «Пра палітычныя партыі», паводле якой у партыі павінна быць не менш за 50 тысяч сяброў і прынамсі 45 рэгіянальных аддзяленняў па 500 чалавек. Выканаць такія патрабаванні тэхнічна і фінансава практычна не рэальна. Не дзіўна, што адразу пасля прыняцця новага закона большасць партый проста самараспусцілася або пачала дзейнічаць у якасці грамадскіх арганізацый. Іншыя забаранілі праз суд за парушэнне заканадаўства. Перайсці ў нефармалы давялося нават партыям з моцнымі структурамі і пазнавальным брэндам, такім, як «Кедр» або Расійская камуністычнай рабочая партыя (РКРП).

***— Ці былі спробы рэгістрацыі новых партый у апошні час?***

— Было калі 10 спробаў. Галоўным чынам спрабавалі атрымаць легальны статус левыя аб'яднанні кшталту «Авангарда чырвонай моладзі». Аднак хутка высветлілася, што фармальнае выкананне патрабаванняў Мінюсту для рэгістрацыі — гэта палова справы. Канчатковае рашэнне — рэгістраваць або не рэгістраваць — прымаюць у Крамлі. Так, кіраўніцтва партыі «Расійскі аб'яднаны працоўны фронт» («РОТ Фронт») атрымала шэсць адмоў ад Мінюста. Увогуле, з пачатку дзеяння новага закона ў Расіі не было зарэгістравана ніводнай партыі.

***— Што зменіцца пасля рэформы?***

— У канцы мінулага года пасля масавых пратэстаў супраць фальсіфікацый на Думскіх выбарах прэзідэнт Расіі Дзмітры Мядзведзеў заявіў, што ўносіць у Дзярждуму законапраект пра спрашчэнне рэгістрацыі палітычных партый. Новы закон дазволіць зарэгістраваць партыю па заяўцы ад 500 чалавек, якія прадстаўляюць не менш палавы рэгіёнаў краіны. На днях Сяргей Нарышкін паведаміў, што два прэзідэнцкіх законапраекта па рэфармаванні палітычнай сістэмы могуць быць прынятыя ў лютым, яшчэ да прэзідэнцкіх выбараў.

***— Ці ёсць ужо нейкая рэакцыя палітыкуму на запланаваную рэформу?***

— Яшчэ якая, асабліва на правым ліберальным флангу. Пра намер заняцца стварэннем асабістай партыі заявілі ліберальны мільянер Прохараў і былы міністр фінансаў Аляксей Кудрын. Надоечы ў Маскве прайшоў з'езд руху «Дэмакратычны выбар», лідар якога Уладзімір Мілаў анансаваў стварэнне на базе руху партыі правай арыентацыі. Гэты пры тым, што яшчэ не сказала свайго слова пазасістэмная апазіцыя. Так, правымі або ліберальнымі партыямі лічаць сябе прыкладна тузін нефармальных арганізацый. Іх лідары Рыжкоў (Рэспубліканская партыя), Барыс Нямцоў («Салідарнасць») Міхаіл Касьянаў (Расійскі народна-дэмакратычны саюз) наўрад ці застануцца статыстамі і таксама прымуць актыўны ўдзел у партыйным будаўніцтве.

Відавочна, легалізуецца «РОТ Фронт», пра які ішла размова. Варта чакацьператварэння ў партыі арганізацыі «Левы Фронт», адзін з каардынатараў якога Сяргей Удальцоў дзякуючы галадоўцы ў турме атрымаў «паблісіці» ў час снежаньскіх пратэстаў. Акрамя левых сацыялістаў існуюць ініцыятывы сярод правых. Перш за ўсё выклікае інтарэс праект «Другая Россия» (Эдуард Лімонаў). Можна прагназаваць з'яўленне партыі на базе руху абаронцаў Хімкінскага лесу, якая хоча працаваць у экалагічнай нішы. Ужо зараз шмат дэбатаў выклікае ініцыятыва Аляксея Навальнага, папулярнага ў антыпуцінскім асяроддзі, узначаліць свой партпраект нацыянал-дэмакратычнага накірунку.

Хапае, зразумела, і арыгінальных праектаў. Так, прыхільнікі аднаўлення манархіі маюць намер правесці ўстаноўчы з'езд «Манархічнай партыі». Яе ўзначаліць мільянер Антон Бакаў, які праславіўся тым, што набыў востраў у Ціхім акіяне ў ліпені мінулага года і абвясціў на ім суверэнную незалежную дзяржаву — Расійскую Імперыю. Партыйны праект задумаў стварыць протаіерэй Усевалад Чаплін, вядомы сваімі фундаменталісцкімі заклікамі, кшталту забараніць расійскім жанчынам насіць міні. Аднак, я думаю, што гэта заканамерная з'ява для часу лібералізацыі.

***— Як ставіцца да гэтага ўжо зарэгістраваныя партыі?***

— Найбольшую пагрозу рэформа прадстаўляе для партый «Справядлівая Расія» і «Адзіная Расія». Яны ўзніклі ў рамках рэалізацыі пуцінскага бачання расійскай партыйнай схемы, якую ён пазычыў у немцаў: правыя цэнтрысты супраць левых цэнтрыстаў. І ў адзінаросы і ў эсэры заганялі ледзь не гвалтоўна. Згадайце, як былі распушчаныя партыі «Кедр» або «Родина». Шмат хто з тых жа родзінцаў не знайшоў сябе пад дахам гэтых партый і можа паспрабаваць аднавіць свае. Рэформа можа падставіць пад сумнеў манаполію партыі «Яблоко» на правым ліберальным флангу.

***— Яшчэ не забыліся думскія выбары 2003 года, калі па разнарадцы Крамля была створана партыя «Родина», якая павінна была адцягнуць на сябе галасы апазіцыйнага «патрыятычнага» электарату. Ці не пачне Крэмль зноў ствараць марыянетачныя партыйныя структуры?***

— Тэндэнцыі пакуль яшчэ не зразумелыя. Здаецца, у Крамлі стаўка робіцца на тое, што выбаршчык проста перапужаецца такой колькасці партый, заблытаецца і надасць перавагу чамусьці знаёмаму і саліднаму. І гэта адпавядае настроям электарату. Сацыёлагі «Левада-цэнтра» на падставе свайго даследавання сцвярджаюць, што больш паловы жыхароў Расіі выступаюць катэгарычна супраць стварэння новых партый, пасля таго як прэзідэнт Дзмітры Мядзведзеў абяцаў спрасціць працэдуру іх рэгістрацыі. 56% рэспандэнтаў не падтрымліваюць фармаванне ў краіне новых палітычных партый, і толькі 24% апытаных лічаць неабходным іх з'яўленне. Магчыма, такая пазіцыя тлумачыцца негатыўным досведам 90-х гадоў, калі існавала велізарная колькасць незразумелых партыйных структур.

***— Такім чынам, выхад нефармалаў з падполля не будзе значыць перамен. «Адзіная Расія» зможа захаваць манаполію на ўладу?***

— Гэта дылема. З аднаго боку, расійскі абывацель кансерватыўны. З іншага — запыты ў грамадстве на змены, у тым ліку і на партыйным полі, існуюць. І відавочна, што сямі партый у такой вялікай краіне папросту мала. Таму казаць адназначна, як будуць паводзіць сябе людзі праз пару месяцаў, калі ўступіць у сілу новы закон аб партыях, цяжка. Тым больш у атмасферы эйфарыі ад лібералізацыі характэрна прымаць эмацыйныя рашэнні. Можна прагназаваць дакладна толькі адно — хутка ўзнікнуць каля дзесяці партый на базе ўжо існуючых арганізацый палітычных нефармалаў. Пытанне ў тым, ці змогуць яны выйсці за рамкі палітычнай меншасці? Тэстам стануць наступныя рэгіянальныя выбары. Пасля іх патэнцыял новых партый будзе больш-менш зразумелы. Адны знікнуць, іншыя крышталізуюцца або ўз'яднаюцца з ужо існуючымі партыямі. Аднак з прагнозамі лепш пачакаць. Яшчэ не факт, што прэзідэнцкі законапраект пра спрашчэнне стварэння партый будзе прыняты ў яго цяперашнім выглядзе.

КІНО

# СМЕШНЫ ДЫКТАТАР

Алег НОВІКАЎ

**Выхад трэйлера фільма «Дыктатар» (аўтар сцэнару — славуты брытанскі комік Саша Барон Коэн) выклікаў вялікую дыскусію пра высвятленне праблемы дыктатару ў сучасным кінематографе.**




Здаецца, Галівуд вырашыў стрыгчы купоны з тэмы арабскай рэвалюцыі. У снежні мінулага года адбылася прэм'ера трэйлера фільма «Дыктатар», які распавядае пра гісторыю аднаго арабскага дыктатару.

Гэта чацвёрты фільм Коэна, і варта было спадзявацца, што ён будзе такім жа скандальным і цікавым, як і папярэднія. Раней ахвярамі фільмаў гэтага коміка былі брытанскі палітычны істэблішмент, які мае справу з прыхільнікам стылю рэп (фільм «Алі Джы ў парламенце»), а таксама амерыканская масавая культура. У фільме «Борат» з ёй пазнаёміўся казах Борат Сагадзіеў. Пасля такая адказная місія выпала аўстрыйскаму гомасэксуалісту Бруна ў аднайменным фільме.

Вось цяпер ад Сашы Барона дастанецца арабскім дыктатарам. Герой яго новага фільму дыктатар Аладзін, чый афіцыйны тытул гучыць як генерал-адмірал. Аладзін па сюжэту кіруе выдуманай арабскай краінай Рэспубліка Вадзія, якую «ён любоўна прыгнятае». «Любоўны прыгнёт» выяўляецца галоўным чынам у забойствах дысідэнтаў і арыстакратычным ладзе жыцця тырана. Каб не дапусціць прыходу ў краіну дэмакратыі, Аладзін, як гаворыцца ў цітрах, «вырашае рызыкнуць сваім жыццём». Для гэтага яму давядзецца адправіцца ў Амерыку.

Здымкі «Дыктатара» пачаліся яшчэ да таго, як у Магрыбе ў мінулым годзе, як касцяшкі даміно, адзін за адным сталі валіцца дыктатарскія рэжымы. Таму, па словах аўтараў, спачатку прататыпам карціны быў Садам Хусейн. Сінопсіс карціны будаваўся на кнізе, у якой адзін іракскі сатырык высмеяў побыт іракскага дыктатара.

Аднак лівійская рэвалюцыя прымусіла ўнесці змены ў сцэнар. Герой карціны знешне стаў больш нагадваць Муамара Кадафі. Алегорыя відавочная хаця б таму, што Аладзіна на экране, як калісьці Муамара, ахоўвае жаночы спецназ. У фільме таксама ўжыты фрагменты выступаў Барака Абамы і Дэвіда Кэмерана, якія абвінавачваюць былы рэжым у Трыпалі ў парушэнні правоў чалавека. Гэтыя цытаты быццам накіраваны супраць Аладзіна.

Сашу Барона Коэна часта называюць дыяментам брытанскай камедыі і, здавалася, яго новы твор загадзя асуджаны на трыумф. Аднак, як сведчаць першыя рэакцыі на трэйлер, фільм чакаюць больш складаны лёс і рэакцыя публікі. Слова «дыктатар» для шматлікіх людзей у свеце не мае іранічнага кантэксту. Так, Коэн паказвае ў трэйлеры, як Аладзін выйграе нейкія спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы, забіваючы па ходу сваіх супернікаў. Аднак тое, што для Коэна жарт, шмат дзе амаль рэальнасць. Спорт з удзелам дыктатара — любімая фішка афіцыйнай прапаганды, і яго перамога на такіх турнірах нешта само сабой зразумелае.

Коэн, як адзначае крытыка, вельмі часта смяецца з геапалітычных забабонаў заходніх лідараў, якія змагаюцца за дэмакратыю на Усходзе. Аднак для шматлікіх лівійцаў Сарказі, Клінтан і Абама — палітыкі, якія дапамаглі ім пазбавіцца тыраніі. Культ Францыі (краіны, якая першая патрымала паўстанне супраць Кадафі) у Лівіі настолькі моцны, што дзяцей масава называюць Нікаля ў гонар Сарказі.

Таксама ўзнікае пытанне — каго правакуе «Дыктатар»? Нагадаем, што ўсе працы Сашы Барона Коэна пабудаваны ў жанры правакацыі. Так, выкарыстанне вобразу казаха Бората Сагадзіева ў фільме «Борат» выклікала скандал у Казахстане. Казахскі ўрад пабачыў тут здзек з казахскай культуры. Астана нават забараніла пракат стужкі і збіралася падаць на Коэна ў міжнародны суд. Адначасова казахскі МЗС заявіў, што няма прычын хвалявацца, паколькі аўтар карціны, як быццам даведалася міністэрства, псіхічна хворы чалавек.

У выпадку з «Дыктатарам» адрасата правакацыі не адчуваецца. Наўрад ці супраць фільму будуць пратэставаць дыктатарскія рэжымы, якія, на жаль, яшчэ засталіся на планеце. Гэта значыла б тое, што яны пабачылі асацыяцыю сябе з галоўным персанажам. Правакацыя, хутчэй, накіраваная супраць грамадзян аўтарытарных краін. Вобраз дыктатара ў фільме Коэна сімпатычны.

Расійскія крытыкі, якія пішуць рэцэнзіі на «Дыктатара», кажуць, што гэта падобна на эфект Жырыноўскага. Жырыноўскі быццам негатыўны персанаж, аднак яго фокусы на фоне паводзін іншых сумных палітыкаў міжволі выклікаюць да яго сімпатыю.

Пры гэтым у «Дыктатары» трагедыі людзей, якія жывуць ва ўмовах дыктатуры, не адчуваецца. Наадварот, узнікае пытанне — нашто адсоўваць ад улады такога весельчака Аладзіна? Тым больш, што на кантрасце з рознымі Кэмеранамі і Абамамі ён са сваімі прыроднымі інстынктамі выглядае значна чалавечней і цікавей.

Шматлікія лівійскія грамадскія і палітычныя арганізацыі ўжо выступілі супраць «Дыктатара», абвінаваціўшы яго стваральнікаў у культурным шавінізме. Нельга, на іх думку, смяяцца з таго, што дыктатар, падобны на Кадафі, забівае простых людзей. Пачалася дыскусія пра забарону пракату «Дыктатара», рэліз якога прызначаны на лета.

У гэтым плане адразу ўсе ўзгадалі стужку Чарлі Чапліна «Вялікі Дыктатар», знятую ў 1940 годзе. Чаплін не хаваў, што высмейвае ў вобразе дыктатара Адэноіда Хінкеля фігуру Гітлера. Хінкель таксама, як Аладзін, выглядае забаўна. Хутчэй, як вар'ят, а не жорсткі дыктатар. Аднак ніякіх сімпатый да Гітлера прагляд «Вялікага дыктатара» ў аўдыторыі не выклікаў.

Хаця ў прынцыпе ў Коэна ёсць шанс рэабілітавацца. Наступны фільм будзе пабудаваны на аснове пароды на кнігу «Майн Кампф».

> Лівійская рэвалюцыя прымусіла ўнесці змены ў сцэнар. Герой карціны знешне стаў больш нагадваць Муамара Кадафі. Аладзіна, як калісьці Муамара, ахоўвае жаночы спецназ

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Аказваецца, казахскі прэзідэнт яшчэ не страціў пачуцця рэальнасці. Брытанская газета «Independent» апублікавала артыкул, прысвечаны дзейнасці піяр-агенцтваў, якія працуюць над пазітыўным іміджам Казахстану на Захадзе. У ліпені мінулага года адна з такіх піяр-кантор «БГР Габара» прапанавала Астане праект кампаніі супраць Стынга — вядомага рок-музыкі, які адмовіўся спяваць на дні нараджэння Назарбаева ў знак салідарнасці са страйкам нафтавікоў. Дэмарш Стынга стаў сапраўдным ударам па іміджу рэжыму. У якасці адказу піяр-фірма прапанавала правесці сацыяльную інфармацыйную кампанію, галоўная роля ў якой адводзілася казахскім дзецям. Апошнія павінны былі стаць героямі ролікаў у сеціве. У роліках дзеці павінны былі выказваць глыбокі смутак з нагоды адмены канцэрту Стынга, тым самы дэманструючы, што рок-музыка ахвяраваў пачуццямі малых на карысць вузкіх карпаратыўных інтарэсаў нафтавікоў. Піяршчыкі ў сваёй заяве гарантавалі аднаўленне міжнароднай рэпутацыі Казахстана, пацярпелай пасля рашэння папулярнага спевака. Аднак у апошні момант Назарбаеў вырашыў кампанію «Дзеці супраць Стынга» не праводзіць. Хаця, магчыма, яго ўразіла не трызненне піяршчыкаў, а сума ганарару. Па словах «Independent», казахскі ўрад плаціць за кожны праназарбаеўскі артыкул у заходняй прэсе як мінімум 50 тысяч долараў. Можна толькі ўявіць, колькі «БГР Габара» запрасіла за кампанію.

### ВАЦЛАЎ КЛАУС



Прэзідэнта Чэхіі абвінавацілі ў тым, што ён і яго партыя Грамадзянскіх дэмакратаў, якая фармуе ўрад, абвясцілі ціхую вайну памяці памерлага ў снежні 2011 года Вацлава Гавэла. На гэта, быццам, указвае тое, што заціхла справа перайменавання адной з вуліц Прагі ў вуліцу імя Гавэла. Мэрыя, дзе таксама засядаюць грамадзянскія дэмакраты, сцвярджае, што новая назва — дастаткова дарагая справа. Не зразумелая сітуацыя вакол ідэі перайменавання самага буйнага аэрапорту чэшскай сталіцы ў міжнародны аэрапорт імя Вацлава Гавэла. За такую рэформу падпісаліся каля 50 тысяч жыхароў Прагі. Дарэчы, аэрапорт знаходзіцца ў раёне Ruzyne, дзе калісьці была турма для дысідэнтаў. Урад у адказ прыдумаў цікавае апраўданне: Гавэл не любіў лятаць на самалётах. Акрамя таго, па падліках чыноўнікаў, перайменаванне аэрапорту будзе каштаваць 2 мільёна еўра. Крытыкі Клаўса звязваюць нежаданне ўшанаваць памяці Гавэла з асабістымі адносінамі цяперашняга прэзідэнта і нябожчыка, якія былі заўзятымі апанентамі. Так, Гавэл выступаў за пашырэнне ЕС нават да ўключэння ў яго склад Украіны і Беларусі, а Клаус увогуле лічыцца еўраскептыкам.

### ЯЎГЕН ШАЎЧУК



Нованабраны прэзідэнт непрызнанай Прыднястроўскай Рэспублікі пачаў нябачаную кадравую рэвалюцыю, ахвярай якой стаў амаль увесь вышэйшы корпус апарату былога рэжыму. Дастаткова сказаць, што апарат ураду, па яго словах, будзе абноўлены на 99 працэнтаў. Не забывае Шаўчук і міжнародную палітыку. Ён зрабіў першы міжнародны візіт: наведаў Кіеў, дзе меў сустрэчу з прадстаўнікамі ўкраінскага МЗС. Хутчэй за ўсё, ініцыятарам паездкі быў афіцыйны Кіеў. Украіна мае вялікі інтарэс да Шаўчука. Ён — этнічны ўкраінец, а таксама выпускнік Нацыянальнай аграрнай акадэміі Украіны і Дыпламатычнай акадэміі пры МЗС Украіны. Шаўчук адкрыта кажа, што 2012 год будзе прысвечаны вырашэнню пэўных праблем паміж Малдовай і Прыднястроўем: лібералізацыі руху грамадзян, перасоўванню тавараў, фінансаў і г.д. Аднак будучы ў Кіеве, Шаўчук агучыў тэзіс, які сведчыць пра тое, што яго візіт быў не дзяжурным. Прэзідэнт Прыднястроўя лічыць, што патрэбна прыпыніць мандат Расіі на міратворчую аперацыю ў рэгіёне і вывесці адсюль яе войскі. Цікава, як паўплывае такая заява на адносіны Цераспаля і Масквы, якая фінансуе 70 працэнтаў бюджэту Прыднястроўя.

▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

◂ **Працяг. Пачатак у №№ 42–47, №1–3**

Забойства Вільгельма Кубэ было нечаканым і для Берліна, і для Масквы. Кажуць, Сталін выклікаў першага сакратара ЦК КП(б)Б і начальніка ЦШПР Панцеляймона Панамарэнку і спытаў: «Хто забіў Кубэ?» А Панамарэнка пра забойства нават і не чуў. Камандаванне ні адной партызанскай брыгады яму яшчэ нічога не паведаміла, бо само пакуль цвёрда не ведала, хто дакладна забіў Кубэ.

### Разбор палётаў

— А ці былі жанчыны, што прыбылі ў атрад «Дзіма» і прасілі неадкладна адправіць іх у Маскву, забойцамі Кубэ? — спытаў Сталін.

Панамарэнка пацiснуў плячыма.

— Разабрацца і дакласці! — загадаў Сталін.

Прайшоў нейкі час. Распавядаюць, Панамарэнка разабраўся і дакла́ў.

Сталін падняў трубку ўрадавай «вяртушкі» і сказаў старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Міхаілу Іванавічу Калініну:

— Падрыхтуй Указ аб прысваенні звання Героя Савецкага Саюза!

— Каму? — звярнуўся Сталін да Панамарэнкі.

— Мазанік Алене Рыгораўне, Осіпавай Марыі Барысаўне, Траян Надзеі Віктараўне…

— Усё?

— Таварыш Сталін, яшчэ адзін чалавек — прозвішча забыў. Такое птушынае…

Сталін нейкі час пачакаў, потым паклаў трубку «вяртушкі».

— Падпольшчык Дрозд Мікалай Пракопавіч! — раптам успомніў Панамарэнка.

— Яму ордэн Леніна! — сказаў Сталін.

На момант размовы Сталіна і Панамарэнкі ў Маскве, Мікалай Дрозд быў ужо расстраляны ў Мінску.

Камандзір партызанскага атрада «Дзіма» Мікалай Пятровіч Фёдараў (мянушка «Колокол») дакладваў у Цэнтр: «Довожу, что в ночь с 21 на 22 сентября 1943 года совершена диверсия по убийству генерального комиссара Белоруссии Кубе. Диверсию совершили мои люди: работающие у меня «Черная» (Осипова Мария Борисовна), «Галя» (Мазаник Елена Григорьевна) и «Оля» (Щуцкая Валентина Григорьевна)».

26 верасня 1943 года з Цэнтра Фёдараву паступіла тэрміновае ўказанне: «Донесите немедленно и подробно, кто конкретно готовил операцию по уничтожению Кубе. Являются ли названные девушки-исполнители вашими агентами или они принадлежат другому хозяину? Если они ваши, то где, когда и кто их завербовал? Как они попали к вам после операции? Кто снабдил их материалами для проведения этой операции? Под вашу личную ответственность всех исполнителей сохранить и оказывать им лучшее внимание и заботу. Центр».



Аніта Кубэ з дарослымі сынамі. Гэта фота Аніта даслала Галіне Мазанік у лісце ў 1992 г.

Варта адзначыць, што інфармацыяй пра забойства Кубэ, якую Фёдараў накіраваў у Маскву, зацікавіліся начальнік ГРУ ГШ Чырвонай арміі генерал-лейтэнант Ф.Ф. Кузняцоў, кіраўніцтва НКУС СССР і асабіста Берыя.

29 верасня на розныя ўдакладненні з Цэнтра Фёдараў адказаў лаканічна: «Данную операцию по убийству Кубе готовил лично Колокол».

12 кастрычніка з Вялікай зямлі прыслалі за імі самалёт. Напярэдадні свайго вылету ў Маскву, М.П. Фёдараў накіраваў данясенне ў Цэнтр: «В 22 часа 12 октября «Колокол» [псеўданім М.П. Фёдарава — А.В.], Черная, Галя и Щуцкая с семьёй и от «Артура» [партызанскі атрад — А.В.] 5 человек вылетели на самолете в Центр».

Дастаўляў іх у Маскву экіпаж самалёта СИ–47, бартавы нумар 822, у складзе лётчыка Пакроўскага і штурмана Баравога.

У ГРУ ГШ Чырвонай арміі была складзена справаздача аб выніках аперацыі па знішчэнню Вільгельма Кубэ. У ёй, у прыватнасці, гаварылася:

«Убийство Кубе организовал командир диверсионно-разведывательной группы 2-го отдела РУ ГШ КА майор Фёдоров Николай Петрович, псевдоним «Колокол». Главным посредником и организатором убийства Кубе явилась Осипова Мария Борисовна, псевдоним Черная, резидент Колокола в Минске. Вторым посредником и связником между Черной и Галей был директор минского немецкого кинотеатра Николай Похлебаев. Исполнителем убийства Кубе является Мазаник Елена Григорьевна, псевдоним Галя. О подготовке и выполнении операции знали перечисленные выше пять человек».

У барацьбу за лаўры пераможцы ўвязваецца ЦШПР і БШПР.

Вось тэкст шыфра тэлеграмы, якая была накіравана з Масквы ажно 8 кастрычніка 1943 года за подпісам начальніка ЦШПР Панамарэнкі Р.Н. Мачульскаму, камандзіру партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомельскай зоны, там, дзе бяглянкі хаваліся ад гестапа, СС і паліцыі ў партызанскім атрадзе «Дзіма»:

«По словам Тимчука, у Лугина находится женщина, якобы совершившая акт над Кубе. Немедленно примите меры по доставке ее [в] Москву. Если есть еще какие данные, об этом сообщите. П. Пономаренко».

Былі і іншыя тэлеграмы падобнага зместу. Але ўсё было марна. У апошніх тэлеграмах Панамарэнка даваў указанні камандзіру партызанскай брыгады «Железняк» І.П. Ціткову і камандзіру партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомельскай зоны Р.Н. Мачульскаму: зрабіце ўсё ад вас залежнае, каб ніхто не прысвоіў сабе баявыя справы партызан.

«Как позже мне рассказывал Маклярский (вядомы савецкі разведчык), — успамінаў М. Хахлоў, — длинный список людей, которые были связаны с покушением на Кубе, вместе с точными докладами попал к Сталину. Он написал цветным карандашом короткое указание поперек титульного листа: «Конец ссоре. Девушки получат «героя», остальные ордена».

Магчыма, не было б Гояроў Савецкага Саюза А.Р. Мазанік, М.Б. Осіпавай, Н.В. Траян, каб у рукі ў той час (верасень — кастрычнік 1943 года) выпадкова ці невыпадкова, трапіла справаздача Бондарфа, дзе дакладна і ясна чорным па беламу было напісана, што аперацыя па падрыхтоўцы і забойству Кубэ была арганізавана і праведзена НКУС СССР і НКУС БССР. Берыя і Цанава гэты нямецкі козыр не ўпусцілі.

### Героі Савецкага Саюза і іншыя

Да пачатку вайны Мазанік 10 гадоў была супрацоўніцай НКУС БССР, працавала ў сталовай НКУС БССР і на ўрадавых дачах. Працуючы ў такіх высокіх урадавых установах, яна навучылася па-майстэрску і прыгожа сервіраваць абеды, банкеты, дні нараджэння, выгульваць сабак, няньчыць дзяцей.

У пачатку вайны спрабавала прабіцца на ўсход, далей ад наступаючых нямецкіх войск. Але, як і многім іншым, ёй давялося вярнуцца ў Мінск. Каб не памерці ад голаду, спачатку працавала на чорных работах у нямецкіх вайсковых часцях: мыла бялізну, прыбірала памяшканні і іншае. У канцы 1941 года Мазанік удалося паступіць на працу прыбіральшчыцай у казіно пры генеральным камісарыяце Беларусі. Прыёмам і афармленнем на работу рускіх асабіста займаўся сам Вільгельм Кубэ. Пасля адпаведнай праверкі, яе прынялі прыбіральшчыцай калідораў і туалетных пакояў: яе абавязкам было паліць печы, чысціць боты ахове і мыць бялізну.

3 чэрвеня 1943 года, паводле рэкамендацыі ад'ютанта Кубэ Карла Вільдэнштэйна, Мазанік пачала працаваць у якасці прыбіральшчыцы ў доме Кубэ. У свае 29 гадоў яна выгадна адрознівалася ад маладых прыгожых студэнтак, якіх бралі нямецкія акупацыйныя ўлады на працу ў якасці служанак. Вялікая, здаровая, працаздольная, вялікія ногі, рукі. У асабняку Кубэ па вуліцы Тэатрштрасе ўсе яе звалі «грос фраў Галіна».

Распавядаюць, што Вільгельм Кубэ ўзяў яе на працу прыслугай, добра ведаючы, што яна была супрацоўніцай НКУС БССР, і таму яна не праходзіла, як усе, «собеседования с пристрастием» з Кубэ.

Мазанік выконвала розныя даручэнні самога гаспадара, сервіравала сталы, рабіла прыборку ў асабняку. Мазанік не ведала нямецкай мовы. Якіх-небудзь дадзеных пра яе падпольную дзейнасць у акупаваным Мінску не было знойдзена і да нашага часу невядома.

29 кастрычніка 1943 года ёй было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Мазанік не лічыла забойства Кубэ сваім подзвігам. Пра тое, што яна здзейсніла подзвіг, яна даведалася з галоўнага дзяржаўнага дакумента — Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Больш таго, яна не магла нават увявіць сабе, якую сусветную пагалоску атрымае яе ўчынак.

Кажуць, што Мазанік была даверанай асобай Кубэ, ён ёй даваў сачыць за загрузкай вагонаў з каштоўнасцямі, рэквізаванымі ў Беларусі, з Мінску ў Берлін. І яна з гэтым даручэннем бліскуча спраўлялася. Багаж у цэласнасці дастаўляўся адрасатам — каштоўныя рэчы пераносіліся ў кватэру Кубэ ў Берліне, на яго дачу, яго бацькам і бацькам яго жонкі Аніты. Мазанік была «сваёй» у сям'і В. Кубэ. Яна была ў прыязных адносінах з яго жонкай, трыма іх сынамі, роднымі В. Кубэ і яго жонкі.

Распавядаюць яшчэ і пра тое, што ўсіх чатырох жанчын — Мазанік, Осіпаву, Траян і Шчуцкую — прывезлі на Лубянку, пасадзілі ў розныя кабінеты і прапанавалі напісаць, які яны прымалі ўдзел у забойстве Кубэ. У напісаных імі справаздачах было шмат іх заслугаў і бахвальства. Прачытаў гэта ўсё П.К. Панамарэнка, кажуць, за галаву схапіўся ў разгубленасці і прамовіў:

— Што рабіць з іхнімі справаздачамі? Кожная цягне коўдру на сябе!

Гэтыя справаздачы пасля прысваення ім звання Героя Савецкага Саюза паклалі «под сукно».

І толькі больш чым праз 30 гадоў у час падрыхтоўкі другой кнігі другога тома, якая з'яўляецца працягам трохтомнага выдання зборніка дакументаў і матэрыялаў «Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944)», гісторыкі Беларусі звярнуліся да матэрыялаў пра забойства Вільгельма Кубэ. Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», было прынята рашэнне на ўзроўні ЦК КП Беларусі даць пра забойства Кубэ дакумент «Из сообщения особой комиссии генерального комиссариата Белоруссии по итогам расследования убийства генерального комиссара Белоруссии В.Кубе в ночь на 22 сентября 1943 г.» за подпісам кіраўніка асобай камісіі штурмбанфюрэра СС і крымінальнага дарадцы Бандорфа. Гэта кніга выйшла ў Мінску ў выдавецтве «Беларусь» у 1978 годзе.

І яшчэ кажуць, што пасля Вялікай Айчыннай вайны муж Мазанік Браніслаў Антонавіч Тарлецкі, адслужыўшы ў Савецкай арміі, прыехаў у Мінск. На чыгуначным вакзале ў Мінску ён сустрэўся са сваімі даваеннымі сябрамі і за «франтавымі ста грамамі» даведаўся пра сваю жонку — Героя Савецкага Саюза, — як яна тут жыла, з кім была, з кім ваявала. Ён сустрэўся з ёй і развітаўся, з'ехаўшы на Далёкі Усход, дзе служыў. Мазанік больш замуж не выходзіла. Жыла адна ў Мінску (двое яе сыноў памерлі ў маленстве, яшчэ да вайны — у 1935-м і 1939 годзе).

Распавядаюць, Аніта Кубэ пасля Другой сусветнай вайны пісала Мазанік лісты, у якіх апраўдвала забойства Кубэ. Яна разумела, што Мазанік прымусілі яго забіць. А калі б яна не зрабіла гэтага, то забілі б яе. Алена Мазанік на лісты Аніты Кубэ не адказвала (як жа гэта ацэняць, што Герой Савецкага Саюза перапісваецца з жонкай заклятага ворага СССР), мусіць, баялася, што знойдуць яе па хатняму адрасу і заб'юць, баялася, што прыедуць з варожай нам краіны ФРГ, высачаць і распраўяцца з ёй.

Я думаю, што першыя гады пасля вайны Мазанік жыла ў страху за сваё жыццё. У 1966–1968 гадах я працаваў дырэктарам СШ. Настаўнікі да свята Перамогі прапанавалі мне запрасіць Мазанік у школу, каб яна расказала пра сваю барацьбу і пра забойства В. Кубэ.

Я звязаўся з ёй па тэлефону: прадставіўся і запрасіў на сустрэчу ў школу з вучнямі. Яна дала згоду, але паставіла ўмову: прывезці ў школу і адвезці дамоў, арганізаваць кветкі, пасля выступлення — абед і 50 рублёў.

Я расказаў настаўнікам пра ўмовы. Настаўнікі не пагадзіліся, і сустрэча не адбылася.

Распавядаюць, што пасля прылёту ў Маскву ў кастрычніку 1943 года з Беларусі Мазанік і яе сястру Валянціну з дзецьмі разлучылі з Осіпавай у аэрапорце Унукава і пасялілі на дачы вядомага савецкага лётчыка, генерал-маёра авіяцыі, Героя Савецкага Саюза Міхаіла Васільевіча Вадап'янава. Гэта дача, як і ўсе генеральскія дачы, знаходзілася ў падпарадкаванні ГРУ ГШ Чырвонай арміі пад Масквой у Сярэбраным бару і добра ахоўвалася.

ПАМЯЦЬ

# МЯЖА БЫЛА ПАД МІНСКАМ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Пасля таго, як «Беларуская чыгунка» перайшла на фармат «гарадскіх электрычак», кірунак Мінск—Заслаўе стаў вельмі папулярным не толькі сярод жыхароў старажытнага беларускага горада, але і сярод мінчан. Праўда, не шмат хто з цяперашніх беларусаў ведае адказ на пытанне, чаму чыгуначная станцыя ў Заслаўі называецца «Беларусь». Для гэтага вернемся на 90 гадоў назад.**


Польскі памежнік

У сакавіку 1921 года скончылася польска-савецкая вайна і быў заключаны Рыжскі мірны дагавор, па якім заходняя частка Беларусі была ўключана ў склад толькі што адроджанай польскай дзяржавы, а ўсходняя засталася за бальшавікамі. У выніку мяжа паміж дзвюма дзяржавамі прайшла ў некалькіх дзясятках кіламетраў ад Мінска. Старажытнае Заслаўе засталося на савецкім баку, а размешчаная там чыгуначная станцыя неўзабаве атрымала назву «Беларусь», бо з'яўлялася апошняй буйной беларускай станцыяй перад Польшчай.

## БССР: Заслаўе–Хмелеўка

Першыя савецкія памежныя часткі сталі прыбываць на мяжу ўжо ў 1921 годзе. У Беларусі былі створаны 6-я, 10-я і 21-я асобныя памежныя брыгады. На мяжы ствараліся заслоны ў выглядзе пастоў, якія, у сваю чаргу, аб'ядноўваліся ў памежныя ўчасткі. Мяжа разбівалася на раёны. Штабы дзвюх пагранічных дывізій знаходзіліся ў Мінску і Віцебску. У 1922 годзе ахова межаў была перададзена Дзяржаўнаму палітычнаму ўпраўленню (ДПУ).

На заходняй мяжы поўным ходам сталі будавацца памежныя заставы. Адна з такіх з'явілася і ў Заслаўі. Неўзабаве (у 1924 г.) была створана Заходняя памежная акруга, якая складалася з сямі атрадаў. У Заслаўі знаходзіўся штаб 15-га Заслаўскага пагранатрада. Адным з першых яго начальнікаў быў выхадзец з беларускага мястэчка Чэрыкаў, будучы начальнік пагранвойскаў НКУС СССР Аляксандр Кавалёў.

На прыгранічных тэрыторыях, у тым ліку і ў Заслаўі, сталі высяляць так званых «памешчыкаў», уладальнікаў зямлі. Мала хто ведае, што мікрараён Заслаўя Хмелеўка калісьці быў фальваркам. Хтосьці з землеўладальнікаў збег за мяжу — дзякуй Богу, тая была блізка, іншыя з прыгранічнай зоны былі выселены.

У пачатку 1930-х гадоў памежны рэжым яшчэ больш узмацнілі. Уводзілася абмяжоўваючая сістэма правіл, мерапрыемстваў і нормаў, якія рэгулявалі парадак уезду, пражывання і прац у памежных зонах. Уезд у пагранзону быў забаронены ўсім, акрамя сталых жыхароў.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў павялічваецца паток перабежчыкаў з Польшчы ў БССР. Маладыя беларускія сяляне, знаходзячыся пад уплывам прапагандыстаў з КПЗБ і бачачы дыскрымінацыйную палітыку польскіх улад у дачыненні да беларусаў, прымалі рашэнне сысці ў БССР. Частымі такія выпадкі былі і на ўчастку 15-га Заслаўскага пагранатрада. Адзін з жыхароў вёскі Векшыцы Пятрышкаўскага сельсавета Мінскага раёна Віктар Міланові ч узгадваў, што ў 1935 годзе ў яго вёсцы былі злоўлены «палякі». Гэтых людзей абшукалі і адправілі ў камендатуру ў Заслаўі. Там сабралася некалькі дзясяткаў «уцекачоў з захаду». Даходзіла і да кур'ёзаў. Аднойчы ў раёне Пятрышак мяжу перайшло цэлае вяселле: жаніх, нявеста, баяніст, сябры маладых. «Гасцей» з буржуазнай Польшчы пад канвоем суправадзілі ў пагранатрад.

Некаторых з перабежчыкаў арыштоўвалі, здараліся і выпадкі расстрэлаў. Але большасць «палякаў» сялілі ў мясцовых вёсках. Па ўспамінах заслаўчан, многія з тых, хто спазнаў усе выгоды «бальшавіцкага раю», голад і калектывізацыю, спрабавалі затым зноў вярнуцца ў Польшчу, але атрымоўвалася гэта не ва ўсіх.

Беглі і ў Польшчу ўсходнія беларусы. Напрыклад, увосень 1930 года з вёскі Векшыцы Пятрышкаўскага сельсавета збегла сям'я беларускіх сялян Павічавых. Савецкія памежнікі спрабавалі іх пераследаваць, але каля мяжы сабака след страціў...

Да канца 1930-х гадоў колькасць перабежчыкаў стала памяншацца. Гэта было выклікана ўзмацненнем жорсткасці ў адносінах савецкіх уладаў да нелегальных перабежчыкаў, якіх у БССР практычна пагалоўна сталі запісваць у катэгорыю «польскіх шпіёнаў». Аднак беларускія і польскія гісторыкі падкрэсліваюць, што пераходы з польскай тэрыторыі працягваліся да жніўня 1939 года.

## Шапавалы–Пелікшы

Палякі таксама ўзмацнялі ахову сваіх межаў. Насельніцтва памежных з СССР паветаў насцярожана ставілася да польскай дзяржавы. У сярэдзіне 1920-х стала ясна, што польская дзяржаўная паліцыя не ў стане арганізаваць якаснае функцыянаванне пагранічнай інфраструктуры. У гэтай сувязі ў 1924 годзе ўрад Другой Рэчы Паспалітай стварае новую ваенізаваную службу — Корпус аховы памежжа (КАП). Ужо ў верасні таго ж года была распрацавана арганізацыйная структура новага органу. Корпус адначасова падпарадкоўваўся Міністэрству абароны і Міністэрству ўнутраных спраў. Галоўнай задачай КАП была ахова памежнай тэрыторыі з Літвой, Латвіяй, СССР і Румыніяй (з лютага 1939 года). Варта ўлічваць, што заходнія рубяжы Польшчы ахоўвалі звычайныя памежныя войскі. У перыяд з 1929 па 1938 год адбылася вялікая колькасць змяненняў у арганізацыйнай структуры КАП. Мяняліся назвы падраздзяленняў, месца іх дыслакацыі.

Польскімі суседзямі 15-га Заслаўскага пагранатрада былі часткі 1-й роты батальёна КАП «Івянец». Гэта падраздзяленне ўваходзіла ў склад 2-й брыгады пагранаховы «Навагрудак». На польскіх і савецкіх ваенных мапах таго часу выразна відаць, што «насупраць» Заслаўя і фальварку Хмелеўка знаходзіліся польскія памежныя стражніцы Пелікшы і Шапавалы, асабісты склад якіх быў са ўзвода салдат, якімі камандаваў унцер-афіцэр. Штаб батальёна знаходзіўся ў Івянцы. Паміж польскімі заставамі і штабам была вельмі добра адладжаная тэлефонная сувязь, чым, да прыкладу, доўгі час не маглі пахваліцца савецкія памежнікі.

Асноўнай апорай «капістаў» былі асаднікі — былыя польскія вайскоўцы, якім даваліся зямельныя надзелы ў заходнебеларускіх ваяводствах. Тым, каму «пашанцавала» атрымаць зямлю наўпрост ля мяжы з Саветамі, па сутнасці, станавіліся польскім памежнікамі.

«Капісты» часта ладзілі дабрачынныя абеды для мясцовых жыхароў. Многія стражніцы дапамагалі школам. Сем'і афіцэраў КАП займаліся зборам адзення для сялян. Разам з тым польскія памежнікі жорстка змагаліся з любой антыдзяржаўнай дзейнасцю і часта выконвалі паліцэйскія функцыі па барацьбе з камуністычным і нацыянальным беларускім падполлем.

## Загад — перайсці мяжу

З пачаткам вайны з Германіяй большасць баяздольных частак польскай арміі, у тым ліку і некаторыя падраздзяленні корпуса памежнай аховы, былі перакінутыя на заходні фронт. Ва ўсходніх ваяводствах засталіся толькі аслабленыя гарнізоны пагранічных застаў ды штабное камандаванне.

Каля 8.00 жыхары Івянца пачулі гул матораў цяжкіх самалётаў. Ішла вайна, і да гэтых пагрозлівых гукаў івянчане даўно прызвычаіліся. Але замест крыжоў на крылах самалётаў яны ўбачылі чырвоныя зоркі. Апоўдні да будынка ваеннага шпіталя пад'ехаў грузавік. З яго вынеслі насілкі з цяжка параненым польскім памежнікам. Ён і расказаў, што савецкія войскі перайшлі мяжу.


Савецкія памежнікі пераходзяць савецка-польскую мяжу

Гарнізоны польскіх стражніц спрабавалі арганізаваць супраціў, але сілы былі няроўнымі. Памежнікі з заставы Шапавалы (знаходзілася прама насупраць фальварка Хмелеўка) пад камандаваннем капрала Нядзельскага аказалі ўпартае супраціўленне савецкім кавалерыстам, якія спрабавалі прарвацца на польскую тэрыторыю. Неўзабаве супраціў «капістаў» быў падаўлены. Памежнікі з Пелікш паспелі адысці ўглыб польскай тэрыторыі і, злучыўшыся з іншымі часткамі батальёна «Івянец», пайшлі ў бок Ліды. Пазней гэта падраздзяленне КАП было атакавана чырвонаармейцамі 145-га кавалерыйскага палка і амаль цалкам знішчана.

На працягу двух тыдняў Чырвоная Армія «вызваліла» Заходнюю Беларусь, а 28–30 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адбыўся Народны сход, на якім былі прыняты Дэкларацыі аб дзяржаўнай уладзе і аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР. 2 лістапада пазачарговая 5-я сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла Закон аб уключэнні ў склад СССР Заходняй Беларусі і яе ўз'яднанні з БССР, а 14 лістапада 1939 года 3-я сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР. У выніку тэрыторыя БССР павялічылася з 125,6 да 225,6 тысячы квадратных кіламетраў, а насельніцтва — з 5,6 да 10,3 мільёна чалавек.

Новая савецкая мяжа праходзіла цяпер па Бугу. Разам з гэтым не знікла і старая «рыжская мяжа». У мэтах «унутранай бяспекі» савецкія памежнікі ахоўвалі яе аж да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а дзеля яе перасячэння патрабаваўся адмысловы пропуск. У 1940 годзе 15-ы Заслаўскі пагранатрад быў расфармаваны, а яго асабісты склад быў перададзены ў распараджэнне 16-га Дзяржынскага пагранатрада. Канчаткова заходняя мяжа Беларусі вызначылася ў 1945 годзе.

* * *

У верасні 2011 года на могілках горада Глыбокае быў перапахаваны прах Паўла Палчынскага, камандзіра польскай памежнай заставы Каменны воз, які загінуў пры выкананні службовых абавязкаў 17 верасня 1939 года. На жалобнай цырымоніі было шмат беларусаў і палякаў.

Несправядлівая мяжа 1921 года стала адным са змрочных эпізодаў беларускай нацыянальнай гісторыі. Шмат пытанняў застаецца і ў дачыненні да «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 года». Бясспрэчным з'яўляецца тое, што ў яго выніку адбылося ўз'яднанне этнічных беларускіх земляў у адной дзяржаве, з якой нарадзілася Рэспубліка Беларусь. Але не варта забываць і аб ахвярах. Памяць пра тых людзей, у незалежнасці ад іх нацыянальнасці, веравызнання і дзяржаўнай прыналежнасці, павінна жыць з намі, бо з гэтых момантаў і складаецца наша нацыянальная гісторыя.

СПАДЧЫНА

# ДЗЯРЖАВА ТОЛЬКІ ДЭКЛАРУЕ ПАРТНЁРСТВА

Марат ГАРАВЫ

**«Дзяржава толькі дэкларуе партнёрства з грамадскасцю ў справе аховы спадчыны», — заявіў на прэсавай канферэнцыі старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.**

У пацвярджэнне сваёй заявы ён прывёў шмат фактаў, у тым ліку па абароне грамадскасцю ўнікальных куткоў гістарычнага цэнтра Мінска — старажытнай вуліцы Зыбіцкай (Гандлёвай) і паўднёва-ўсходняй часткі Замчышча.

Пытанне аб забудове правага боку Зыбіцкай паўстала даўно, але ні адзін з прадстаўленых афіцыйных праектаў не адпавядае заканадаўству і метадыкам у сферы аховы спадчыны. Астаповіч нагадаў, што ў мінулым годзе таварыствам быў распрацаваны эскізны праект рэгенерацыі дадзенай тэрыторыі, якім прадугледжана аднаўленне страчаных аўтэнтычнай планіровачнай структуры, будынкаў, гістарычнага ландшафту.

Нягледзячы на высокія адзнакі грамадскасці і спецыялістаў, перамогу на IV Мінскай міжнароднай біенале маладых архітэктараў «Леанарда–2011», прапанова таварыства была праігнаравана дзяржавай, а Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры ўзгадніла афіцыйны праект, хаця і рэкамендавала дапрацаваць яго з улікам прапаноў таварыства.

Калі знайшліся новыя інвестары, дарэчы з Расіі, зноўку навісла пагроза над Зыбіцкай, бо ў верасні мінулага года афіцыйная прапанова была падтрымана навукова-метадычнай радай для далейшай працы. Каб не дапусціць страты адной з апошніх пляцовак гістарычнага цэнтра Мінска, таварыства заклікала грамадскасць разам абараніць Зыбіцкую і дабівацца ад Мінгарвыканкама грамадскага абмеркавання праектаў.

Аднак сталічныя ўлады адмовіліся праводзіць грамадскае абмеркаванне праектаў па Зыбіцкай.

Прычыну такіх адносін дзяржавы да прапаноў грамадскасці ён бачыць у тым, што дзяржава ўклала вельмі вялікія грошы ў свае праекты.

ЦІКАВА

# НАШЧАДАК ЯГАЙЛЫ ЖЫВЕ Ў РЫЗЕ

Яўген БАЛЯСІН

**Ён «сочыць за лёсам колішніх народаў Кароны» і «калі што, гатовы дапамагчы». А мы гатовыя паслухаць аўгусцейшую, як ён сцвярджае, асобу. Мы размаўлялі ў Вільні, у гатэлі «Плаза». Мой суразмоўца — меркаваны нашчадак Ягайлы, на сёння паспаліты грамадзянін Латвіі — тлумачыць гістарычныя калізіі і сучасную стратэгію свайго жыцця.**



Фота аўтара

Марыс Янсанс-Ягайла

— Завуць мяне Марыс. Маё пашпартнае прозвішча цяпер іншае, але гістарычна я насамрэч Ягелон, нашчадак Ягайлы. Цікаўлюся ўсімі рэгіёнамі, якія калісь утваралі Рэч Паспалітую, як жыве народ у той краіне, у іншай… Так бы мовіць, не гублю каранёў, адчування… Не маю за мэту атрымаць з гэтага нейкую выгаду, але вось калі змагу чым-небудзь дапамагчы — дык дапамагу.

Марыс кажа, што спадкаемца караля Ягайлы па мацярынскай лініі. Прозвішча караля да свайго пашпартнага «Янсанс» дапісваць не стаў: «зашмат валакіты». Яшчэ адным доказам свайго «аўгусцейшага» паходжання спадар Янсанс лічыць знешняе падабенства з манархамі.

— Да 1800-х гадоў у маёй галіне ўсталёўваліся радзінныя сувязі паміж братамі і сёстрамі ў другім і трэцім калене. У XIX стагоддзі наступіў пэўны крызіс, — Марыс мае на ўвазе адыход ад дынастычных шлюбаў. — Калі я пастаўлю побач фатаграфіі свайго бацькі, бацькавых братоў і фатаграфію Ота Габсбурга — вельмі падобныя.

Ягелон з Рыгі выступае за базавыя каштоўнасці — сям'ю, зямлю, старажытнабалцкія і старажытнаславянскія традыцыі. Гаспадары на сваёй зямлі не дапусцяць крыміналу, экалагічных катастроф, кажа ён. Што да ролі караля, меркаваны нашчадак Ягайлы супраць перайманняў.

— Не думаю, што трэба каго-небудзь капіяваць. Атрымліваецца, што кароль — гэта ў нейкай меры народны клерк, які падпарадкоўваецца волі народа. Гэта вялікая адказнасць, і гэта «жыццё пад лупай», лічыць нашчадак.

Таму спадар Янсанс-Ягайла, не збыт вагаючыся, кажа пра свой цяперашні сямейны статус: 48-гадовы свабодны бацька трох дзяцей. Ад першага шлюбу — дзве дачкі. Ад другога, цывільнага шлюбу — 12-гадовы сын, з якім ён жыве ва ўласнай кватэры блочнага дома. Каб забяспечыць сына і сябе, даводзіцца працаваць.

— Калісьці быў інжынерам-сувязістам, потым нейкі час працаваў на мытні. Добрыя засталіся ўражанні. Гандлем займаўся. Цяпер абслугоўваю нерухомасць. Сын ходзіць у звычайную школу па суседству з домам. Агульныя хобі — гэта крыху рыбалка і крыху спорт. Лучаць і замежныя мовы, — распавядае Марыс. — Лічу, што ў кожнай дзяржавы павінна быць свая мова. У беларусаў — беларуская, у Літве — літоўская, у Латвіі — латышская, у Польшчы — польская, у Малдове — малдаўская, ва Украіне — украінская. Галоўнае, каб дзяржавы адна адну падтрымлівалі.

Спадар Янсанс-Ягайла быў запрошаным госцем партыі «Tautininku Sajungos» («Звяз літоўскіх народнікаў»). На з'ездзе ў Вільні казаў пра перспектыву латвійска-літоўскай федэрацыі.

— Цяпер гучаць галасы супраць купнай пабудовы трох атамных станцый: Вісагінскай у Літве, Астравецкай у Беларусі ды Балтыйскай у Калінінградскай вобласці. Непакоіць будаўніцтва АЭС ды могільніка радыеактыўных адходаў у Фінляндыі. Ёсць і іншае… Адсочваю сітуацыю, — кажа Марыс Янсанс-Ягайла.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

**Молі — самая вясёлая дзяўчынка ў свеце!**



Яна заўсёды нешта выдумляе, можа гуляцца бясконца, нават на самы маленькі знак увагі адказвае бязмежнай радасцю! Яна вельмі любіць дзяцей, добра ладзіць з іншымі жывёламі. Молі яшчэ маладая — ёй амаль годзік, часам паводзіць сябе як дзіцё, таму шукае сям'ю, дзе ёй змогуць падараваць дастаткова ўвагі і займацца яе выхаваннем. І Молі адплаціць любоўю і адданасцю.

Рост кала 40 сантыметраў, стэрылізаваная. Яна добрая ахоўніца, звонкі званочак!

Молі апякаюць валанцёры, пакуль яна не сустрэнецца з ВАМІ!

Тэлефануйце! 8-029-775-57-53 Анастасія

**Эдвін — котка, якая ніколі не сумуе!**

Нават калі няма кампаніі, яна можа і з уласным хвастом пагуляцца. Гэта не котка — а паласатая маланка з вусамі. Эдзі па натуры лідар, у яе востры розум і арыгінальны погляд на звычайныя прадметы. Яна цудоўна ведае, што такое латочак. А яшчэ не баіцца вады. Котцы 8 месяцаў.



Для тых, хто пакутуе ад адзіноты, Эдвін — лепшае рашэнне! Тэлефануйце! 8-029-610-87-91 Наталля

АНОНС

**«Штомесяц 13-га па-беларуску» і прома-група ВЮ прадстаўляюць Канцэрт да Дня Святога Валянціна**

**«ПРЫЗНАННІ» ў розных стылях**

**13 лютага 2012 (панядзелак). Клуб «Салтайм» (пр. Незалежнасці, 131/1). 19.00**

Паліна Рэспубліка (бард); «Нельга Забыць» (акустык-рок); «ВЕРАСЕНЬ» (рок); «White Night Blues» (блюз); «3-Zna» (альтэрнатыўны рок)

Супольны праект Вольгі Акуліч (аўтар ідэі «Штомесяц 13-га па-беларуску» пры падтрымцы «Будзьма беларусамі!») і прома-групы ВЮ да Дня Святога Валянціна паказвае, як можна прызнацца ў каханні ў розных музычных стылях. У цэнтры ўвагі «Прызнанняў» — усё багацце гукавой палітры, усе выяўленчыя магчымасці гітарнай музыкі.

**Замова квіткоў:**
+375 29 640 09 38 (velcom)
+375 25 622 95 03 (life:)
+375 29 560 77 93 (МТС)
Кошт — 20 тысяч папярэдне, 25 тысяч у дзень канцэрта
Аўтар ідэі — Віка Трэнас, e-mail: trenas007@gmail.com; http://vika-trenas.livejournal.com/
Менеджэр праекта — Юлія Новік, http://interviewsculture.wordpress.com
Дызайн афішы — Алена Босава



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 83

Падпісана да друку 27.01.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.